Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 22 (4771) 6 чэрвеня 2014 г.



## Пункцірам

✔ Беларусь застанецца прыхільнай міжрэлігійнаму міру і нацыянальнаму спакою. Гэта падкрэсліў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з удзельнікамі IV Еўрапейскага праваслаўна-каталіцкага форуму «Рэлігія і культурная разнастайнасць: выклікі хрысціянскім цэрквам у Еўропе». У віншаванні з пачаткам форуму Кіраўнік дзяржавы адзначыў сімвалічнасць таго, што высокая сустрэча царкоўных іерархаў праходзіць у Беларусі, і выказаў упэўненасць, што форум паспрыяе духоўнаму збліжэнню еўрапейскіх народаў, кансалідацыі іх намаганняў па пошуку сумесных шляхоў вырашэння вострых праблем сучаснасці.

✔ Прэзідэнт павіншаваў з 60-годдзем народнага артыста Беларусі Сяргея Жураўля. Адзначаны бліскучая акцёрская дзейнасць, яркі талент, віртуознае майстэрства пераўвасаблення. Як падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы, створаныя Сяргеем Жураўлём ролі ў спектаклях па творах беларускіх і замежных аўтараў сталі яркай старонкай нацыянальнага тэатральнага мастацтва, аказалі значны ўплыў на яго развіццё.

✔ Прадстаўнікі 26 краін возьмуць удзел у IX Беларускім міжнародным медыяфоруме «Партнёрства ў імя будучыні: рэаліі глабальнага свету», які адбудзецца 8 — 12 чэрвеня. Арганізатары — Міністэрства інфармацыі Беларусі, Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы, Міждзяржаўны фонд гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД, Беларускі саюз журналістаў. Удзельнікаў чакае пленарнае пасяджэнне, тэматычныя панэлі і эксперт-сесіі, летняя школа журналістыкі з майстар-класамі. Падрыхтавана і культурная праграма.

✔ У межах Дзён культуры Беларусі ў Францыі дэлегацыя дырэктараў найбуйнейшых дзяржаўных музеяў нашай краіны ўпершыню пабывала ў Парыжы. Візіт быў арганізаваны па ініцыятыве Пасольства Беларусі ў Францыі пры падтрымцы Міністэрства культуры Францыі. Кіраўнікам айчынных устаноў распавялі пра новыя падыходы ў арганізацыі і планаванні дзейнасці французскіх музеяў.

✔ Адроджаны часопіс пісьменнікаў Расіі «Невский альманах», які выдаецца ў Санкт-Пецярбургу, нядаўна сустрэў свой дзесяцігадовы юбілей. На старонках першага нумара часопіса за гэты год была прадстаўлена і творчасць беларускіх аўтараў. Тут надрукаваны вершы Уладзіміра Мазго (пераклад Анатоля Аўруціна), Уладзіміра Шуглі, Аляксандра Раткевіча.

✔ Каля 100 удзельнікаў з Беларусі, Украіны, Фінляндыі, Вялікабрытаніі і Расіі сабраў завяршальны этап адкрытага міжнароднага форуму «Славянская ліра-2014», які прайшоў 3 — 4 чэрвеня ў Полацку пры падтрымцы Полацкага райвыканкама.

✔ Канцэртна-абрадавая дзея «Зялёныя Святкі» адбудзецца заўтра ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Наведвальнікам прапануюць навучальныя майстар-класы па беларускіх танцах, гульнях, пляценні вянкоў. Кульмінацыяй стане мастацкая рэканструкцыя ўнікальнага самабытнага абраду «Кумленне» паводле этнафоніі Магілёўскага Падняпроўя ў выкананні маладзёжных фальклорных гуртоў.

# Сонца, якое завецца Кніга




Фота Кастуся Дробава

*Акцыя «Лета з добрай кнігай!» распачалася ў Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага.*

Кажуць, што яны асвятляюць зямлю і наваколле, запускаюць у космас, вучаць прыгажосці і мудрасці, а іх героі становяцца сябрамі, засцерагаюць і дапамагаюць у цяжкія хвіліны. А яшчэ яны валодаюць неверагоднай, амаль магічнай здольнасцю нават самы пахмурны і дажджлівы дзень ператварыць у вясёлы і сонечны. Натуральна, гаворка ідзе пра кнігі.

Ва ўсіх гэтых незвычайных здольнасцях, здавалася б, самай звыклай рэчы, лёгка маглі пераканацца госці Цэнтральнага дзіцячага парку імя М. Горкага, дзе ў Міжнародны дзень абароны дзяцей акурат каля помніка пісьменніку разгарнулася асобная кніжная пляцоўка. Менавіта тут распачалася рэспубліканская акцыя «Лета з добрай кнігай!».

У якасці арганізатараў гэтага маштабнага праекта выступілі Міністэрства інфармацыі краіны, Мінгарвыканкам, Брэсцкі, Віцебскі, Гомельскі, Гродзенскі, Магілёўскі аблвыканкамы, райвыканкамы, Выдавецкі дом «Звязда», Саюз пісьменнікаў Беларусі, ААТ «Белкніга», выдавецтва «Мастацкая літаратура», Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі і Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя.

— Рэспубліканская акцыя «Лета з добрай кнігай!» заклікана звярнуць увагу беларусаў на тое, як дзеці будуць праводзіць час улетку, якія кнігі яны будуць чытаць і ці будуць чытаць увогуле, — зазначыла першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч. — Нашы выдавецтвы выпускаюць вельмі многа добрых, карысных, патрэбных кніг. Нашы дзеці чытаюць. Але задача дарослых — паклапаціцца пра тое, каб добрая кніга прыйшла ў кожны дзіцячы аздараўленчы лагер, школьную бібліятэку не толькі як фізічны аб'ект, але стала сапраўдным госцем разам з пісьменнікамі, выдаўцамі. Думаю, што гэтую акцыю падхопіць уся краіна, што яна дойдзе да кожнага горада і раёна. Ідэя клопату пра кнігу павінна аб'яднаць дарослых і дзяцей, старэйшае і малодшае пакаленні беларусаў, каб наша краіна стала яшчэ больш цудоўнай, канкурэнтаздольнай і ў грамадстве сцвярджаліся самыя лепшыя ідэалы.

Заканчэнне чытайце на стар. 3




# Прэмія беларускаму перакладчыку

**Акадэмік Сербскай Акадэміі навук і мастацтваў і член Саюза пісьменнікаў Беларусі, доктар філалагічных навук Іван Чарота адзначаны літаратурнай прэміяй імя Радэ Драінца.**

Падзея — з беспрэцэдэнтных. Наш суайчыннік — першы замежны грамадзянін, які ўганараваны гэтай адзнакай. Радэ Драінц — адзін з найцікавейшых пісьменнікаў Сербіі дваццатага стагоддзя, талент маштабу нашых народных паэтаў Аркадзя Куляшова і Пімена Панчанкі. Радэ Драінц нарадзіўся ў 1899 годзе, памёр у 1943-м. Прайшоў аднымі дарогамі са сваім народам у самыя няпростыя часіны. Першая паэтычная кніга Драінца — «Сіні смех» (1920). У 1922 годзе літаратар заснаваў часопіс «Хіпнос», у якім і аб'явіў праграму новага паэтычнага кірунку — «хіпнізм». Затым пабачылі свет кнігі Драінца «Поезд адыходзіць», «Бандыт ці паэт», «Банкет», «Уліс», «Чалавек спявае», «Дыханне зямлі», «Сад Афрадыты», «Эратыкон», «Лірычныя мініяцюры», «Дзве авантурыстычныя паэмы». Пасмяротнай сталася кніга «Чорныя дні». У 1998 — 1999 гг. пабачыў свет Збор твораў у 10 тамах.

Іван Аляксеевіч Чарота пераклаў зборнік выбраных вершаў Р. Драінца «Праклён неспакою» на беларускую мову. Кніга выйшла ў Бялградзе ў выдавецтве «Рівел Ко». Між іншым, выданне ажыццёўлена сумесна з Выдавецкім домам «Звязда», што і пазначана ў выхадных дадзеных. Прыклад такога супольнага ўзнаўлення нацыянальнай класікі — сведчанне дружбы і паміж славянскімі літаратурамі, і паміж выдавецтвамі Сербіі і Беларусі.

Варта нагадаць, што падобныя праекты ажыццяўляюцца дзякуючы энтузіястам, дзякуючы творчай і жыццёвай самаахвярнасці такіх руплівцаў, як Іван Чарота. Плён зробленага ім для прадстаўлення сербскай культуры і літаратуры ў Беларусі, Расіі, увогуле ў славянскім свеце ўражвае. Іванам Аляксеевічам здзейснены пераклады больш як 1000 твораў. Асобнымі кнігамі плёнам працы беларускага сербіста пабачылі свет на беларускай і рускай мовах паэзія, проза, публіцыстыка Патрыярха Сербскага Паўла, свяціцеля Нікалая Велімiравіча, прападобнага Юсціна Попавіча, Марка Ямаркавіча, Іва Андрыча, Браніслава Нушыча, Добрыцы Чосіча, Нэвены Вітошавіч, Зорана Гаўрылавіча, Грозданы Олуіч, Джорджа Нікаліча, Моміра Лазіча, Ліляны Хаб'янавіч Джуравіч, Бена Зупанчыча і інш. Наш суайчыннік заснаваў серыю «Сербскае багаслоўе ХХ стагоддзя», у якой пабачыла свет каля чатырох дзясяткаў кніг. Сярод сербскіх узнагарод лаўрэата Прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» Івана Чароты — ордэн Святога Савы ІІІ ступені, Залаты знак Культурна-асветнага таварыства Сербіі, медаль «За заслугі».

**Мікола БЕРЛЕЖ**

## *Акцыя*

# Старт ад першага дня

У бібліятэцы сямейнага тыпу № 13 г. Мінска, даведаўшыся пра акцыю «Лета — з добрай кнігай», якую ініцыявалі Міністэрства інфармацыі, Мінскі гарвыканкам, Выдавецкі дом «Звязда» і «Белкніга», не сталі адкладваць яе пачатак у доўгую скрыню. Ужо на наступны дзень пасля ўрачыстага адкрыцця важнага кніжнага мерапрыемства ў сталічным дзіцячым парку імя М. Горкага тут наладзілі сустрэчу чытачоў з пісьменнікам Анатолем Зэкавым, які аднолькава паспяхова піша і для дарослых, і для дзяцей.

Вучні малодшых класаў сярэдніх школ № 58 і 77, якія пасля навучальнага года бавяць канікулы ў школьным летніку, з увагай слухалі аповед госця пра першыя кнігі, прачытаныя будучым пісьменнікам у маленстве, і многае іншае. Згадваў А. Зэкаў кнігі, выпушчаныя выдавецтвам «Мастацкая літаратура». У тым ліку і ўласныя: «Не казкі пра Сашку» і «Безбілетны Зай» (апошняя зусім нядаўна папоўніла серыю «Нашым дзеткам», дзе дагэтуль пабачылі свет прыгожа ілюстраваныя вершаваныя зборнікі Р. Барадуліна, Н. Галіноўскай і Р. Баравіковай).

Анатоль Зэкаў чытаў казкі і вершы, распавядаў вясёлыя гісторыі, загадваў паэтычнаматэматычныя загадкі, за правільныя адказы ўручаў сувеніры і пакідаў аўтографы на ўспамін.

**Аліна РАЧЫЦКАЯ**

# Пра вайну — памятаць!

**Навукова-практычная канферэнцыя «Актуальныя праблемы будаўніцтва і развіцця Саюзнай дзяржавы» адбылася 27 — 29 мая ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел дэпутаты Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, кіраўнікі органаў Саюзнай дзяржавы, навукоўцы і журналісты, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў.**

Канферэнцыю адкрыў старшыня Камісіі Парламенцкага Сходу па бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю Валерый Гайдукевіч. Старшыня Камісіі Парламенцкага Сходу па інфармацыйнай палітыцы Андрэй Навумовіч нагадаў пра значную каштоўнасць гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і частыя скажэнні рэальных фактаў, якія дапускаюць некаторыя журналісты і гісторыкі. У час пленарнага пасяджэння былі агучаны шэраг дакладаў, у тым ліку — першага намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч, намесніка дырэктара НББ па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Алеся Сушы, старшыні СПБ Мікалая Чаргінца.

Даклады, якія прагучалі на наступны дзень, збольшага былі прысвечаны дзвюм праблемам: фарміраванню патрыятызму ў сучаснай моладзі і неаб'ектыўнасці СМІ ў асвятленні гістарычных падзей. Удзельнікі першай секцыі («Вялікая Айчынная вайна як адна са старонак агульнага гістарычнага мінулага Беларусі і Расіі») засяродзілі ўвагу на асаблівасцях стратэгічнай наступальнай аперацыі «Баграціён». Кандыдат ваенных навук, прафесар Ваеннай акадэміі Беларусі Вячаслаў Шацько падкрэсліў выключна высокія ацэнкі гэтай аперацыі з боку замежных ваенных спецыялістаў. У час яе правядзення многія ўдзельнікі вайны выйшлі з нацысцкага блока, а Гітлер назваў прарыў на ўсходзе «сапраўднай пагрозай для Германіі».

Даклады другой секцыі («Гуманітарныя аспекты захавання ў Рэспубліцы Беларусь і Расійскай Федэрацыі гістарычнай памяці пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны») пераважна датычылі выхавання маладога пакалення. Старшыня Гродзенскага абласнога савета Беларускага саюза афіцэраў Міхаіл Жураўкоў распавёў пра выхаваўчую і педагагічную работу са школьнікамі, адзначыў вялікую ролю ваенна-палітычных класаў і курса гісторыі Вялікай айчыннай вайны. У 361 школе Гродзенскай вобласці працуюць 253 школьныя музеі, дзе значная частка экспазіцыі прысвечана ваеннаму перыяду. Дзякуючы вучням падрыхтавана 310 змен і дапаўненняў у раённыя кнігі памяці (як высветлілася, у адну з іх трапіў нават здраднік).

Трэцяя секцыя канферэнцыі працавала пад шыльдай «70-годдзе вызвалення Беларусі — галоўная інфармацыйная падзея Саюзнай дзяржавы». Тэматыка дакладаў была даволі разнастайнай. Сакратар Саюза журналістаў Расіі Рафаэль Гусейнаў падкрэсліў значнасць гістарычных музеяў, прысвечаных Другой сусветнай вайне, — «унікальных сплаваў гора, мужнасці, здрады і памяці, якія патрэбны, каб гады вайны засталіся сур'ёзным досведам для будучых пакаленняў».

Намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда», галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Алесь Бадак прысвяціў сваё выступленне літаратурным кантактам на абсягах Саюзнай дзяржавы. «Для нашага часу характэрна ўзаемнае прыцягненне культур і разам з тым сцвярджэнне сваёй адмысловасці. Выдавецкі дом «Звязда» робіць шмат, каб стасункі паміж Беларуссю і Расіяй не перапыняліся, садружнасць умацоўвалася і развівалася. З 2006 года часопіс «Неман» штогод рыхтуе сумесныя нумары з часопісам «Современник», за гэты час на старонках «Нёмана» было надрукавана больш як сотня сучасных рускіх пісьменнікаў, не вельмі вядомых беларускаму чытачу. Беларускія аўтары ў перакладзе на рускую мову таксама друкуюцца ў часопісе «Наш современник», у «Литературной газете». У нас добрыя стасункі з выдавецтвам «Молодая гвардия», бо хто, калі не беларус, напіша пра вядомых беларусаў? Шмат увагі мы надаём пісьменнікам, якія прадстаўляюць розныя народы Расіі. Мы ведаем Чынгіза Айтматава і Расула Гамзатава, а маладзейшых — не, хаця з іх творчасцю таксама хацелася б пазнаёміцца. У пятым нумары «Нёмана» прадстаўлены вершаваныя падборкі дваццаці пяці паэтаў, якія прадстаўляюць народы Расіі, і гэты кірунак працы — наша адмысловае ноў-хаў».

Сакратар СПБ Георгій Марчук заклікаў усіх ганарыцца Радзімай, падкрэсліў значнасць духоўнасці і міру.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Акорды праўды, акорды фантазіі…

Прэзентацыя празаічнага зборніка «Чыстая праўда і фантазія» літаратурна-музычнага аб'яднання «Акорд» адбылася ў сталічнай бібліятэцы № 15 імя Цёткі.

На пачатку імпрэзы загадчыца кніжніцы Рэгіна Багамолава прадставіла публіцы ініцыятара, рэдактара рускамоўнай часткі і аднаго з аўтараў выдання, паэтэсу, празаіка, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамару Залескую. Тамара Георгіеўна адзначыла, што аб'яднанне «Акорд» існуе ўжо шосты год. На яе думку, уласная кніга дапамагае аўтару сцвердзіцца ў жыцці.

Акрамя Т. Залескай аўтарамі гэтага выдання з'яўляюцца рэдактар яго беларускамоўнай часткі, член СПБ Юрый Юлаў (сапраўднае прозвішча — Гарбачоў), Андрусь Данілевіч, Уладзімір Тулінаў, Ядвіга Рай і Мікола Ліннік.

Сапраўды «акордавы» тон вечарыне задаў пяцікурснік Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Яўген Гальцоў, які навучаецца па класе фартэпіяна. Уласныя творы публіцы прадставілі Т. Залеская і Ю. Юлаў.

На імпрэзе прысутнічала таксама паэтэса, член СПБ Вольга Шпакевіч, якая прадставіла ўвазе публікі шэраг афарызмаў, знойдзеных ёю на старонках прэзентаванага зборніка. Нікога не пакінулі абыякавымі і адрасаваныя кожнаму з аўтараў кнігі чатырохрадковыя паэта і педагога Эдуарда Самойлава.

**Яна ЯВІЧ**

# Пад эгідай ЮНЕСКА

Выстаўка, прымеркаваная да Дзён славянскага пісьменства і культуры, адкрылася 3 чэрвеня ў Штаб-кватэры ЮНЕСКА. У якасці арганізатараў выступілі Форум славянскіх культур і этнаграфічныя музеі 12 краін-удзельніц Форуму. Выстаўка прысвечаная традыцыйным народным фэстам і абрадам. Нацыянальная экспазіцыя падрыхтаваная Беларускім дзяржаўным музеем народнай архітэктуры і побыту.

На цырымоніі адкрыцця мерапрыемства выступіла намеснік дырэктара Цэнтра сусветнай спадчыны ЮНЕСКА Мешцільд Рослер, а таксама дырэктар Форуму славянскіх культур Андрэа Рыхтэр і старшыня Міжнароднай рады музеяў Ханс-Марцін Хінз. Выстаўка будзе экспанавацца ў ЮНЕСКА да 13 чэрвеня. Арганізатары мяркуюць цягам двух гадоў прадэманстраваць экспазіцыю ва ўсіх краінах-удзельніцах, у тым ліку ў Беларусі.

**Іна ЛАЗАРАВА**

# Журналістам Берасцейшчыны

**У Брэсце былі падведзены вынікі конкурсу сярод рэдакцый абласных, аб'яднаных, гарадскіх і раённых газет, тэлебачання і радыё, прафесійных журналістаў Брэсцкай вобласці.**

Гэтым разам цырымонія ўзнагароджання пераможцаў і лаўрэатаў штогадовага спаборніцтва стала юбілейнай. Пачатак мерапрыемства быў пакладзены дзесяць гадоў таму. Яго ініцыятар — старшыня абласнога выканаўчага камітэта Канстанцін Сумар. Пачуць ацэнку сваёй працы, атрымаць узнагароды з рук губернатара было прыемна кожнаму пераможцу і лаўрэату.

— Журналістыка развіваецца разам з грамадствам. А сутнасць прафесіі застаецца тая ж — пісаць і даносіць інфармацыю да чытачоў не толькі аператыўна, але і ўдумліва, даходліва, аб'ектыўна і сумленна, — адзначыў Канстанцін Сумар.

Журналістыку Брэсцкай вобласці заўсёды адрознівае высокі прафесіяналізм. На думку губернатара, у газетных публікацыях, тэлевізійных і радыёперадачах у апошнія гады стала больш канкрэтыкі.

Прафесійнаму майстэрству журналістаў Брэстчыны шмат у чым паспрыяў штогадовы абласны конкурс сярод прадстаўнікоў СМІ. Актуальнасць, аператыўнасць, творчасць і аб'ектыўнасць, — галоўныя рысы медыясферы рэгіёна. Гэта пацвердзілі ў сваіх выступленнях падчас цырымоніі ўзнагароджання старшыня Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў Сяргей Ашмянцаў, намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама Леанід Цуприк, старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч, старшыня абласной арганізацыі Беларускага саюза журналістаў Георгій Тамашэвіч ды іншыя, хто таксама ўручаў прэміі і дыпломы пераможцам.

**Анатоль МІКАЛАЕЎ**

# Сонца, якое завецца Кніга

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Падчас афіцыйнага старту акцыі маленькія чытачы маглі пазнаёміцца са сваімі любімымі пісьменнікамі, набыць іх кнігі, наведаць прэзентацыі, пагуляць у гульні, а таксама атрымаць аўтографы. Так, гасцямі і актыўнымі ўдзельнікамі свята былі Уладзімір Мазго, Алесь Савіцкі, Міхась Пазнякоў, Ніна Галіноўская, Анатоль Зэкаў, Аксана Спрынчан, Андрэй Смятанін, Генадзь Аўласенка, Віктар Ляскоўскі і многія-многія іншыя аўтары, якія адрасуюць свае творы маленькім чытачам. Дарэчы, акцыю падтрымалі не толькі бацькі і дзеці, але і прадстаўнікі ўлады. Так, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па аграрнай палітыцы Уладзіслаў Цыдзік заўважыў:

— Лета, праведзенае з добрай кнігай, карыснае ў многіх адносінах. З аднаго боку, эфектыўнае выкарыстанне вольнага часу і, канечне, спосаб самаадукацыі і духоўнага ўзбагачэння. Гэта вельмі важна.

Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк сталіцы таксама прапанавала дзецям вясёлую і пазнавальную праграму. Дзеці маглі пагуляць у міні-хакей, паўдзельнічаць у майстар-класе мастачкі Даны Руновай, а правільна адказаўшы на пытанні літаратурнай віктарыны, атрымаць прызы. Маленькая яркая хатка з надпісам *Bookcrossing* прапаноўвала наведвальнікам сапраўдныя скарбы. Да прыкладу, зусім бясплатна тут можна было пазычыць кнігі Аляксандра Волкава з цыкла «Чараўнік Ізумруднага горада», творы Антона Чэхава, а я знайшла сярод выданняў любімую казку свайго дзяцінства — «Цудоўнае падарожжа Нільса з дзікімі гусямі» Сельмы Лагерлёф. На некаторы час яна затрымаецца на маёй паліцы, а потым, па законах праекта *Bookcrossing,* знойдзе новага чытача.

Арганізатары свята дзіцячай кнігі звярнулі ўвагу і на мастацтва аздаблення выданняў. Так, Дзіцячая бібліятэка № 10 г. Мінска сумесна са студыяй выяўленчага мастацтва «Калякі-малякі» і расійскім выдавецтвам «Самакат» арганізавалі конкурс малюнкаў па кнігах вядомага брытанскага пісьменніка Дэвіда Макі з серыі «Элмер, слон у клетачку». З-за дажджу конкурс размясціўся ў адной з утульных залаў сямейнай кавярні *Family Club.* Кнігі Дэвіда Макі — пра незвычайнае і пазітыўнае стаўленне да жыцця, іх галоўным героем з'яўляецца слон


Фота Кастуся Дробава

Элмер, які ўсіх весяліць. Элмера вельмі проста маляваць, і пасля знаёмства з гэтым персанажам многія маленькія чытачы не могуць ад гэтага ўстрымацца. Так, у фінале конкурсу ўзяло ўдзел 22 малюнкі, зробленыя дзецьмі ад 4 да 9 гадоў. Адметна, што пераможцаў вызначаць шляхам ананімнага галасавання, а ў якасці суддзяў таксама выступаюць дзеці. Усе фіналісты атрымаюць вясёлыя магніты з выявамі герояў серыі, а ўладальнікі першых трох месцаў — камплекты кніг пра слана Элмера. У перакладзе на рускую мову ў выдавецтве «Самакат» ужо пабачыла свет чатыры гісторыі.

— Сёння пачатак лета, і таму нават дождж не страшны: ён заўсёды да багацця, а значыць, мы будзем багатымі гэтым летам. Пісьменнікі — на новыя творы. Дзеці — на новыя любімыя кнігі, — мяркуе галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура», паэт Віктар Шніп. — Летам заўсёды здараюцца нечаканасці. Але можна прадказаць дакладна, што кніга застанецца з намі. Вельмі добра, што выдавецтвы плённа працуюць, а бацькі набываюць і чытаюць кнігі дзецям.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Гісторыя Перамогі

У Мар'інай Горцы ў галерэі раённага музея разгорнута выстаўка, прысвечаная гісторыі вайсковых злучэнняў, што ў розны час дыслацыраваліся ў Мар'інай Горцы і ваколіцах.

На стэндах — цікавыя і ўражальныя факты, згадкі пра легендарных асоб, чые ваенныя біяграфіі перасекліся з Пухавіцкім краем. У мястэчку Пухавічы, зусім паблізу ад Мар'інай Горкі, пачынаў свой баявы шлях двойчы Герой Савецкага Саюза Якаў Смушкевіч. Дарэчы, у гэтай жа вёсцы перад самай вайной знаходзіўся 3-і цяжкабамбардзіровачны авіяцыйны полк. Месцілася на Пухавіччыне і 15-я авіяцыйная база. А яшчэ ў Мар'інай Горцы размяшчаліся падраздзяленні 11-й кавалерыйскай Арэнбургскай дывізіі імя таварыша Марозава.

Перад самай Вялікай Айчыннай вайной на базе 214-й паветрана-дэсантнай брыгады быў разгорнуты 4-ы дэсантны корпус. У 1940-я і пазнейшыя дзесяцігоддзі ў Мар'інай Горцы дыслацыраваліся 8-я гвардзейская танкавая дывізія, 30-я Іркуцка-Пінская мотастралковая дывізія імя Вярхоўнага Савета РСФСР, іншыя вайсковыя злучэнні. Частка сённяшняй гісторыі горада і раёна — гэта, зразумела, і біяграфія 5-й брыгады спецыяльнага прызначэння. Было яшчэ і Пухавіцкае пяхотнае вучылішча, якое насіла гэтую назву і ў час свайго існавання нават за межамі Беларусі.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Жыццёвым полем

Марыя Шакун, удзельніца народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь», прэзентавала сваю другую кнігу вершаў «Жыццёвае поле». Як і першы зборнік «Песняй рамонкаў», чарговы пабачыў свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці».

Падзея нешараговая: выдавецтва стала ініцыятарам прыняцця Марыі Антонаўны ў Саюз пісьменнікаў Беларусі — без аніякіх «выпрабавальных тэрмінаў». З гэтай нагоды на прэзентацыі выступілі першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, старшыня прыёмнай камісіі Уладзімір Навумовіч, галоўны спецыяліст Мінскага абласнога аддзялення пісьменніцкай арганізацыі Рагнед Малахоўскі, доктар філалагічных навук прафесар Іван Саверчанка, а таксама зямляк паэткі — знаны творца Віктар Шніп. Кожны з іх падкрэсліў вартасці ўзмоцненай маральна-выхаваўчым пачаткам паэзіі Марыі Шакун. «Гэта той чалавек, які ідзе па жыццёвым полі, заўважаючы на ім кожную травінку, і паказвае яе нам», — заўважыла дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух, патлумачыўшы тым самым і назву новай кнігі. «Глыбокая народная этыка — сапраўдная дамінанта творчасці Марыі Шакун, — дадаў Іван Саверчанка. — Толькі запаведзяў тут не дзесяць, а ўсе сто». Разнастайны характар твора абумоўлены, напэўна, шырынёй тэматычнага дыяпазону кнігі: вершы пра ўласныя вытокі, родныя мясціны, вандроўныя ўражанні, цёплыя ўспаміны пра родных людзей.

Выхаваўчы патэнцыял гэтай лірыкі тлумачыцца тым, што аўтарка ўсё жыццё прысвяціла педагагічнай дзейнасці: шаснаццаць год выкладала мову і літаратуру ў адной з валожынскіх школ, потым працавала ў раённым аддзеле адукацыі. «Сапраўдныя вершы пачалі нараджацца тады, калі быў назапашаны жыццёвы досвед, прыйшлі самастойныя думкі, выспела прага падзяліцца ўсім гэтым з іншымі… Дзеля чаго? Я хачу, каб людзі былі душэўнымі і добрымі».

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Трыгорскае, Пятроўскае, Міхайлаўскае

Сёння спаўняецца 215 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Пушкіна. Да юбілею ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна адбылося адкрыццё персанальнай выстаўкі Галіны Худніцкай «Паэзія. Прырода. Пушкін». Работы, выкананыя ў тэхніках пастэлі і батыку, адлюстроўваюць знакамітыя пушкінскія мясціны — Міхайлаўскае, Пятроўскае і Трыгорскае — у залаты час восені. Выстаўка прадугледжвае не толькі эстэтычнае задавальненне: побач з карцінамі змешчаны расповеды пра сядзібы, якія належалі роду Пушкіна, апісанні асобных будынкаў, успаміны гасцей паэта і вядомыя вершы класіка.

У светлых і лёгкіх пейзажах гучыць пушкінская рамантычнасць і таямнічасць восені. Паводле Галіны Худніцкай, экспанаваныя работы былі створаны цягам пяці пленэраў, на якіх давялося пабачыць восень у рознае надвор'е і ў розных колерах.

— Пушкінскія сядзібы — гэта ўнікальнае месца, адмысловая атмасфера. Шырокія абсягі, лукавіна ракі… Але ўсе яны розныя, — распавяла Г. Худніцкая. — Пятроўскае збудаванае паводле моды. Знаходзіцца яно воддаль ад турыстычных маршрутаў, і менавіта гэтым мясцінам я прысвяціла найбольш увагі. Трыгорскае — гэта ўтульнасць, камфорт, гасціннасць, добразычлівасць. Міхайлаўскае — гэта душа, там шмат прасторы і неба, шмат дрэў — сады і прысады. І зямля, і дрэвы нясуць адмысловы адбітак, пушкінскія радкі нібыта лунаюць у паветры…

Розныя тэхнікі даюць магчымасць па-рознаму ўбачыць адны мясціны. Калі малюеш па мокрым шоўку, фарба цячэ, усё рухаецца, бяжыць,


Фота Дар'і Міхалевіч

усё дыхае, работа прасякнута паветрам, вадой, водарамі. Батык дазваляе выявіць стан прыроды, а пастэль — наблізіць дэталі сядзібы. Пастэль — гэта магчымасць больш грунтоўнай, дэталёвай вымалёўкі прадметаў, нават моху і кары дрэў, гэта выяўленне духу праз каларыстычныя нюансы».

Па меркаванні мастачкі, гэты выставачны праект — адмысловае бачанне не толькі пушкінскіх сядзіб, але і асобных твораў. «Я даўно хацела спалучыць свой жывапіс з літаратурнай класікай, з паэзіяй. Вядома, восень была для Пушкіна ўлюбёнай паравінай года, ёй ён прысвяціў найбольш вершаў. Восень — гэта і самая багатая каларыстычная гама: сінеча неба, рознакаляровыя дрэвы. Добра, што работы пушкінскай серыі экспануюцца ў гэтай зале: тут ёсць феномен інтэлектуальнай пляцоўкі, супольнасць людзей, якія чытаюць і думаюць…»

Выстаўка была адкрыта ў трэці дзень лета і працягнецца па 12 чэрвеня.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# З прыватных калекцый

На выстаўку «Краявіды зямлі беларускай», дзе экспануюцца творы вядомых беларускіх мастакоў другой паловы мінулага стагоддзя, запрашае Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Наведвальнікі пазнаёмяцца з жывапіснымі палотнамі слаўтых майстроў пэндзля Барыса Аракчэева, Гаўрылы Вашчанкі, Раісы Кудрэвіч, Альгерда Малішэўскага, Анатоля Шыбнёва, Валянціна Савіцкага ды іншых.

Крыніца натхнення для мастакоў і «галоўны герой» выстаўкі — беларускі краявід. Вясна з вірлівымі ручаінамі, суровая зіма з моцнымі маразамі і белым да сіні снегам, гарачае лета і шчодрая восень, пагоркі, лясы, закінутыя сажалкі, светлыя стажкі на беразе Свіслачы — стрыманая колеравая гама, зменлівае святло, натуральныя адцені, што трансфармуюцца ад зусім бляклых да насычана цёмных, ствараючы адзіную прастору эмацыянальнага ўспрымання рэальнасці. Розная — у кожнага мастака свая, багатая на нюансы — манера выканання, рознае бачанне наваколля, рознае адчуванне перспектывы і своеасаблівая арганізацыя прасторы: вузенькая вясковая вулка, шырокая пойма ракі, далягляд, што адкрываецца са стромы, — маляўнічыя мясціны Лагойшчыны, Салігоршчыны, Віцебшчыны… Творы, што «дыхаюць адным дыханнем», ствараючы ў выніку адзінае і непадзельнае цэлае, імя якому — Беларусь.

**Марыя РУДОВІЧ**

# «Мастацкая» ў Віцебску

Бадай, няма такой катэгорыі бібліятэчных работнікаў, для якіх бы не ладзілі семінар у Віцебскай абласной бібліятэцы. Гэтым разам абмяняцца досведам з калегамі прыехалі загадчыкі аддзелаў маркетынгу і рэкламы раённых бібліятэк Прыдзвінскага краю. звыкла, як кажуць, варыцца ва ўласным саку, яны былі прыемна здзіўлены, калі да іх завіталі госці з Мінска — работнікі выдавецтва «Мастацкая літаратура»: дырэктар Уладзіслаў Мачульскі, галоўны рэдактар Віктар Шніп і вядучы рэдактар Анатоль Зэкаў.

Сталічныя выдаўцы распавядалі пра кніжныя навінкі, раскрывалі выдавецкія сакрэты, прапаноўвалі варыянты супрацоўніцтва ў распаўсюджванні мастацкай літаратуры, узмацненні ролі кнігі ў нашым закамп'ютарызаваным жыцці.

Зрэшты, абодва рэдактары выдавецтва — і галоўны, і вядучы — не прамінулі нагадаць маркетолагам бібліятэк Віцебшчыны і пра тое, што яны пры ўсім яшчэ сам паэты. Удзельнікі семінара з задавальненнем паслухалі ў аўтарскім выкананні вершы Віктара Шніпа і пародыі Анатоля Зэкава.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

Калектыў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю вядомага творцы, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, былога супрацоўніка штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» і галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Генадзя БУРАЎКІНА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Калектыў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы выказвае глыбокія спачуванні з прычыны смерці выдатнага беларускага паэта Генадзя БУРАЎКІНА, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Разам з усім беларускім народам мы засмучаны гэтай стратай.

## Мар'ян ДУКСА



***

*Не хоча ні песціць, ні гушкаць
дзень сённяшні бесцырымонны.
Няроста як, рэдкія птушкі,
вам вытрымаць нораў ягоны.
Вас губіць, напэўна, бязвер'е,
палохае клімат нязвычны.
У вас далікатнае пер'е,
залішне паёк ваш хімічны.*

*Мо зменіцца штосьці паціху.
Вас тыя, хто меў спачуванне,
занеслі ў Чырвоную кнігу.
А гэта ўжо выратаванне…
Наш лёс не сказаць што салодкі
між рыфмаў, паміж трыялетаў.
Камусьці занесці б усё-ткі
ў Чырвоную кнігу паэтаў.*

***

*Перамяшаліся мінус і плюс,
нечага цэлага —
толькі палова…
Ты праўдалюбец і трошачкі хлус —
гэткім бываеш ты аднначасова.
Што за суседства адчужаных слоў?..
Спіць абыякавасць ля спачування.
Блізенька ходзяць халоднасць — любоў,
помста вядзе пад руку дараванне.
Божа, о як ускладніўся наш лёс,
звычка адвольнасці запанавала.
Сёння ў душы раздзяляльных палос
неверагодна і дзіўна як мала.
Хутка сумленне цвікамі прыб'юць
тыя, ў каго малаток пад рукамі.
Злое і добрае суіснуюць
побач, назваўшы сябе сваякамі.*

***

*Ён дыхае —
глабальны крах.
Наш лёс —
зямнога лёсу копія
зноў лапашыцца ў сэрцы
страх,
душу штодзённа точаць фобіі.
Ляціць трывог
пчаліны рой
ужо з любымі пераменамі.
Хоць узвышаецца настрой
людскі
старраннымі шаўменамі.
Умеем плаваць на вірах,
круціцца вучымся вавёркамі.
А ўсё-ткі наш паганы страх
кіруе цёмнымі падкоркамі.
Ён лезе ўсё-такі пад дах —
як вынік нейкага прабачання?
А можа,
мой панічны страх
прыйшоў з часіны раскулачвання.
Гады сплылі, як ручаі,
але ўспамін трывогай пырскае.
Жывучы страх маёй сям'і —
выкідванне ў снягі сібірскія…*

## Іна ФРАЛОВА



## Прага крыла

*Спяшаецца, ляціць у просінь
Жывы лісток календара.
Мы пройдзем разам гэту восень,
Калі б прыйшла яе пара.*

*Не хмур у роспачы ты бровы,
У сумны спеў дажджоў не вер.
Іх песень словы —
толькі словы,
А я дару крыла давер.*

*А як спатолім прагу досыць
Мы з лістападам-матылём,
Пераживём і гэту восень,
Пераживём, пераживём...*

## Стары вальсок

*Плыў майскі вечар.
Школьныя арэлі
З ахрыплым ветрам роўна, ва ўнісон
Стары вальсок, вальсок стары рыпелі.
Ляцеў матыў вясне той наўздагон.*

*Былой вясне, што ў годзе сорак першым
Была равесніцай бязвусых хлапчукоў.
Ёй давяралі пра каханне вершы,
Ёй давяралі таямніцы слоў.*

*У вальсе кружаць закаханых пары
І хмеліць пахам белапенны бэз,
А неба крышаць жоўтыя пульсары —
У твар вайне зірнуў зялёны Брэст.*

*Сядзіць салдат і круціць, як цыгарку,
Стос думак пра вайну і маладосць.
За тых, хто спіць, падніме моўчкі чарку,
Калі рубель які ў кішэні ёсць.*

*Вялікі горад.
Што тут за дзівосы:
Па вузкіх вулках ходзяць скразнякі.
Ды падхапілі ў нейкі міг нябёсы
Вальсок стары, стары вальсок такі...*

## Мова

*Няма дзе прытуліць мне галаву —
Разбураны мой дом. Губляю веру.
Абрысы слоў кідаю на паперу.
Не ведаю, жыву ці не жыву.*

*Найлепей таму краю анямець,
Дзе мову абражаюць недаверам.
Як адмяраем,
будзе тая ж мера —
Чужыя песні нашым дзецям пець.*

*Народзе мой, няўжо сярод людзей
Табе маўклівым быць і непачутым,
Табе —
мой велічны, славуты —
Жыць вечна без прытулку і надзей?!*

***

*Тваё каханне мне як абярэг,
Як першы пробліск маладога ранку,
Як абуджальны спеў вясновых рэк
І вуснаў дотык раніцой ля ганка.*

*Тваё каханне —
прага гонкіх крыл,
П'янкімі вёснамі якую не спатоліць.
Калі ізноў чакаць хапае сіл,
Чакаць ад шчасця, гаркаты і болю.*

***

*Напоўнюся табой, як гэта робяць рэкі,
Прачнуўшыся ў пару па маладой вясне.
Скідаючы з плячэй зімовыя даспехі
Аб тым,
што я жыву, яны напомняць мне.*

*Напоўнюся табой,
нібы дажджом саспелым,
Як ноч, напоўнюся купальскай варажбой,
У гразкі лістапад —
чаканым, чыстым, белым,
Як першым снегам —
я напоўнюся табой.*



Фота Кастуся Дробава

## Аляксей ГАЛАСКОК



## Плача каня

*Плача каня над былой рачулкай,
Купінку не знойдзе для гнязда.
Плач вісіць шчымлівы, гулкі
Над зямлёю,
дзе была вада.*

*Хмызнякі пануюць на тым месцы,
Не відаць нат лужыны нідзе.
А калісьці тут спакуснік-месяц
З зоркамі гарэзіў у вадзе.*

*Шмат птушыных тут было чародак,
Маладняк з іх адлятаў у свет.
І прастор быў для чаўноў і лодак...
Знішчыў тое чэрствы чалавек!*

*Асушыў,
павыганяў, бы з раю,
Братоў меншых з кроўнае зямлі —
Ні лугоў, ні ворыва не маем
Там, дзе хвалі чыстыя плылі.*

*Продкі нашы шчыра, без падману
Дазвалялі побач жыць усім.
Не ў нябёсах горка плача каня —
Ў сэрцы растрывожаным маім.*

## На Радзіме

*Спазнаў я абдымкі тугі,
Мне сум развітання знаёмы.
Чужыя вітаў берагі,
З іх птушкай рваўся дадому.*

*Калі на Радзіму ляцеў,
Здавалася, зложацца крылы:
Стагнаў, не скараўся, цярпеў —
Адкуль толькі браліся сілы?*

*А сёння з палескай зямлі
Гляджу з захапленнем у неба
І ведаю, што не пяклі
Нідзе, як тут, смачнага хлеба.*

*А з нашых празрыстых крыніц
Глыточак вадзіцы спатоліць...
Я ў госці прыеду —пакліч,
А вось назаўсёды — ніколі!*

*У свеце ёсць многа краін
Дзіўнейшых. Цяплейшых, багатых.
А я, шляхам стомлены сын,
Вярнуўся ў бацькоўскую хату.*

*Адсюль мо душа адляціць
Да зорак пад плач завірухі.
Зямля, дзе пашчасціла жыць,
Будзь мне дываном, будзь і пухам.*

## Абеліск

*Тут, на Палессі, дзе жыта кусціцца,
Побач з таполяй стаіць абеліск.
Сэрцу матулі старэнькай не спіцца,
Птушкай трапеча, да сына ляціць.*

*— Ветрам ляцела, шукала хвілінку,
Каб наглядзецца як след на цябе.
Дзе твая, родны, прапала сцяжынка?
Хто запыніў, не пусціў да мяне?*

*Сумнымі сталі, сынок, твае вочы,
Ў горы няўцешным застылі яны.
Я ўсё чакаю цябе днём і ноччу,
З першага ранку праклятай вайны.*

*Звон над зямлёю плыве вечаровы,
З неба па хмарах спускаецца ўніз.
Плача матуля пад шум тапалёвы,
У горы маўклівым стаіць абеліск.*

## Беларусь мая родная, мілая...

*Беларусь мая родная, мілая,
Да цябе я заўсёды ляцеў
Птушкай стомленай з выраю,
Шляхам тым, што вядзе карацей.*

*Не магу наглядзецца ў азёры —
У дзівоснай вады глыбіню,
Дзе начамі абмерваюць зоры
Над маёй галавой вышыню.*

*Не магу абысці ўсе палеткі,
Павітаць і гаі, і бары,
Не магу надзівіцца на кветкі,
На вясновы блакіт угары.*

*У жыцці яшчэ многа не змерана,
Нельга ў думках усё зразумець.
Будзе жыць Беларусь мая, веру я,
Будзе садам вясновым квітнець.*

## Васількі

*Жыццё маё,
здаецца, не пражыта:
Звіняць яшчэ на ніве каласкі.
І ад людзей чамусьці ў жыта
Хаваюцца нясмела васількі.*

*Мая краіна,
Богам дараваная...
Здаўна тут людзі добрыя жывуць.
І небам васількі пафарбаваныя
На дыванах сваіх дзяўчаты ткуць.*

*Няхай красуе на палетках жыта,
Хай слуцкі пояс мкнецца праз вякі.
А для мяне адвечны скарб набыты —
Маёй радзімы ў жыце васількі.*



## Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

# Летацішына золата

*Апавяданне-быль*

Баба Летаціха — так звалі Міхаіліху, родную цётку маёй маці. Летаціха, або проста Летата. Нарадзілася яна на Століншчыне, у Вялікім Малешаве, што за сем кіламетраў ад нашай вёскі, і была з роду Пісаравых. З гэтага роду два браты: бацька маёй маці Пятро і Міхалка Флар'яновічы, а Ганна, адзіная іх сястра, пайшла замуж у Толмачава за Гананайку Міхаіла яшчэ пры Польшчы і цяпер знайшла вечны спакой на толмачаўскіх могілках.

Калі ў Толмачаве ў 1957 годзе асталявалася жыць мая маці, то цётка Ганна была адзінай нашай сваячкай на ўсю вёску. І неяк пасля вяселля, паклікаўшы маці ў госці, тайком пахвалілася, што ў яе ёсць золата, не проста пахвалілася, а дастала са скрыні невялічкі пудэлак, перахоплены гумкай, і высыпала на стол мікалаеўскія чырвонцы, дзясяткі, пяцёркі, якіх, па словах маці, было не менш як сорак.

Міхаіліха па целаскладзе была «громбаба», магутная, не абхопіш рукамі, здаровая і марудная, а сам Міхаіл — худзенькі і жвавенькі, яго яшчэ чамусьці дражнілі Зайчыкам. Як толькі яны пабраліся, то Міхаіл і сказаў сваёй маладой жонцы: «Ганно, пожывем трохі для сябе, поспеем яшчэ дзецьмі абзавесціся». Але Гасподзь не любіць такіх хітруноў, узяў і не даў дзяцей Ганне з Міхаілам. І пражылі яны цэлы век бяздзетнымі. Летаціха была скваппнаю, бывала, папросіць мяне што-небудзь зрабіць — каровы адпасвіць, ці сена павярнуць, ці яшчэ ў якой рабоце дапамагчы, — і калі я прыйду дамоў, то баба Маруся, маці майго бацькі, і пытаецца з цікаўнасцю: «А чым яна цябе карміла? А што дала?»

Ежа ў Летаціхі была заўжды нейкая нясмачная. Сказаць па праўдзе, я нават гідзіўся есці ў іх: у хаце патыхаў замшэлы дух, якаясьці затхласць і задуха. Нават гарбузікі, якімі яна частавала мяне, заўжды былі сыраватымі і смажыліся на бляхе не на алеі, як звычайна, а ўсухую. Гарбузікі бабы дзерлі горла. А калі, бывала, мы клянчылі ў дарослых капеек на кіно, то яны знарок пасылалі нас да Летаціхі: «Сходзець до бабы Ганны, няхай дасць вам на кіно». Прыйшлі аднойчы з Надзяй, маёй старэйшай сястрою, папрасіць тыя дзесяць капеек, дык яна замест дзесяці капеек дала тры яйкі, каб здалі ў магазін і абмянялі на грошы, а другім разам дала некалькі шкляных слоікаў: «Ідзець, здайце ў магазін, вось і будуць вам грошы на кіно».

Калі я хадзіў у клас сёмы, баба Ганна неаднойчы ўгаворвала маці, каб я ішоў да іх жыць. Ды і мне не адзін раз казала: «Ідзі жыць до нас, бо мы ўжэ слабые, доглядзіш, — і ўсе богатство тобе достанецца, і хату тобе отпішом». Але мне нават уявіць было жудасна, што я жыць буду ў іх, настолькі гэта было дзіка.

Неяк разам з Міхаілам мы ездзілі ў грыбы, і давялося начаваць у іхняй хаце. Падняліся ў чатыры гадзіны і паехалі на роварах у Рубрын, а гэта добрыя сорак кіламетраў, калі не болей. Грыбоў, помніцца, набралі добра, цэлую шаньку баравікоў, штук сто дваццаць, калі памяць не падводзіць. Тады я і зразумеў, чаму Міхаіла пацвельваюць Зайчыкам: толькі здалёк заўважу барвяную шапку баравіка, іду ўжо ў тым кірунку з нажом напагатове, каб акуратненька падрэзаць, як аднекуль выскоквае Міхаіл: «Это мой, мой грыб!» — скочыў, падрэзаў жвавенька і кладзе ў свой кораб, я так ні з чым і застаўся. Некалькі разоў так паўтаралася, было адчуванне, што ён не па лесе шукае грыбы, а за мною цікуе, у мяне ж зрок лепшы, чым у яго, старога. Але хапіла грыбоў і яму, і мне дасталося ўволю.

Ганна з Міхаілам амаль першымі ў вёсцы набылі тэлевізар. Хадзіў такі анекдот пра іх, глядзяць яны кіно, а Міхаіл і гаворыць: «Ганно, выключай! Заўтра догледзім гэтэ кіно».

На людзях Ганна любіла паказаць, як яна мяне любіць, і ўсім падкрэслівала, што гэта «наш Толя»: сустрэне, бывала, каля магазіна, калі прыеду на канікулы ці на гульбы іду, і прылюдна абслюнявіць, абавязкова тры разы пацалуе і абавязкова ў губы, не думаючы пра тое, што маладому хлопцу, можа, і не зусім прыемна, калі старая бабуля цалуе ў губы.

Пасля войска, як часта здараецца ў жыцці, у мяне двайнік з'явіўся. Здаецца, хлопец быў родам з Запясочча ці з Верасніцы — адным словам, дзесьці з-пад Турава. Мне сказалі, што хлопец рыхтык да мяне падобны. Калі я ўпершыню ўбачыў яго ў нашым клубе, то сам быў агаломшаны нечаканасцю, першая недарэчная думка ў свядомасці: «Я!» — і шок, а затым: «Слава!» — і здзіўленне, бо мой сябра Слава Гананайка таксама быў падобным да мяне, сядзелі ў школе за адной партай, і настаўнікі нас часта блыталі. Хлопец насіў такую ж куртачку, такія ж вусікі, быў такога ж, як і я, невялічкага расточку, нос з гарбінкай, валасы — усё было ідэнтычным, дакладная мая копія. Нават аднавяскоўцы аднойчы сказалі маёй маці: «Твой Толя прыехаў», — абазнаўшыся.

— А дзе ж ён?

— Там стаіць, каля магазіна.

Маці здзівілася яшчэ, што я не іду адразу дахаты, як звычайна, а чагосьці стаю каля магазіна. Павезла на ровары малако ў бідончыку здаваць і спынілася паблізу. Маці ёсць маці, маці не можа не пазнаць свайго сына, але і яна была здзіўлена падабенствам. А вось Летаціха была добраю пляткаркаю і любіла мянціць языком, дзе трэба, дзе не трэба. Заўсёды ўставіць свой гостры, як брытва, язычок і плявузгае абы-што. «Смеховішчэ дый годзе», — як у нас кажуць. За тое і мела непрыемнасці ад людзей, за тое і не любілі яе — за доўгі, як памяло, язык. Дык вось, Летаціха ўбачыла гэтага хлопца, расставіла рукі ўшыркі, абняла, расцалавала: «А колі ж гэто ты, Толічок, прыехаў?»

— Да вот толькі што. З аўтобуса іду.

— Дык мо і Надзя прыехала?

— Не, Надзя не прыехала, — прыняў гульню двайнік, — не одпусцілі з роботы.

Пагаварыў з бабай і пайшоў сваёй дарогай. Расказваюць, што таго хлопца, які быў так падобны да мяне, потым зарэзалі на танцах дзесьці пад Туравам.

А мне першы зуб выбілі ў Пінскім тэхнікуме, другі выдзерлі, калі шчаку разнесла флюсам. Так што ў войска я пайшоў з дзвюма жалезнымі фіксамі. І акрамя таго, што мяне ў Галеве дражнілі Кудлатым, мяном, якое мне падабалася, яшчэ і называлі іншымі клікухамі, то Парень с песней, бо заўсёды спяваў ці пад гітару, ці проста акапэльна, то Высоцкі, таму што быў падобным да Уладзіміра Сямёнавіча, сяды-тады яшчэ прышпільвалі мянушку Атаман Жалезны, хоць яна мне не вельмі падабалася. Прыйшоў з войска, зноў жа, усё праз флюсы, якія немаведама чаго разносілі мае дзёсны і шчокі, а ўрачы, доўга не думаючы, выдзіралі зубы. З войска прыйшоў з цэлым радам устаўных жалезных. А такому прыгожаму і маладому, як я, патрэбна было ўставіць зубы залатыя. Вось і паслала мяне маці да бабы Ганны, каб дала ці прадала парачку царскіх залатовак.

Ганна бажылася, што золата ў яе няма, што яно ўсё пайшло на хату, якую збудавалі з Міхаілам, што ім ніхто не дапамагае, і папракнула мяне, што калі яна прасіла, так і не прыйшоў жыць да іх. Адным словам, не дала яна золата і не прадала. Давялося купляць у нейкага яўрэйчыка ажно ў Сарнах. Зубы з мікалаеўскіх чырвонцаў былі прыгожымі, усе заўважалі, што яны менавіта з чырвонага золата і высокай пробы. Але гаворка тут пра «Летацішына золата». Пад канец васьмідзясятых, калі вучыўся ў Маскве, яшчэ адзін раз я зайшоў да бабы Ганны, мусібыць, дапамагаў нешта, і яна запрасіла паабедаць. Дастала фотакарткі, расказвала пра дзеда Пятра, як яна яго любіла. Тут я вазьмі ды і скажы:

— А што, бабо, няўжо не засталося ніводнай залатоўкі?

— Канечне, нічога не засталося. А навошта табе тое золата?

— Зрабіў бы дзірачку і насіў бы, як медальён, на шыі, была б памятка.

— Ага, коб мо дзе знялі по п'янцы ці зарэзалі за тэ золото. Вон твой дзед Міколай у войну тожэ прыходзіў, путаўса про золото. Коб ты буў жонаты, то можэ й знайшла б якую пяцёрочку. А так не, нема золота.

Ажаніўся я ў 1990 годзе, вяселле згулялі 3 лістапада, на «Казанскую», а ў народзе кажуць: «Хто на Казанскую жаніхаецца, той ніколі не каецца». Двух сыноў нарадзіла мне мая Вераніка. Незадоўга да смерці Летаціхі, будучы ў гасцях у Толмачаве, я звадзіў Вераніку ў яе хату, каб паказаць, якую жонку выбраў. Пасядзелі за сталом крыху, размова не клеілася, а баба з-за сваёй заўсёднай скваппнасці нават чаю не падала, гаварылі пра нешта будзённае, і тут мне раптам успомнілася, як некалі казала Летаціха, «коб ты жанаты буў, то мо і знайшлася б якая пяцёрачка».

— Бабо, дык вось мая жонка. Можэ, знойдзеш якую пяцёрочку на памяць.

Яна зноў пачала аднекваццa, што ніякага золата ў яе не засталося, што жылі яны цяжка, помачы ні ад каго не бачылі, што не даў Бог дзяцей. І выйшла ў суседні пакой, а праз якую хвіліну прынесла картку:

— Вось, — працягнула мне, — няхай будзе табе на памяць.

Здаецца, з гэтай жа самай карткі на гранітным помніку Летаціхі майстар выбіў выяву. Праз год Міхаіліха памерла. І застаўся Міхаіл адзін. Якое ж здзіўленне было на вёсцы, калі да Міхаіла прыйшла жыць Волечка, гадоў на дзевятнаццаць за яго маладзейшая. За Летацішына золата пайшла, гаварылі ў Толмачаве. І забрала Волечка золата, але не спажыла яго і дзеці яе не спажылі.

Міхаіл быў з роду Гананайкаў, далёкі сваяк майго сябра Славы. І людзі пагаворвалі, што вось, маўляў, як Бог няправільна зрабіў: золата сплыло ў чужыя рукі. Бо калі б дасталося ў наш род, то гэта было б справядліва, бо баба Ганна — родная цётка маёй маці, або калі б дасталося Васілю Слаўкаваму, то таксама было б справядліва, бо Ганна першая памерла, а Міхаіл Слававаму бацьку таксама дзядзька. Але ж Куцыкам пайшло золата, ні туды і ні сюды. Трапалі языкамі людзі, пакуль хтосьці не зразумеў, не ўспомніў, чаму золата пайшло менавіта туды. Аказваецца, маці Паўла Адамавіча Кудласевіча, які быў стрыечным братам майго дзеда Мікалая і першым на вёсцы кавалерам ордэна Леніна, яго маці, старая Мішчыха, калісьці выцягнула мяне з Яцеля.

Раней увесну Толмачава залівала ў разводзе. А пасярэдзіне вёскі быў Яцель, вялікае доўгае возера, праз якое нават мост драўляны збудавалі вяскоўцы. Помніцца, жылі мы ў дзяцінстве, быццам у раі: лотаць цвіла, белыя і жоўтыя гарлачыкі… На лодках плавалі і рвалі кветкі. Расказваюць, было мне тады гады тры, гуляўся з дзецьмі каля вады і боўтнуўся ў возера, паборсаўся бездапаможна і пайшоў на дно. Старая Мішчыха на пратве* паласкала ручнікі ці бялізну мыла. Убачыла, што дзіця тоне, скочыла ў ваду і выцягнула мяне за валасы. Я нічога гэтага не помню — бо быў жа зусім малым.

Вось і заплаціў Гасподзь за маё выратаванне чыстым золатам, бо Волечка — гэта жонка Паўла Адамавіча, нявестка старое Мішчыхі. Патрымала яна тое золата ў руках, але ж, мусіць, не вартаю была прыняць такі дар, ні дзецям не аддала, ні ўнукам, а ўсё з сабою насіла, зашыла ў пояс і ніколі з ім не разлучалася. Забрала яе «хуткая», і калі Волечка была беспрытомнаю, то выразалі той пояс з залатымі мікалаеўскімі чырвонцамі гарадчукі. Можа, той, каму дасталося золата бабы Ганны, аказаўся больш годным, бо Гасподзь Бог наш ведае, чым і як скіраваць чалавека на шлях правільны.

**P. S.** Куды падзелася Летацішына золата, я, вядома, не ведаю, але нечакана пачуў сумную вестку, калі ўдакладніў у сваякоў сэнс слова «пратва», бо ў маёй свядомасці, яно асацыіравалася чамусьці як «прасла». Спачатку патэлефанаваў жонцы майго сябра Лексе, растлумачыў, чаго хачу, і яна адразу мне выдала: «пратва». Пагаварылі пра тое, пра сёе, яна і кажа: «Ты звані мне, калі што падобнае трэба ўспомніць, бо яшчэ ж жывая мая маці». Маці Аляксандры завуць рэдкім на Палессі іменем Марта, яна цешча майго сябра Славы. Ужо трубку хацеў класці, як Лекса раптам пытаецца: «Ці праўда, што Сэр памёр?»

— Не ведаю. Ад цябе першай чую. А хто сказаў?

— Алег Раманаў, ён жа ў Гродзенскай вобласці, казаў камусьці, што Света званіла яго сястры Ніне ў Кіраваград і сказала: Сяргей памёр.

Набіраю мабільны нумар Святланы, маёй стрыечнай сястры, і даведваюся, што Сяргея сёння пахавалі. А чаму ж мне ніхто не сказаў? Не стрымаўся, заслаў на яе… Зусім нядаўна ж вярталіся з Толмачава са Святланай, калі ездзіў на Радаўніцу дадому. Не пазванілі ні Марыя Нікіфараўна, маці Святланы, ні сама яна, ні яе муж Коля, ні іх дачка Марына… Усе забыліся пра мяне. Сяргей Далідовіч, вечная яму памяць, прыязджаў з Мінска на канікулы кожнае лета пачынаючы з чацвёртага класа, мы з ім аблазілі ўсе канавы ў Толмачаве — мая родная вёска стала для яго другой радзімай. Але нашага Сэра, Сяргея Далідовіча, ужо няма на гэтым свеце. А потым я жонцы і кажу: так, пэўна, было ўгодна Богу, бо калі б быў на пахаванні сёння, то «Летацішына золата» не напісалася б. Таму гэтае апавяданне-быль справядліва ахвяруецца майму сябру Сяргею Далідовічу.

*Пратва (дыялект) — драўлянае прыстасаванне для мыцця бялізны на рацэ або возеры. Пратву майстравалі на слупах, якія забіваліся каля берага, а паўзверх клалі насціл з дошак або бярвенняў.

Навуковае слова



# Вобраз паэта: бачанне Янкі Купалы і Тараса Шаўчэнкі



**У цэнтры ўвагі літаратуразнаўчай і культуралагічнай думкі заўжды знаходзяцца эстэтыка мастацкага слова і, так ці інакш, чалавечыя кантакты. Айчыннае мастацтва слова дзякуючы цесным сувязям з украінскай літаратурай і культурай нарошчвае патэнцыял узаемадзеяння з перадавымі тэндэнцыямі духоўна-інтэлектуальнага развіцця чалавецтва і разам з тым актыўна ўводзіцца ў еўрапейскі, сусветны кантэкст.**

Паэтычная спадчына Тараса Шаўчэнкі — адно з найбольш уплывовых выяўленняў беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей. Кожны з творцаў наладжвае ўласны дыялог са славутым украінскім папярэднікам — у адпаведнасці з асаблівасцямі таленту, жыццёвага і мастацкатворчага досведу, эстэтычным густам, светапогляднымі ўстаноўкамі. Шаўчэнкаўскі рамантычны код прэзентацыі нацыянальнай рэчаіснасці і самавыяўлення індывідуальна-аўтарскага «я» знайшоў у свой час адлюстраванне ў паэзіі Янкі Купалы.

Тэма паэта і паэзіі прысутная ў творчасці кожнага мастака слова. Яна гучыць як своеасаблівая эстэтычная дэкларацыя, выяўленне творчага і маральнаэтычнага крэда, разуменне ролі і функцыі мастацтва ў свеце. Роздум над місіяй паэта-прарока, духоўнага лідара, правадыра нацыі выразна акцэнтаваны Янкам Купалам і Тарасам Шаўчэнкам. Вобраз паэта ў іх творчасці ўвасабляе разнастайныя праявы нацыянальнага духу, нацыянальнай стыхіі, спалучаных з індывідуальна-аўтарскай самаідэнтыфікацыяй. У той час, калі ў адпаведнасці з псіхалагічнай прыхільнасцю ўкраінцаў да актыўна-гераічных форм жыцця паэтычная думка Тараса Шаўчэнкі «край світа на хмарі гуля. // Орлом сизокрилим летає, ширяє», Янка Купала, пазбягаючы амбіцыйнасці, прызнаецца: «Я не сокал зоркавокі, // Не арол адважны» і атаясамлівае сябе з маленькай шэрай птушачкай — салавейкам (верабейкам). Янка Купала акцэнтуе ментальна абумоўленую сціпласць, ціхую элегічную сентыментальнасць, меланхалічнасць і пяшчотнасць беларускага паэта: «Я ж ціха граю, хто ж ціхіх прымеце? Ат! ведама з вёскі — Янка Купала!» Праз кампактны, прыродны, энергетычна згушчаны вобраз салавейкі пясняр у канцэнтраваным выглядзе абазначае праспектныя, асноватворныя прынцыпы сваёй эстэтычнай праграмы, такія, як памежная адкрытасць, шчырасць непасрэднага выяўлення перажыванняў у дадзены момант, а таксама непадзельная сувязь паэтычнага адчування жыцця з жыццём свайго роду.

*Грай, мая жалейка,*
*Пей, як салавейка!*
*Апявай нядолю,*
*Апявай няволю*
*І грымі свабодна,*
*Што жыве край родны!*

(«***Грай, мая жалейка...», 1905 — 1907)

Вобразы максімальна простыя, празрыстыя, набліжаныя да паўсядзённай рэальнасці. Паэт такі ж непатрабавальны і непрыметны, «доляй убогі, ён ціхі, нясмелы», але пазначаны надзвычайнай чуласцю, душэўнай адкрытасцю ў выяўленні тонкасцей і нюансаў іманентных пачуццяў.

*Як ён, сеў бы дзе на плоце*
*І песні чырыкаў,*
*Людцаў родных бы ахвоціў,*
*К лепшай долі клікаў.*

(«Я не сокал...», 1905 — 1907)

Ва ўсе часы — асабліва паэтамі-рамантыкамі — віталася высакароднае, непадкупнае пачуццё шчырасці, праўды, сугучнай голасу сэрца. Не выклікала сумненняў сакральнасць гэтага вярхоўнага пачуцця чалавека: «Есть чувство правды в сердце человека, // Святое вечности зерно!» (М. Лермантаў.) Тарас Шаўчэнка як найвышэйшае дасягненне творчага лёсу, праяву асаблівай прыхільнасці жыццёвай долі, знак лучнасці з вечнасцю адзначыў:

*Ми не лукавили з тобою,*
*Ми просто йшли; у нас нема*
*Зерна неправди за собою.*

(«Доля», 1858)

Абапіраючыся на выслоўе І. Франко пра «катэгарычны імператыў» шчырасці як нязменнасці, своеасаблівага псіхалагічнага манізму, А. Забужко падкрэслівае вітальнае значэнне гэтага пачуцця ў існаванні нацыянальнай свядомасці. Даследчыца лічыць, што «шчырасць», упершыню выведзеная на ўзровень этычнай катэгорыі ў філасофіі рамантызму (у Канта) і абгрунтаваная Т. Карлайлем як родавая прыкмета ўсякага прарока ва ўсе часы і эпохі, як своеасаблівы псіхалагічны эквівалент таго, што на светапоглядным узроўні выяўляецца верай, — гэтая шчырасць — перадумова духоўнай кансалідацыі грамады: «толькі ў свеце шчырых людзей магчыма еднасць, у тым ліку і нацыянальная».

Янка Купала праўдзівай мастацкай рэстаўрацыяй нацыянальнай рэчаіснасці, абаронай не толькі сацыяльнай, але і быційнай праўды народа сцвярджае яго сілу, маналітную цэласнасць, і, як заўважыў акадэмік У. Гніламёдаў, «аберагае народ ад страты духоўнасці, дае магчымасць захавацца народу як такому». У знакамітых радках верша, прысвечанага Т. Шаўчэнку, беларускі пясняр акцэнтаваў запатрабаванасць спадчыны Кабзара ва ўмовах беларускай рэчаіснасці. На этапе фарміравання нацыі, замацавання нацыянальнай сістэмы каштоўнасцей і прыярытэтаў украінскі паэт прадказаў іх асноўныя арыенціры, што паслужылі стымулам кансалідацыі грамадства, гарантам паспяховай культурна-гістарычнай рэалізацыі нацыянальнай супольнасці, сталіся асновай яе выжывання:

*Дух збудзіў свайму народу*
*Сваім гучным словам*
*Навучыў любіць свабоду,*
*Родны край і мову, —*

пісаў Янка Купала ў вершы «Памяці Тараса Шаўчэнкі» (1909).

Праблема свабоды, свабоды выбару і творчай рэалізацыі, заяўленая ў купалаўскай паэме «Курган», суадносіцца (з пэўнай доляй умоўнасці) з сітуацыяй «экзістэнцыйнага выбару» (А. Забужко), у якой апынуўся Т. Шаўчэнка падчас навучання ў Пецярбургу. Калі перад бясспрэчна таленавітым маладым чалавекам, выпускніком Акадэміі мастацтваў, адкрыліся сапраўды бліскучыя перспектывы моднага мастака сталічных салонаў, ён аддаў перавагу «дзіўнаму» пакліканню да нацыянальнай справы, адраджэнню роднай культуры, стварэнню вершаў, якія, па прызнанні паэта, «впосследствии упали такой страшной тяжестью на мою убогую душу». Жыццёвы і творчы шлях Кабзара пазначаны напружаннем душэўных сіл у лёсаносным для паэта імкненні быць свабодным і шчырым, праяўленні пры гэтым памежнай ахвярнасці:

*О думи мої! О славо злая!*
*За тебе марно я в чужому краю*
*Караюсь, мучуся... але не каюсь!...*

(N.N., 1847)

Падчас вучобы ў Акадэміі мастацтваў у Т. Шаўчэнкі сфарміравалася дакладнае ўсведамленне-прызнанне мастацтва важнейшай сферай жыцця чалавецтва. Таму ён адразу змясціў мастака, паэта ў цэнтр створанай ім духоўна-эстэтычнай рэальнасці, выразна і бескампрамісна абазначыў яго як уладара думак, увагі і прыхільнасці шырокіх народных мас:

*У моїй хатині, як в степу безкраїм,*
*Козацтво гуляє, байрак гомонить,*
*У моїй хатині синє море грає,*
*Могила сумує, тополя шумить,*
*Тихесенько Гриця дівчина співає —*
*Я не одинокий, є з ким вік дожить.*

(«Гайдамаки», 1841)

**«У той час, калі ў адпаведнасці з псіхалагічнай прыхільнасцю ўкраінцаў да актыўна-гераічных форм жыцця паэтычная думка Тараса Шаўчэнкі «край світа на хмарі гуля. // Орлом сизокрилим летає, ширяє», Янка Купала, пазбягаючы амбіцыйнасці, прызнаецца: «Я не сокал зоркавокі, Не арол адважны» і атаясамлівае сябе з маленькай шэрай птушачкай — салавейкам (верабейкам).**

У асэнсаванні сваёй творчай місіі Т. Шаўчэнка дэкларуе ўладны імператыў, абумоўлены надзвычайнасцю выконваемых функцый, адказнасцю за долю нацыі. Усвядомлены высокі статус паэта ў грамадстве даў падставы сцвярджаць: «Пан я над панами».

Янка Купала і Тарас Шаўчэнка надзяляюць паэта выключным статусам усяведання, глыбіннай мудрасцю, пранікненнем у сутнасць навакольных з'яў і працэсаў. Іх творчасць выступае своеасаблівым камертонам, які настройвае звычайнае, будзённае жыццё на высокі лад, аксіялагічную змястоўнасць і гармонію. Крэатыўна-энергетычны прарыў паэтычнага слова ў духоўна-метафізічную прастору адкрывае паўнату вышэйшага прызначэння, паклікання творцы. Гэты вертыкальна скіраваны дынамічны, актыўны рух перадае «живого духа вечное вращенье» («Фауст» Ё. Гётэ), адпаведны пульсуючым рытмам быцця.

Далучанасцю да вышэйшых праяў быцця Т. Шаўчэнка тлумачыць сакральную напоўненасць творчасці, выключнасць асобы паэта, які здольны пачуць боскі голас і перадаць яго людзям. Кабзар дэкларуе рэлігійна-містычнае паходжанне натхнення, памежную вяршыннасць эстэтычных і этычных пачуццяў творцы:

*То Боже слово,*
*То серце по волі з Богом розмовля,*
*То серце щебече Господнюю славу,*
*А думка край світа на хмарі гуля.*

(«Перебендя», 1839)

У паэзіі Янкі Купалы і Тараса Шаўчэнкі тэма творчасці суадносіцца і з па-філасофску глыбокім, значным у мастацкай сістэме рамантызму матывам славы: «Слава — заповідь моя». Слава суправаджае паэта і яго паэзію, скіравана на духоўнае абуджэнне народа, абарону яго сацыяльных інтарэсаў, нацыянальнага гонару, звязана з памкненнем да лепшай долі, прасветленага і актыўнага жыцця.

*Шчаслівы ты ці нешчасліві,*
*Будзі сыноў сваёй зямлі,*
*Над беларускай соннай нівай*
*Нязгасны светач распалі!*
*Глядзі — ўскалышацца, прачнецца*
*Мільённы прыспаны народ,*
*І вокліч славы пранясецца,*
*Пяснярскай славы з роду ў род.*

(«Песняру-беларусу», 1909)

У распрацоўцы матыву славы паэты захоўваюць пераемнасць з пушкінскай традыцыяй гуманізму і свабодалюбства: «И долго буду тем любезен я народу, // Что чувства добрые я лирой пробуждал, // Что в мой жестокий век восславил я свободу // И милость к падшим призывал». Янка Купала і Тарас Шаўчэнка падкрэсліваюць вышыню служэння паэта, «боскага нашчадка» (Ф. Гёльдэрлін), яго надзвычайнае пакліканне, сувязь з сакральнай сферай, волям нябеснай. «Геній, — і ў першую чаргу геній паэта — ёсць заўсёды самая яскравая і паказальная выява народнай душы ў яе субстанцыянальнай першааснове» («Русское мировоззрение», С. Франк). Такім чынам, Я. Купала і Т. Шаўчэнка сілай паэтычнага слова арганічна паядналі трансляцыю вышэйшых, сакральных ісцін з маральна-духоўнымі арыенцірамі, памкненнямі народнай душы, і гэта раскрывае, актуалізуе ў ёй рэсурсы непераходных каштоўнасцей міласэрнасці, гуманізму, даравання, братолюбства і маральнай чысціні.

*Злоначинающих спини,*
*У пута кутії не куй,*
*В склепи глибокі не муруй.*
*А доброзиждущим рукам*
*І покажи, і поможи,*
*Святую силу ниспошли.*
*А чистих серцем? Коло їх*
*Постави ангели свої*
*І чистоту їх соблюди.*
*А всім нам вкупі на землі*
*Єдиномисліє подай*
*І братолюбіє пошли*

(«Молитва», 1860)

Для Янкі Купалы і Тараса Шаўчэнкі прынцыповае значэнне мела свабоднае і шчырае выяўленне інтарэсаў народа, клопат пра яго маральна-духоўнае аблічча, дбанне пра гістарычныя перспектывы, і ў гэтым бачыцца патэнцыял рэалізацыі нацыятворчых праграм, падмурак для фарміравання этычна дасканалай, духоўна прасветленай, гарманічнай супольнасці.

**Жанна ШАЛАДОНАВА**

# Літаратурная думка Антона Луцкевіча

Антон Луцкевіч у гісторыі Беларусі вядомы як «бацька нацыянальнага адраджэння» (А. Сідарэвіч), душа «Нашай нівы», генератар яе ідэй, «палітык, сацыёлаг і публіцыст еўрапейскага маштабу і еўрапейскай жа культуры» (У. Конан). Не менш значная і цікавая за грамадзянскую актыўнасць А. Луцкевіча яго літаратурная дзейнасць, а менавіта — літаратурна-крытычная спадчына. У гэтым артыкуле звернемся да «нашаніўскага» перыяду ў творчасці крытыка — ад водгуку на зборнік Я. Купалы «Шляхам жыцця» (1913) да першага ў Беларусі зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў «Našy pieśniary».



## У СВЯТЛЕ ДЫСКУРСНАГА АНАЛІЗУ

Літаратурная крытыка мае камунікатыўную прыроду, разлічвае на сувязь, узаемапаразуменне паміж яе суб'ектам, аб'ектам і адрасатам, а таму падаецца правамерным разгледзець нашаніўскую крытыку А. Луцкевіча ў святле дыскурснага аналізу. Возьмем за аснову вызначэнне В. Цюпы: дыскурс — гэта камунікатыўная падзея, то бок субыццё суб'екта, аб'екта і адрасата пэўнага адзінага (хоць часам і вельмі складанага паводле сваёй структуры) выказвання. У межах дыскурснага аналізу тэкст (у нашым выпадку — корпус тэкстаў) бачыцца як узаемаабумоўленасць трох існых у ім кампетэнцый: рэферэнтнай, крэатыўнай і рэцэптыўнай. Рэферэнтныя кампетэнцыі адрозніваюцца адносінамі выказвання да рэчаіснасці. Віртуальная рэальнасць складае рэферэнтную функцыю тэксту. Крэатыўныя кампетэнцыі суадносяцца з віртуальнай фігурай аўтара, адрозніваюцца інтэнцыямі аўтарства ў дачыненні мовы. Рэцэптыўныя кампетэнцыі адрозніваюцца адносінамі дыскурсу да свядомасці. Тэкст выказвання прадугледжвае пэўную камунікатыўную пазіцыю адрасата.

## ТАКТЫКА АДРАДЖЭННЯ

Пачнём разгляд нашаніўскай крытыкі А. Луцкевіча з рэферэнтных кампетэнцый. Як палітык ён добра ўсведамляў супярэчлівыя варункі, у якіх адбываліся нацыянальнае адраджэнне і станаўленне беларускай літаратуры. У першых артыкулах А. Луцкевіч выразна сутыкае, супрацьпастаўляе адраджэнскі пафас і варожую яму шавіністычную рыторыку. Прыклад такой рыторыкі ён прыводзіць у артыкуле «Маладая Беларусь», але адкідае яе як несправядлівую, не пацверджаную рэчаіснасцю. Беларускі рух даваў усё больш падстаў для аптымізму, адной з іх якраз і было з'яўленне зборніка «Маладая Беларусь», і голас крытыка гучыць цвёрда і ўпэўнена. Ён гаворыць пра поспех нацыянальнага адраджэння і маладой беларускай літаратуры так, нібы ён **ужо** стаў відавочным фактам, нібы больш не патрабуе абароны, а ўсе намаганні шавіністычнай прапаганды вартыя жалю. Хоць рэальна станаўленне беларускай мовы і літаратуры адбывалася праз перашкоды, А. Луцкевіч мадэліруе ідэальную рэчаіснасць. Такая тактыка была жыццесцвярджальнай, здольнай натхніць і абнадзеіць.

Сацыяльны і эстэтычны падыход у А. Луцкевіча разумна ўраўнаважаныя. Выбар інструментарыю, метаду даследавання адэкватны творчасці разглядаемых аўтараў: дзе выяўлялі сябе адметныя эстэтычныя канцэпцыі, там падрабязней на іх спыняўся крытык, дзе пераважала грамадзянская праблематыка, там і крытыка апелявала найперш да ідэалагічных аспектаў. У водгуку на «Апавяданні» Я. Коласа эстэтычная ацэнка даволі лаканічная, у большай ступені крытыка цікавіць сувязь творчасці з жыццём, практычнае значэнне кнігі для чытача-селяніна. У рэцэнзіі на зборнік Я. Купалы «Шляхам жыцця» ў роўнай меры рэалізуюцца абодва падыходы, а ў артыкуле «Пясняр чыстай красы» крытыка цікавяць найперш пытанні эстэтычныя. Так, ён вядзе гутарку пра адметную паэтыку М. Багдановіча, чыстую красу, гармонію зместу і формы, нацыянальнага і агульначалавечага. Нельга не пагадзіцца з высновай А. Сідарэвіча: «Менавіта спалучэнне ўласна літаратурнага, эстэтычнага ды сацыяльнага падыходаў да твораў літаратуры і мастацтва і стане адметнаю рысаю крытыка Луцкевіча».

Аўтары, пра якіх пісаў А. Луцкевіч, або заслугоўвалі высокай ацэнкі дзякуючы важкаму ўнёску ў развіццё беларускай літаратуры, або былі сімпатычныя яму сваімі перакананнямі. З гэтай падставы крытык не акцэнтаваў увагу на недахопах, калі і згадваў іх адным радком, то тут жа нівеліраваў: «Купала мала працуе над сваімі вершамі: яны ў яго ад першых творчаскіх праяў родзяцца неяк самі. Праўда, у іншых з іх ёсць з гэтай прычыны розныя недахваткі; але нават імправізацыі яго не губляюць ад гэтага сваёй цэннасці». Пры такім ракурсе дасягненні маладой беларускай літаратуры пераважалі над адзінкавымі хібамі, і гэта дапамагала ўмацоўваць яе імідж, ствараць пазітыўны вобраз.

## КРЭАТЫЎНАЯ КАМПЕТЭНЦЫЯ

Заўважым, што аўтар гаворыць ад першай асобы множнага ліку і не вылучае сябе з агульнага «мы», якое ў розных кантэкстах можа трактавацца і як беларускі народ, і — вузей — як свядомая інтэлігенцыя, рэдакцыя «Нашай нівы». Гэтае «мы» знаходзіцца ў апазіцыі да «яны», дзе яны — ворагі беларушчыны, рэакцыйныя сілы. Пазіцыя аўтара відавочная, ён не хавае сваёй салідарнасці і прыналежнасці да нацыянальнага руху. Пры адноснай нейтральнасці тону крытыка няцяжка адгадаць пэўныя эмоцыі: гордасць за поспехі ў справе адраджэння, захапленне паэзіяй, сімпатыю да герояў сваіх артыкулаў. Цікава, што крытык не размяжоўвае вобраз аўтара і вобраз лірычнага героя, і часта суперажыванне, спачуванне героям пераносяцца ім на аўтараў твораў.

Захапіўшыся аб'ектам даследавання, А. Луцкевіч разнявольваецца ў маўленні, дапускае паэтычнасць, вобразнасць. Рыторыка яго крытычнай творчасці жыццесцвярджальная і аптымістычная.

## ІДЭАЛЬНАМУ ЧЫТАЧУ

Звернемся цяпер да рэцэптыўных кампетэнцый крытыкі А. Луцкевіча. Наяўнасць адрасата крытык адназначна прадугледжваў. І тое, што ў сваіх артыкулах А. Луцкевіч дае выключна аналіз ды характарыстыку і абыходзіцца без рэкамендацый аўтарам, дазваляе казаць, што ён скіраваны найперш да шырокага чытача, а не да аналізуемых творцаў. Яго ідэальны рэцыпіент — гэта носьбіт аднолькавага з аўтарам культурнага кода, чалавек, уключаны ў «мы». Пры гэтым А. Луцкевіч імкнецца дайсці і да чытача-селяніна, і да чытача-інтэлігента: такая стратэгія адпавядала дэмакратычным установам «Нашай нівы». З аднаго боку, рэцэнзія — жанр, які наўрад ці мог зацікавіць аўдыторыю неабазнаную, да таго ж, ужо адбылася пераарыентацыя «Нашай нівы» на сілы інтэлігенцыі, для якой эстэтычныя пытанні былі найбольш актуальныя. З іншага боку, А. Луцкевіч практычна не ўжывае літаратуразнаўчай тэрміналогіі, піша дастаткова простай, а часам і спрошчанай мовай. Так, у артыкуле пра Я. Коласа ён намагаецца гаварыць на роўных з «нізкім» чытачом, апелюючы да звыклых яму рэалій: «Піша ён лёгка — от, быццам у прыяцельскай гутарцы апавядае сябрам то аб жыцці-быцці роднай вёскі, то аб смяхотных здарэннях з вясковым «начальствам»…»

Найбольш паспяхова ў крытычнай творчасці А. Луцкевіча рэалізуецца рытарычны статус перакanaння, які суадносіцца з імператыўнай карцінай свету. А. Луцкевіч выяўляе сваю пазіцыю як пазіцыю таго кола, у якое ён уключаны, а яго ўласнае стаўленне да аб'екта пазіцыянуецца як правільнае, тое, якое павінна быць. Так рэалізуецца стратэгія маналагічнай згоды: ідэальны рэцыпіент мусіць усвядоміць данесеныя да яго імператывы і скарэкціраваць свае погляды ў адпаведнасці з імі. Зрэшты, сучасная рэцэпцыя літаратурна-крытычнай спадчыны А. Луцкевіча дае падставы гаварыць пра слушнасць і актуальнасць яго высноў. Многія тэзісы, ацэнкі, перакананні крытыка разышліся сярод паслядоўнікаў і ўмацавалі свой статус.

**Алена КАРП**

# Эскіз гордзіевага вузла

Гордзіевым вузлом у літаратуры Беларусі можна лічыць рускамоўныя яе — літаратуры — сегмент. Асабліва — паэзію.

Колькі размоў вялося на гэты конт, колькі меркаванняў выказвалася!.. Калі чалавек, які нарадзіўся і вырас у Беларусі (ці яшчэ БССР), піша па-руску — ён беларускі пісьменнік ці рускі? А калі чалавек прыехаў у нашую краіну на сталае жыхарства з Расіі і таксама піша па-руску — ён усё ж такі рускі пісьменнік ці беларускі? Што вызначае прыналежнасць да пэўнай літаратуры: мова, нацыянальная самаідэнтыфікацыя, навакольны свет, увасоблены ў мастацкім творы? Гэта толькі самыя паверхневыя пытанні, якія ўзнікаюць адразу ж па прамаўленні ракавога спалучэння «рускамоўная літаратура Беларусі».

Разам з тым, здаўна існуе пэўная — часцей затоеная, але часам яна прарываецца адной рэплікай ці цэлым «круглым сталом» — крыўда, а калі не крыўда, то меркаванне, (за тое) што беларускамоўнаму пісьменніку ў Беларусі жывецца саладзей. Канечне, у яго і часопісаў больш, і прывілеяў, і стаўленне лепшае, больш цёплае, скажам так.

Агаварыся адразу, што такі падзел лічу фармальным, што галоўнае, відавочна, мастацкі ўзровень тэксту. Многія пагодзяцца, але вузел... вузел як быў звязаны моцна і безнадзейна, такім і застанецца.




Уладзімір Гніламёдаў, вядомы літаратуразнаўца і пісьменнік, не бярэцца развязаць вузел, але даследаванне «На рубеже времён: Русскоязычная поэзия Беларуси» (Галіяфы, 2013) — гэта дакладны (прынамсі, стварaецца такое ўражанне), гарманічны і нават прыгожы малюнак «з натуры».

*Гниломёдов, В. На рубеже времён: Русскоязычная поэзия Беларуси / Владимир Гниломёдов. — Минск: Галіяфы, 2013. — 178 с.*

У. Гніламёдаў дае агульны план: развіццё рускамоўнай літаратуры Беларусі — ад Сімяона Полацкага і да нашых дзён (дакладней, да разбурэння СССР).

Згадаем займальны факт, які прыводзіць даследчык. У другой палове 1920-х гадоў у Беларусь наведваўся Уладзімір Маякоўскі, які сустракаўся з удзельнікамі аб'яднання рускамоўных паэтаў «Звенья». Падчас аднаго з прыездаў ён згадаў Купалу і Коласа, якіх чытаў у перакладзе. А затым дадаў: «Вот ещё раз приеду и научусь в оригинале читать…»

Вялікую цікаўнасць — і не толькі ў спецыялістаў, але і ў аматараў паэзіі і нават выпадковых чытачоў — мусяць выклікаць паэтычныя партрэты нашых рускамоўных паэтаў, якія У. Гніламёдаў выпісвае, прытрымліваючыся храналогіі. Юрый Фатнеў, Іосіф Васілеўскі, Святлана Яўсеева і інш. пачынаюць гэтую галерэю, але іх партрэты «кароткія», хоць і ёмістыя. Відаць, першае паўнавартаснае «палатно» прысвечана Аляксею Жданаву, «чыя Муза валодала сваім, арыгінальным «лица необщим выраженьем» (Е. Баратынский)». Затым ідзе жыцце- і паэзаапісанне Веньяміна Блажэннага, паэта, вялікага не толькі ў кантэксце рускамоўнай паэзіі Беларусі, не толькі ў рускамоўнай паэзіі, але ўвогуле —вялікага. Асобна трэба адзначыць уменне У. Гніламёдава выбраць такія радкі з творчасці паэта, якія далі б найбольш поўнае ўяўленне пра яе ўсю. Вось Блажэнны — узвышаны, шчымліва-тонкі і надзямны, сапраўды «блажэнны». Або Анатоль Аўруцін — ёмісты, дакладны, непаўторны ў дэталях, якія, склаўшыся ў адну карціну, уражваюць да знямення.

Цытаты У. Гніламёдаў удала дапаўняе заўвагамі, стрыманай крытыкай: ты нязменна чуеш роўны, упэўнены голас, які тлумачыць, пераконвае, апавядае. У пэўнай ступені кніга «На рубеже времён…» нагадвае літаратуразнаўчую казку са сваімі «каралямі» і «прынцэсамі» ды іх паэтычнымі «царствамі». Такое параўнанне тым больш дарэчы, што паэт заўжды цар у сваім свеце, і на гэта даследчык таксама звяртае ўвагу.

У. Гніламёдаў перадусім дае ацэнку мастацтву і ўжо потым звяртае ўвагу на ўмовы, у якіх яно ствараецца, то бок, на першым месцы сама рускамоўная паэзія, адметнасці творчасці найбольш таленавітых аўтараў. Той факт, што ствараецца яна ў Беларусі, не высоўваецца як галоўная праблема, але служыць фонам. Безумоўна, даследчык звяртае ўвагу на тое, як уплывае такі асяродак на творцу і што самі рускамоўныя паэты пра гэта думаюць, але менавіта «звяртае ўвагу», а не б'е ўва ўсе званы. У гэтым, пэўна, і хаваецца абаяльнасць кнігі — у спакойным поглядзе на рэчы.

Такая пабудова — агляд, шэраг «партрэтаў» і падсумаванне — дазваляе лёгка арыентавацца ў кнізе, якая не мае раздзелаў як такіх. Дарэчы, пра падсумаванне. Калі вас цікавяць не пэўныя асобы, але само становішча рускамоўнай паэзіі Беларусі, дастаткова прачытаць заключную частку, дзе даследчык дае пералік вызначальных на сёння рыс, прычым, як станоўчых, так і адмоўных. І апошніх — болей.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

## Абліччы

**За апошнія 50 гадоў я сабраў значны фотаархіў пад умоўнай назвай «Лікі літаратуры».У ім кадры з наведання Вязынкі, Мікалаеўшчыны, Гудзевічаў, родных мясцін Ф. Багушэвіча, П. Броўкі, М. Лынькова, А. Мальдзіса, К. Цвіркі, Я. Янішчыц, дамоў творчасці «Каралішчавічы», «Ісլач»… Лікі літаратараў зафіксаваны падчас Скарынаўскіх свят у Таліне, Полацку, Віцебску, пры наведанні нашымі пісьменнікамі Рыгі, Вільнюса, Прагі, Наваградка, Гародні, Оршы… Фатаграфаваў я і сустрэчы, якія праводзіла рэдакцыя літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання: у кадры — маладжавыя М. Аўрамчык, А. Пысін, І. Новікаў, А. Савіцкі, П. Пранузa… Не цьмянымі выглядаюць здымкі ў кватэрах С. Новіка-Пеюна і У. Караткевіча ў Мінску,Зоські Верас пад Вільняй.**

# І жыве абаронная раць…



*Ля замкавай гары. Справа налева: Васіль Быкаў, Сяргей Панізнік, Данута Бічэль-Загнетава. Здымак Э. Загнетава. Гродна, чэрвень 1969 г.*

У сакавіку 1969 года я пазнаёміўся з Данутай Бічэль-Загнетавай у Маскве на 5-й Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў. У сяброўскай перапісцы з Уручча пажаліўся ёй, што мяне, ваеннага журналіста, збіраюцца паслаць на далейшую службу ў далёкае замежжа. І я на адвітанне стараюся наведаць розныя мясціны роднага мацерыка. Прыязная Данута і запрасіла мяне ў чэрвені «развітацца з Гародняй». Разам з мужам Эрыкам яна зладзіла незвычайную сустрэчу — на Замкавай гары. Вунь Каложа, а каля старажытных муроў чакае Васіль Уладзіміравіч Быкаў, якому 19 чэрвеня споўнілася «толькі» 45 гадоў. Каралеўскае месца падрыхтавала цяплынь. Дзіўлюся на статную фігуру з прыязным аблічам. Фатаграфую то я, то Эрык Загнетаў, каб і я быў на здымках прытулены да лагодных гарадзенцаў, — «на добрую памяць».

Васіль Быкаў прайшоў з баямі Румынію, Венгрыю, Югаславію, Аўстрыю… Раіў мне вытрымаць перыпетыі армейскага побыту. Яго суцяшэнні згадваліся і ў нялёгкія гады службы ў Цэнтральнай групе савецкіх войскаў пад Прагай.

А ў Гродне прызнаўся Васілю Уладзіміравічу, што, яшчэ будучы курсантам Львоўскага вучылішча, на семінары па літаратуры выступіў з высокай ацэнкай уніклівага чытача ваеннай прозы Быкава, бо ўжо былі апублікаваны аповесці «Трэцяя ракета», «Пастка», «Альпійская балада». У 1966 годзе часопісы «Маладосць» і «Новый мир» апублікавалі вострасюжэтны твор Быкава — аповесць «Мёртвым не баліць». Я ж расказаў курсантам пра выкладзеную беларускім аўтарам суровую праўду ваенных дзеянняў пад Кіраваградам, раіў будучым ваенным журналістам не хібіць у службе салдацкаму слову.

Пазней я даведаўся, што з 1966 года ў Быкава часта былі «непярэлікі». З яго гродзенскіх успамінаў вычытаў: «…многа мы перажылі ўдвух з Карпюком. Трэцім у нашай кампаніі быў Барыс Клейн, дацэнт з мединстытута».

Першы верш, які я прысвяціў Васілю Быкаву пасля той узрушанай чэрвеньскай сустрэчы, пачынаўся радком: «Трубілі трубачы ў Гародні». А Данута напісала ў адказ перад маім зборам у трывожную камандзіроўку такія словы супакаення: «Ды і ваяваць ты не будзеш, ваюй за Чэхаславакію, не за Гродна. Але дзякуй за верш. Васіль перадаваў табе прывітанне, ён цяпер у Маскву паехаў: Савет па беларускай літаратуры яго там разбірае».

Усе мы стараліся насыціцца лекамі аптымізму. І чарговы верш з быкаўскага цыкла заканчваўся такімі радкамі: «І жыве абаронная раць, // звонка трубяць гарачыя трубы! // Каб не ведаць нападу і згубы, // сцены гродзенскія стаяць».

**Сяргей ПАНІЗНІК**



# Два рамантыкі

## ДА 75-ГОДДЗЯ ПЕРАКЛАДЧЫКА УЛАДЗІМІРА СКАРЫНКІНА

**Даведка «ЛіМа»**

*Уладзімір Скарынкін нарадзіўся 7 чэрвеня 1939 г. у Віцебску. Скончыў Рыжскі інстытут інжынераў грамадзянскай авіяцыі. Працаваў у Беларускім упраўленні грамадзянскай авіяцыі. Аўтар зборніка вершаў «Буслы над аэрадромам», вянка санетаў «Вачэй тваіх паляны», паэм. Пішa казкі і апавяданні для дзяцей. Пераклаў на беларускую мову творы М. Рубцова, М. Вінграноўскага, Дантэ, Дж. Байрана ды інш. Узнагароджаны Нацыянальнай прэміяй Італіі, Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Янкі Купалы, Прэміяй міжнароднага таварыства «Дантэ». Лаўрэат прэміі «Залаты купідон» за кнігу перакладаў Дантэ і Петраркі.*

Творчасць англійскага паэта-рамантыка Джорджа Гордана Байрана аказала безумоўны ўплыў на беларускую паэзію XX ст. Наогул, як адзначаў Уладзімір Караткевіч, адзін з перакладчыкаў Байрана на нашу мову, «Байран — вечная любоў усіх узростаў, а асабліва юнага. Мы любім яго сяброў, ненавідзім яго ворагаў. Але асабліва любім яго самога. Па многіх прычынах, але галоўным чынам таму, што ён — наш сучаснік, чалавек, які стаяў за лудзітаў, за грэкаў, за вольных, за прыгнечаных. [...] Яна непрымірымая ў нянавісці, бо любіць людзей. Ці ж гэта не наш сучаснік?»

Несумненна, што беларускія перакладчыкі Дж. Байрана таксама зрабілі свой важкі ўнёсак у папулярызацыю яго ідэй і вобразаў. Перастварэннем творчасці брытанскага паэта на беларускай мове займаліся Ю. Гаўрук, У. Дубоўка, Я. Семяжон, Е. Лось, М. Аўрамчык, М. Лужанін, П. Пранузa, Э. Агняцвет, М. Танк, П. Броўка, П. Глебка, У. Караткевіч, Р. Барадулін ды інш.

Упершыню выдадзеная ў 2004 годзе на беларускай мове паэма Байрана «Дон Жуан» у перакладзе У. Скарынкіна дазваляе цэласна разгледзець адзін з самых маштабных твораў англійскага паэта. Неабходнасць звароту менавіта да гэтага твора неаднаразова падкрэслівалася даследчыкамі. І хаця пераклад быў зроблены з выкарыстаннем падрадкоўніка, у ім на высокім узроўні перададзены стыль пісьменніка і атмасфера яго часу.

Нацыянальны каларыт твораў Байрана дасягаецца ўзнаўленнем пейзажнай лірыкі, сукупнасці партрэтных і бытавых апісанняў. Вывучэнне перакладаў, у якіх захавана нацыянальная спецыфіка радзімы аўтара, дазваляе лепш зразумець глыбінны змест твора, у якім праз нацыянальна-стылістычныя асаблівасці мовы раскрываюцца тыя ці іншыя ўзуальна замацаваныя спосабы апісання сітуацыі і арганізацыі дыскурса. Аўтар праектуе на чытача ідэнтыфікатары сваёй этнічнасці, нацыянальнай ідэнтычнасці і нацыянальнай спецыфікі сваіх твораў. Адпаведна, нацыянальная ідэнтычнасць пісьменніка як усвядомленая этнічнасць вызначаецца шэрагам фактараў, найгалоўнейшыя з якіх — моўны, геаграфічны, культурны, дзяржаўны, ідэалагічны, рэлігійны і фактар гістарычнай памяці. Але варта адзначыць, што пра пісьменніцкую ідэнтычнасць можна казаць, толькі калі нацыянальная ідэнтычнасць аўтара-індывіда і яго твораў поўнасцю супадаюць.

Так, у паэме Дж. Байрана «Дон Жуан» галоўны герой з'яўляецца адначасова і адлюстраваннем самога аўтара, яго мастоўскага «Я». Яго пачуцці, думкі, густы, вартасці і заганы, яго адчуванне свайго месца ў свеце імкнуўся перадаць У. Скарынкін.

Трэба адзначыць, што беларускаму перакладчыку з вялікай доляй пераканаўчасці ўдалося перадаць дух байранаўскага твора, яго спецыфіку, хаця і ў крыху спрошчаным выглядзе, што пацвярджае і калега-перакладчык У. Скарынкіна Васіль Зуёнак. Перакладчык вытрымлівае рытмічны малюнак арыгінала, выкананы актавамі, і тып рыфмоўкі (АбАбАбвв). У. Скарынкін амаль паўсюдна спраўляецца з адэкватнай перадачай арыгінальнага зместу, аднак часам злоўжывае экспрэсіўнай ці лексічна маркіраванай лексікай, выкарыстоўвае прастамоўныя, гутарковыя словы, выбар якіх не матываваны арыгіналам.

Пераклад У. Скарынкіна:

*Венераю, што выйшла з акіяна,*
*На ярка палымнеючую мель,*
*Яна на еўнуха і Дон-Жуана*
*Зірнула іскрамётна, як газель,*
*І знакам папрасіла старыкана*
*Наблізіцца. Пацалаваў крушель*
*Край вопраткі загадкавай жанчыны*
*І паказаў рукой у бок хлапчыны.*

Падкрэсленыя выразы вызначальныя для стылістычнага ўздзеяння перакладу, яны дадаюць да байранаўскіх вобразаў новыя адценні, якія выклікаюць у беларускамоўнага чытача ўласныя асацыятыўна-эмацыянальныя рэакцыі.

У той жа час у беларускім перакладзе паэмы шмат удалых апісанняў, мастацкіх вобразаў, гумару і сцэн кахання, дзе праявы беларускага нацыянальнага каларыту ўжываюцца да месца, псіхалагічна набліжаючы пераклад да айчыннага чытача, як, напрыклад, у наступных радках: «бо сонца — рыжае, як лісяня, — схавалася за ўзгорак...», «з іх кожны — заваёўнік і герой... І раганосец. Вось і ладзь з табой», «у задуменні лоб рукой пачухаў», «ён глупствы заўважаў у ўсіх іхніх словах, але (от, шэльма!) дамам гаварыў ніколі не рабіў заўваг суровых...» і інш. А апісанні прыроды, аўтарскія развагі і адступленні дапамагаюць глыбей адчуць спецыфіку аўтарскага стылю Байрана і яго часу.

Пераклад У. Скарынкіна:

*Цяпер — інакш. Вядомыя паэты*
*Ў наш час сябры beau-mondeа неадменныя.*
*Усе яны ўпісаліся ў свет гэты*
*Больш натуральна нават, чым ваенныя,*
*І ведаюць усе яго сакрэты.*
*Чаму ж яны (такія ўсе сумленныя!)*
*Нічога не напішуць пра яго?*
*Бо пра яго пісаць няма чаго!*

На думку пісьменніка-перакладчыка і даследчыка Умберта Эка, «любы пераклад... рухаецца ў прасторы літаратурных традыцый і ўмоўнасцей, якія непазбежна ўплываюць на рашэнні, прадыктаваныя густам». Уменне вызначыць неабходнае ў арыгінале — адна з каштоўных якасцей аўтара перакладу. І тут творчы метад перакладчыка вырастае з яго светапогляду, у якім адбіваюцца рысы яго нацыянальнага менталітэту. Уладзімір Скарынкін, які ўлучыў у беларускую літаратуру многія творы сусветнай класікі, дапамог айчыннаму чытачу пачуць голас англійскага паэта-рамантыка. І магчыма, пераствораны ім «Дон Жуан» стане крыніцай натхнення для новых пакаленняў беларускіх паэтаў…

**Таццяна СІВЕЦ**

# Вуліца з двухбаковым рухам



Без Інстытута імя Гётэ ў Мінску складана ўявіць сучасную культурную прастору сталіцы. Мноства выставак, прэзентацый, канцэртаў, семінараў для гісторыкаў, выдаўцоў, перакладчыкаў, спецыялістаў музейнай справы… Прадстаўляючы нямецкую культуру, такія імпрэзы і праекты пашыраюць кругагляд беларусаў, працуюць на паляпшэнне ўмоў міжкультурнай камунікацыі. На мінулым тыдні гэтая ўстанова адсвяткавала сваё дваццацігоддзе. Сёння госць «Кніжнага свету» — дырэктар Інстытута імя Гётэ ў Мінску спадар Франк Бауман. Кіраўнік установы-юбіляра распавядае, ці існуюць «шкляныя перакладчыкі», як беларускаму выдаўцу з найменшымі выдаткамі атрымаць права на пераклад сучаснага нямецкага рамана, а таксама называе свае любімыя кнігі.

**— У Беларусі досыць часта можна пачуць пра Інстытут імя Гётэ ў Мінску. Але нямногія добра ведаюць і дакладна распавядуць, у чым заключаецца функцыя гэтай установы, якія яе мэты...**

— З задавальненнем патлумачу. Інстытут імя Гётэ прадстаўляе культуру Федэратыўнай Рэспублікі Германія за межамі гэтай краіны. Такіх інстытутаў — 150 у розных краінах свету. Асноўнымі задачамі з'яўляецца, па-першае, папулярызацыя нямецкай мовы і па-другое, міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне культуры. Гэта курсы нямецкай мовы ў саміх Інстытутах, а таксама курсы павышэння кваліфікацыі для выкладчыкаў нямецкай мовы ў Беларусі. Іх удзельнікі — школьныя настаўнікі і выкладчыкі ВНУ. Мы робім розныя праграмы, каб выкладчыкі маглі паляпшаць свае кампетэнцыі і лепш навучаць нямецкай мове, каб яшчэ больш маладых людзей цікавілася мовай і культурай Германіі. Часам з нашымі партнёрскімі школамі ў Оршы ці Слуцку мы праводзім мерапрыемствы, куды запрашаем гасцей з Германіі, якія разам са школьнікамі, да прыкладу, робяць пастаноўку тэатральнай п'есы ці праводзяць майстар-класы.

Другая частка працы — уласна культурныя імпрэзы, якія праводзім разам з харэографамі, мастакамі, пісьменнікамі з Германіі. Яны прыязджаюць сюды, каб з беларускай публікай і калегамі падзяліцца ведамі, уменнямі, досведам і напрацоўкамі. Мы заўсёды рады, калі ў выніку атрымліваюцца дыскусіі і завязваецца дыялог, калі ёсць розгалас. Стараемся прадставіць нямецкае мастацтва і культуру такімі, якія яны ёсць на сённяшні дзень. Імкнёмся ўдзельнічаць у вялікіх імпрэзах, што праводзяцца ў Беларусі. Гэта, да прыкладу, фестывалі «ТЕАРТ», «Лістапад». Але ладзім і ўласныя мерапрыемствы. Да прыкладу, з кінатэатрам «Перамога» будзем рабіць серыю паказаў, прысвечаных Першай сусветнай вайне.

Мы працуем на некамерцыйнай аснове: усе нашы імпрэзы свабодныя для наведвання. Але, зразумела, каб іх праводзіць, патрэбныя сродкі. Іх выдаткоўвае нямецкая дзяржава: існуе дамова паміж Інстытутам імя Гётэ і Міністэрствам замежных спраў Германіі. Гэта не значыць, што мы з'яўляемся часткай міністэрства. Мы з ім супрацоўнічаем. Ужо на працягу 65 гадоў такая сістэма функцыянуе ва ўсім свеце, а цягам апошніх 20 гадоў — у Беларусі.

**— Ці можна сцвярджаць, што сваёй працай Інстытут імя Гётэ пашырае і беларускую культурную прастору? Да прыкладу, праз пераклад кніг з нямецкай мовы на беларускую. Лагічна, што такія выданні становяцца часткай беларускай культуры.**

— Гэта, ва ўсякім разе, жаданы для нас эфект. Мы лічым, што праца ў галіне культуры можа быць паспяховай толькі тады, калі яна не з'яўляецца «вуліцай з аднабаковым рухам». Гэта значыць, што заўсёды існуе дыялог. Напрыклад, цягам апошніх трох гадоў у межах кніжнага кірмашу ў Лейпцыгу мы былі партнёрам праграмы «Транзіт», дзе беларускія пісьменнікі разам з украінскімі і польскімі аўтарамі маглі прадставіць сваю творчасць. Калі вы пагледзіце на нашу праграму, то можаце заўважыць, што вельмі маленькая частка імпрэз мае характар прэзентацыі гатовых прадуктаў мастацтва і культуры Германіі. Наадварот, часцей імкнёмся менавіта да абмену досведам.

Як прыклад можна прывесці дзве вялікія серыі мерапрыемстваў: «Акадэмія поп-музыкі» і «Музей — машына часу». Абодва праекты маюць моцны адукацыйны кампанент і, калі мы запрашаем з Германіі экспертаў у сваёй галіне, яны сустракаюцца тут з калегамі з Беларусі. Але падкрэслю, што мы не займаемся прамоцыяй беларускай культуры ў Германіі. Гэта час ад часу здараецца больш ці менш выпадкова: да прыкладу, у выпадку з кніжным кірмашом. Але мы не бачым за сабой такой кампетэнцыі, таму вельмі жадалі б, каб існавала партнёрская арганізацыя — інстытут, які прадстаўляў бы беларускую культуру ў Германіі.

**— Ведаю, што Інстытут імя Гётэ садзейнічае арганізацыі перакладу асобных кніг з нямецкай на беларускую мову. Распавядзіце, калі ласка, больш падрабязна пра тое, як адбываецца гэты працэс.**

— У галіне падтрымкі перакладаў у нас ёсць дзве мэты. Першая: каб перакладалася як мага больш твораў нямецкай літаратуры на беларускую мову. Другая: каб пераклады становіліся больш якаснымі. У гэтым аспекце працы існуе спецыяльная працэдура, ужо даўно фармалізаваная: беларускія выдавецтвы могуць падаваць нам заяўкі на падтрымку перакладу. Зразумела, калі яны хочуць перакласці і выдаць нейкую кнігу, то гэта цягне за сабой пэўныя выдаткі. Мы можам дацыраваць пераклад, каб дапамагчы крыху знізіць парог, што перашкаджае выданню перакладных кніг. Дарэчы, гэта робім не толькі мы, але і многія культурныя інстытуты і замежныя пасольствы. Для падтрымкі перакладаў нямецкіх твораў на ўсе мовы свету Міністэрства замежных спраў Германіі мае спецыяльна выдзелены бюджэт — 500 тысяч еўра на год.

Якія наступствы мае гэта для нашай працы? Мы чакаем заявак ад выдавецтваў. Але чакаць — не вельмі прыемная справа, таму часцей за ўсё пачынаем актыўна дзейнічаць: напрыклад, прадстаўляем выбарку самых яркіх і адметных выданняў на кніжным кірмашы ў Мінску, запрашаем аўтараў, якія падаюцца нам цікавымі, падтрымліваем бібліятэку ў такім стане, што там заўсёды прадстаўлены самыя актуальныя сучасныя творы. І шмат працуем з перакладчыкамі. Трэба прызнацца, гэтая справа даволі цяжкая.

Трэці прынцып нашай працы ў галіне перакладу — падтрымка саміх перакладчыкаў. Іх праца вельмі складаная, яна ва ўсім свеце не так добра аплачваецца, як гэтага хацелася б, таму вельмі важна, каб перакладчыкі мелі магчымасць сустракацца, абменьвацца досведам, удасканальваць веды. Мы імкнёмся час ад часу кагосьці з іх запрашаць у Германію, а таксама на імпрэзы, куды прыязджаюць перакладчыкі з розных краін. Дарэчы, калі я кажу пра гэта, то маю на ўвазе толькі пераклады на беларускую мову. Ведаю, што ў вас амаль усе гавораць па-руску і маюць магчымасць чытаць у перакладзе на рускую, але мы тут падтрымліваем пераклады менавіта на мову тытульнай нацыі. З рускай мовай працуюць нашы калегі ў Маскве.

Не так даўно з'явілася новая вельмі цікавая ідэя — праект «Шкляны перакладчык», ініцыяваны фондам імя Роберта Боша. Гаворка пра тое, каб перакладчыкі ў розных краінах на працягу паловы дня сядзелі пад шкляным каўпаком і кожны ахвотны мог паназіраць за іх працай. Мы ведаем, што звычайна гэтыя людзі працуюць, зачыніўшыся ў кабінетах, адасобленыя ад усяго свету, а тут ідэя якраз палягае ў тым, каб зрабіць іх працу больш даступнай і за ёй можна было б паназіраць. Праект запланаваны на верасень. Пакуль не магу назваць дакладную дату, але мы ў ім таксама будзем удзельнічаць.

**— Часам у нас кажуць, што няма сэнсу папулярызаваць чытанне. Інстытут імя Гётэ мае, прынамсі, два праекты, звязаныя з распаўсюджваннем інфармацыі пра нямецкія кнігі, ды і з распаўсюджваннем саміх кніг. Гэта бібліятэка на колах — медыя-аўтобус *DeutschExpress* і праект для школьнікаў *LeWiS* — «Чытаем, ведаем, забаўляемся». Ці маюць ініцыятывы станоўчы эфект?**

— Праекты вельмі паспяховыя, але мы не можам сказаць, што ставім перад сабой задачу прымусіць чытаць тых людзей, у якіх ёсць натуральная непрыязнасць да друкаванага слова. Зусім не. Мы проста кажам: калі вы цікавіцеся замежнай літаратурай, то калі ласка, вось вам нямецкія кнігі, і мы якраз можам вам прапанаваць добрую выбарку гэтых кніг. А пра гэта казаць можна ўпэўнена, бо нямецкая дзіцячая і падлеткавая літаратура вельмі якасныя. У Германіі не толькі набываюцца ліцэнзіі на замежныя кнігі, але выдаецца шмат якаснай арыгінальнай літаратуры. Як паказаў праект *LeWiS*, дзеці з задавальненнем чытаюць кнігі з прапанаваных «скрынак», адказваюць на пытанні, атрымліваюць сертыфікаты і падарункі. І школы-партнёры вельмі задаволеныя. Што да медыя-аўтобуса, то гэты праект фінансава больш важкі, аўтобус ездзіць ужо ў чатыры гарады, і за яго поспех мы павінны падзякаваць нашым лакальным партнёрам у гарадах. Менавіта дзякуючы іх намаганням з'яўляецца стольківі аматараў нямецкай літаратуры. Але калі вы ў мяне запытаецеся, ці з'явіліся людзі, якія дагэтуль не цікавіліся літаратурай, а ў выніку гэтых праектаў раптам зацікавіліся, адкажу — не.

Я прытрымліваюся меркавання, што цяпер людзі чытаюць не менш, чым раней, а нават больш. Але сёння чытанне звязана не толькі з кнігамі. Мы проста чытаем па-іншаму.

**— Вы асабіста якім кнігам аддаяце перавагу?**

— Чым старэйшым станаўлюся, тым менш чытаю раманы і тым больш цікаўлюся навукова-папулярнай літаратурай. У асноўным гэта кнігі пра культуру, гісторыю і геаграфію. Пасля таго як патрапіў у Беларусь, стаў выбіраць літаратуру, звязаную менавіта з гэтай культурнай прасторай. Аднак час ад часу чытаю і мастацкую прозу: праца абавязвае сачыць за ходам літаратурнага працэсу, і я з задавальненнем гэта раблю. Таксама люблю і паважаю сучасных нямецкіх класікаў. Гэта Генрых Бёль, Петэр Хандке, у якога мяне вельмі захапляе яго віртуозная нямецкая мова. Вельмі люблю творчасць Рэмарка, якога, напэўна, добра ведаюць чытачы «ЛіМа». Але ў Германіі ён крыху забыты, і яго імя гучыць не так часта, як тут. Аднак менавіта такім вакольным шляхам, праз Усходнюю Еўропу, я зноў вярнуўся да Рэмарка і цяпер адзін за адным чытаю яго раманы.

**— Праграма Інстытута імя Гётэ традыцыйна багатая на цікавыя імпрэзы. Што чакае нас у бліжэйшай будучыні?**

— Гэта, у першую чаргу, «Акадэмія поп-музыкі», што праходзіць якраз гэтымі днямі. Яна прысвечаная музычнай журналістыцы. У нас у гасцях вельмі вядомыя рэдактары, што займаюцца музычнай і радыёжурналістыкай. У канцы чэрвеня плануецца імпрэза з аўстрыйскім паланістам і гісторыкам Марцінам Полакам, прысвечаная 100-годдзю Першай сусветнай вайны. Гэтая тэма сёння хвалюе многіх людзей культуры. У жніўні пачнецца серыя наступных імпрэз, прысвечаных супрацоўніцтву калекцыянераў і музеяў. Плануецца фотавыстаўка Арно Фішэра, а таксама класічны канцэрт, прысвечаны 300-гадоваму юбілею кампазітара Карла Філіпа Эмануіла Баха.

Марына ВЕСЯЛУХА

Маладзічок



# Сцяжынка ў вёсны

У 1977 годзе пабачыў свет калектыўны зборнік «Вёсны», куды ўвайшлі вершы членаў літаратурнага аб'яднання «Узлёт» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Як адзначаў ва ўступным слове прафесар і кіраўнік творчай суполкі Алег Лойка, «…дваццаць вёснаў грукаціць на прыступках да яе высокасці паэзіі — дваццаць сакавікоў, красавікоў, маеў — роўна столькі, колькі хлопцаў і дзяўчат выступае ў гэтай кнізе».

Многія з тых пачаткоўцаў пасля сталі вядомымі беларускімі пісьменнікамі: Мікола Мятліцкі, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Марук, Кастусь Жук, Уладзімір Ягоўдзік, Яўген Гарадніцкі, Віктар Стрыжак, Яўгенія Мальчэўская і іншыя.

Адкрывала ж «Вёсны» першакурсніца Вольга Русілка, з падборкі якой асабліва запомніліся вось гэтыя на дзіва светлыя і пранікнёныя радкі:

*На веснах у цябе*
*сняжынка растае,*
*І смешна, што яна*
*не мае сілы.*
*І дзіўна, што з такіх,*
*падобных да яе,*
*Суметы аж*
*пад неба накруціла.*

Некаторыя з тых пачынаючых паэтаў і паэтэс паступова расталі на літаратурным даляглядзе, а вось паэтычная зорка Вольгі ярка свеціць і сёння. Пацвярджэнне гэтаму — томік выбраных твораў пісьменніцы «Сцежка, сцежачка, сцяжынка», што нядаўна выйшаў у выдавецтве «Харвест» і папоўніў кніжную серыю «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі».

Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Вольга Русілка працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры СШ № 25 горада Віцебска. Цяпер яна загадчыца кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава, кандыдат філалагічных навук, дацэнт. З-пад яе пяра выйшлі кнігі паэзіі «Табе» (1996), «Ажына» (2004), «B.I.P.» (2009).




В. Русілка — лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. С. Караткевіча Віцебскага аблвыканкама.

Чарговую кнігу «Сцежка, сцежачка, сцяжынка» склалі вершы, лірычныя мініяцюры і пераклады з папярэдніх кніг пісьменніцы, а таксама новыя творы. Усе яны, несумненна, сведчаць не толькі пра жыццёвую сталасць аўтаркі (у яе сёлета юбілей), але і пра творчую.

*Лячуся ўсмешкаю дзіцяці,*
*Ласкавым дотыкам рукі.*
*Прашу благаславення ў маці,*
*Сваёй і Божай — на вякі.*

Многія яе радкі, як тыя незабыўныя сцяжынкі, вяртаюць нас у нашы юнацкія вёсны: «На сцяжынках радзімых / Я няпрошаны госць. / Ціха-ціха, любімы. / Я іду ў маладосць».

І кожнае такое вяртанне — радаснае і хвалюючае. Таму я шчыра ўдзячны «Сцежцы, сцежачцы, сцяжынцы», якая гэтак светла і цёпла нагадала сёння мне пра нашы далёкія студэнцкія вёсны.

**Уладзімір МАЗГО**

# Пра сціплых людзей

У Гомельскім выдавецтве «Барк» выйшла кніга лаўрэата прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і прэміі імя Васіля Віткі, вядомага беларускага пісьменніка і драматурга Васіля Ткачова. Новае выданне называецца «Варона».

Кнігу склалі аповесці «Скачы ад печы, жэўжык!», «Мішэнь» і «Дзед Аўгей і дзеці», а таксама апавяданні, жыццёвінкі і гумарэскі, напісаныя ў апошні час. Лёгкі стыль, іронія і дасціпны гумар, уласцівыя пісьменніку, прысутныя і ў гэтых творах. А яшчэ тут ёсць філасофскі, глыбокі паказ жыцця беларусаў.

Аўтар з сыноўняй любоўю і цеплынёй піша пра людзей, на долю якіх выпалі нялёгкія выпрабаванні. Яго героі — людзі простыя, сціплыя і нібыта непрыкметныя. Але ж калі трэба, то яны гатовы не толькі




пастаяць за сябе, але і выручыць з бяды іншых, у цяжкую хвіліну падставіць плячо, падаць руку.

Творы Васіля Ткачова вельмі папулярныя, гэта адзначаюць і бібліятэкары.

**Міхась СЛІВА**

# Паша ды яго сябры

У межах праекта «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» выдавецтва «Харвест» у 2012 годзе заснавала яшчэ адну серыю — «Бібліятэка дзіцячай літаратуры». Кнігі гэтай серыі, адрасаваныя ў першую чаргу самім хлопчыкам і дзяўчынкам, рэкамендуюцца і для сямейнага чытання. Праўда, даўняя традыцыя, калі па вечарах ці ў выхадныя бацькі і дзеці збіраліся разам, каб пазнаёміцца з цікавай кнігай, пачала забывацца. Добра, каб у сем'ях успомнілі, як згуртоўвае сумеснае чытанне. Акурат у гэтай якасці можна выкарыстаць кнігу Ірыны Лявонавай «Ура! Цырк прыехаў».

По сутнасці, невялікая аповесць. Праўда, сама пісьменніца жанр кнігі не пазначае, але дванаццаць апавяданняў, змешчаных пад адной вокладкай, аб'яднаны некаторымі героямі, якія пераходзяць з твора ў твор. Тое, што адбываецца з хлапчуком Пашам Лавачкіным і яго сябрамі, шмат у чым узаемазвязана, падаецца як жыццё дзятвы ў пэўны прамежак часу. Найчасцей яно суадносіцца з домам, дзе жыве Паша з маці, бабуляй і дзядулем. Кватэра ў іх вялікая, трохпакаёвая, размешчаная на чацвёртым паверсе.

Пад адным дахам жыве многа людзей, і гэта радуе Пашку: ёсць з кім пагаварыць. Дый пагуляць таксама. Асабліва ўсцешвае хлопчыка тое, што ён можа бавіць час са сваёй стрыечнай сястрычкай Ленкай. Гэта і не дзіўна, бо яны амаль аднагодкі:




Пашку споўнілася шэсць гадоў, а Лене — чатыры. Знешне яны вельмі падобныя. І гэта таксама не дзіўна, бо іхнія маці — сёстры-блізняты. Але ёсць і тое, што розніць. Пашка, у адрозненне ад стрыечнай сястрычкі, вялікі фантазёр і выдумшчык. Гэта прыводзіць да таго, што дзеці часам трапляюць у нечаканыя сітуацыі.

Як, скажам, тады, калі Пашка ўспомніў пра мора (бачыў, калі адпачываў у Анапе) і вырашыў стаць капітанам марскога судна, а Ленцы прапанаваў быць юнгам. Такая гульня, аднак, прынесла не толькі радасць. Непрыемнасці былі і тады, калі ў госці завітала дзядулева сястра з чатырохгадовым Юрам. Ды толькі добра, што ўсё добра заканчваецца. У аснову ж апавядання «Шпіён ці не шпіён?» пакладзена сітуацыя ў нечым камічная, але разам з тым сур'ёзная, з якой відаць, што дзеці, калі штосьці западозраць, гатовы дзейнічаць рашуча!

Ужо гэтага твора дастаткова, каб упэўніцца, што ў Пашы і яговых сяброў не ўсё так бесклапотна, як можа падацца на першы погляд. Гэта добра, што І. Лявонава не імкнецца ідэалізаваць жыццё сваіх юных герояў. Яна разумее, што ў маленстве, як і ў жыцці ўвогуле, усялякае здараецца, таму поруч з дабром часам прысутнічае зло. У гэтым упэўніваешся праз апавяданне «Белка». Дзеці не могуць нарадавацца, калі ў іх з'явіўся чатырохногі сябра. Ды не ўсім у іхнім доме падабаецца бесклапотнае сабачаня, якое ля дзвярэй пад'езда падабраў дзядуля. Адзін з жыхароў даверлівай Белцы прыціснуў дзвярыма лапку, ды так моцна! Таму як ні стараліся ўрачы, уратаваць сабаку не змаглі.

Калі Пашу было чатыры гады, у сям'ю прыйшло гора: загінуў ягоны бацька — лётчык-выпрабавальнік. Хлопчык ніяк не мог зразумець, што гэтая страта назаўсёды, верыў, што бацька абавязкова вернецца...

Магчыма, думкі чатырохгадовага хлапчука перададзены ў нечым і па-даросламу. Ды не будзем забываць, што кніжка гэтая рэкамендавана і для сямейнага чытання.

**Тарас ГЕНЧЫК**

# Выданне — 3D

Кніга паэта Арцёма Кавалеўскага і дызайнера Руслана Найдзена — сапраўдная знаходка супольнай аўтарскай фантазіі. Як паведамляецца ў анатацыі да выдання, «Акры» — унікальны праект сучаснай беларускай літаратуры, напоўнены надзвычайным лаканізмам і ёмістасцю лірычнага выказвання, увасобленага ў мінімалістычнай вершаванай форме. Аўтары сцвердзілі, што ў мастацтве не было і не будзе строга вызначаных межаў у спосабе рэалізацыі аўтарскай ідэі.

«Акры» — гэта цудоўнае ўвасабленне сінтэзу двух мастацтваў: графічнага дызайну і паэзіі. Для іх характэрны мінімалізм, але з глыбокім і непаўторным зместам. Калі казаць пра тое, што з'явілася спачатку, то слова было першым, а потым нарадзілася візуальнае ўвасабленне вершаў. Разам гэта — літаратурная метафара, дапоўненая візуальнай. Руслан Найдзен паказаў, што з дапамогай выключна чорнага і белага колераў можна абудзіць рознакаляровыя, разнастайныя ўяўленні і асацыяцыі чытачоў-гледачоў.

Ужо сама вокладка заяўляе пра сябе сваім лаканізмам і незвычайнасцю. У малевічаўскім чорным квадраце пададзены белыя літары. Не хапае чатырох: «А», «К», «Р», і «Ы». Так узнікае назва кнігі «АКРЫ», як кажа Арцём Кавалеўскі, па першых літарах імёнаў «Арцём Кавалеўскі» і «Руслан», «Ы» знаходзім у выслоўі «візуальна-паэтычны праект». Хутчэй бы ўбачыць, што ўнутры… А там — трапныя мінімалістычныя вершы, з кароткіх радкоў якіх можна даведацца цэлую гісторыю і зразумець, што такое сапраўдная гульня і пачуццё слова.

У кожным вершы «Акраў» ёсць не толькі глыбокі сэнс і гульня слоў, якая дапаўняецца неардынарным дызайнам, але яшчэ і гукі, якія «чуюцца» ад гэтых візуальна-паэтычных вобразаў. Такі своеасаблівы літаратурна-графічны эфект 3D.

Так, у вершы «Вясна і пальчаткі» адчуваюцца пяшчота і лірычнасць Арцёма Кавалеўскага, бачым мы і трапяткі дотык, які адбыўся ў вершы. А мо і ў жыцці? Мы нават знаходзім на старонцы ўвасабленне гэтага прыгожага жаночага дотыку, які дызайнер перадае ў выглядзе адбітка мезенца. Але якая цудоўная дэталь! Адбітак адлюстраваны ў выглядзе сэрца. А ў творы «*Каляды — калі кола й каза*» ўсе словы пасля працяжніка маюць дачыненне да слова «каляды». — Усе пачынаюцца з літары «К»! Ёсць тут і цікавая графема: кола з рогамі, што разам нагадвае казу.

Паэт так умела жангліруе словамі, што немагчыма вызначыць мяжу паміж сэнсавай прыгажосцю паэтычнай глыбіні і гульнёй літар, гукаў, складоў. А потым разумееш, што ніякай мяжы няма, што ўсё ў гэтых вершах існуе гарманічна і цэласна, што няма нічога чужароднага. Ды прыкладу, часткай аднаго з твораў стаў сапраўдны білет са Стакгольма да Кальмара. Цікава, што нумар у ніжнім куце білета 029 супаў з патрэбным нумарам кніжнай старонкі — 29. Самі аўтары гэта заўважылі толькі пасля выхаду кнігі. У апошнім вершы таксама адлюстравана рэч з рэальнасці — чэк з крамы. Тут, як і з білетам, узнікае адчуванне аўтабіяграфічнасці мастацтва, яго сапраўднасці і натуралістычнасці.

Аўтары праекта на адной са старонак далі нам даволі цікавую магчымасць: пачытаць тэкст з люстэркам, бо толькі так можна хутка зразумець напісанае. Для няўважлівых у правым кутку зноска: «Скарыстаць люстра». Увогуле люстэрка сімвалізуе незямны альбо паралельны свет, невядомае нам, але тое, што дапамагае даведацца пра штосьці ў нашым рэальным жыцці. У дадзеным выпадку — як выглядае верш, а праз выгляд — яго сутнасць.

На чацвёртай старонцы вокладкі зноў з'яўляецца квадрат, але ўжо не з белымі літарамі няпоўнага алфавіта, а толькі з «Я». Па-за межамі чорнай геаметрычнай фігуры ідуць тры кропкі-квадрацікі, быццам намёк на тое, што гэта толькі пачатак візуальна-паэтычнага мастацтва… Насамрэч вельмі цікава, што будзе пасля гэтых шматзначных кропак.

**Вікторыя ГОМЗА**

# Свой дом: с чего начать

Не забывайте о мечтах, ведь их предназначение — сбываться! Главное, чего хочет каждый человек, пусть даже не признаётся в этом, — жить в уютном доме, желательно с камином и садом, в окружении любимой семьи, радоваться каждой минуте, несмотря на работу, усталость и волнения. Разумеется, для этого нужны усилия, но ведь главное — сделать первый шаг! Вы думаете о том, чтобы из душной городской квартиры перебраться туда, где можно наслаждаться природой, тишиной и чистым воздухом, но постройка своего жилья кажется долгой и мучительной? Можно перевернуть горы литературы и сотни сайтов, а потом, утомившись от всего этого, махнуть рукой.

### ПАРКЕТ? ЛИНОЛЕУМ? КОВРОЛИН?

Обратитесь лучше к книге **«Дом своими руками»**, вышедшей в издательстве «АСТ» при участии ООО «Харвест». Книга в лёгкой и доступной форме расскажет обо всём, что нужно знать индивидуальным застройщикам, поможет избежать ошибок, сэкономить свой бюджет и обеспечить будущему домашнему очагу вековую прочность.

Главы издания имеют пошаговую структуру, в соответствии с основными этапами строительства — от закладки фундамента до отделочных и малярных работ, что не позволит запутаться даже начинающим строителям. Какое покрытие выбрать для пола — паркет, линолеум, ковролин? Трудно ли изготовить красивые витражи, которые делают любое жильё более просторным и нарядным? Как гарантировать абсолютную теплоизоляцию при установке дверей и окон, провести воду и электричество, укрепить крышу? Книга, похожая на настоящую энциклопедию, предоставляет читателям исчерпывающие ответы на сотни различных вопросов, рассказывая не только о технических моментах строительства, но и о секретах придания помещению неповторимого уюта, например, о предназначении цвета и искусстве выбора обоев.




В «Доме своими руками» умело расставлены акценты: наиболее важные советы вынесены из общего текста в специальные рамки. Кроме того, в издании подробно рассказывается о видах современных строительных материалов и инструментов, что облегчает их выбор. После знакомства с книгой строительство дома не должно ассоциироваться у вас со стихийным бедствием, оно станет увлекательным, хоть и непростым, занятием и принесёт только желанный результат!




Всех, кто берётся за ремонт в доме, ждёт немало открытий и сюрпризов, причём зачастую хлопотных и не очень приятных. Чтобы избежать неожиданностей, необходимо всё тщательно продумать, в чём помогут красочные, богато иллюстрированные книги, вышедшие в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест».

### НА ВЕКА!

В издании **«Плиточные работы»** рассказывается о видах керамической плитки, о том, на какие её особенности стоит обратить внимание, чтобы получить профессиональный и качественный результат. Один из самых популярных материалов для отделки жилья обладает бесспорными достоинствами: высокой проч-




ностью, устойчивостью к огню, химическим веществам, воде, солнечным лучам и большим силовым нагрузкам. Так что для ремонта это будет лучшим решением, тем более что есть путеводитель — книга. Вы можете увидеть готовую работу ещё до её начала благодаря большим иллюстрациям, а также ознакомиться с пошаговой инструкцией по облицовке стен и пола. **В издании «Безопасность дома своими руками»** речь идёт о не менее важных вещах, обеспечивающих дому неприкосновенность — от укрепления замков, установки решёток на окна до установки охранной сигнализации и специальных механических роллетов. Зачастую люди не хотят браться за такие работы самостоятельно, боясь ошибиться, но книга подсказывает, что стоит попробовать, обеспечив себе уверенность в том, что всё сделано правильно и добросовестно. «Безопасность дома своими руками», как и предыдущая книга, содержит огромное количество рисунков, фотографий, схем и инструкций. Оказывается, для вашей защиты, спокойствия и комфорта достаточно самых элементарных усилий!

### ИСЦЕЛИ СЕБЯ САМ

Книга **«Исцеляющая мультиварка»**, вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», представляет собой сборник элементарных, лёгких в




исполнении, вкусных и полезных рецептов. В чём же волшебная сила мультиварки? Это устройство, имеющее множество различных режимов, позволяет приготовить любое блюдо, сохранив его диетические свойства, естественный вкус, а также количество витаминов и микроэлементов, уменьшающееся при обычной жарке. Кухонный помощник сам следит за процессом готовки, регулирует температуру и, разумеется, экономит время любой хозяйки. Если вы приобрели этот удивительный прибор, но ещё не знаете, что с ним делать, — издание «Исцеляющая мультиварка» для вас. В книге собраны способы приготовления ароматных супов на любой вкус: из мяса, грибов, овощей, бобовых изделий. Не оставит равнодушной ни одну хозяйку и раздел про вторые блюда, где есть секреты приготовления рассыпчатых каш и блюд-дуэтов, запечённой и маринованной рыбы, фаршированных шампиньонов, плова. Десертов, к сожалению, не так много, но выбор есть: творожные запеканки с различными добавками, хлеб на кефире и другие сладкие фруктовые удовольствия. Практически всю работу за вас сделает мультиварка, единственное требование — внимательно изучить ингредиенты, засыпать их, выбрать режим, поставить таймер и — звать гостей!

**Мария ВОЙТИК**

# А забойца… электрычнасць!




Чалавеку, чыя прафесійная дзейнасць не звязаная з пытаннямі фізікі, энергетыкі, вельмі складана зразумець, як наладжаная праца электрастанцыі, як кіраваць напружаннем і перамяшчаць электраэнергію паміж гарадамі ці нават краінамі.

Я ўжо не кажу пра тое, што нам вельмі складана нават уявіць, як можна, перапраграмаваўшы шчыткі ў пэўных месцах, адключыць цэнтральную сістэму кіравання станцыяй і… арганізаваць масавае забойства. Аўтобусу дастаткова толькі пад'ехаць на пэўную адлегласць, і моцным напружаннем усе пасажыры будуць фактычна ператвораныя ў попел.

Страшна. Таямніча. Цікава. Менавіта такую гісторыю нам распавядае ў сваёй кнізе **«Пад напружаннем»** знакаміты амерыканскі пісьменнік **Джэфры Дзівер**. У Беларусі яна выйшла пры падтрымцы ТАА «Харвест». Раман стаў дзявятым у серыі выданняў пра дэтэктыва Лінкальна Райма.

Адметна, што да пачатку бліскучай кар'еры пісьменніка Джэфры Дзівер атрымаў ступень бакалаўра журналістыкі ва ўніверсітэце Місуры і стаў выпускніком юрыдычнага факультэта Фордхэма. Ён працаваў журналістам, адвакатам, быў нават фольк-співаком. Напэўна, вялікі жыццёвы досвед і здольнасці да глыбокага аналізу рэчаіснасці дазволілі ўжо сталаму мужчыну ва ўзросце 38 гадоў заняцца пісьменніцкай справай.

У 1988 годзе выйшла першая кніга з трылогіі «Руны». А потым фактычна адна за адной нараджаліся новыя і новыя гісторыі пра дэтэктываў Сандалоне, Джона Пелама, Лінкальна Райма, Катрын Данс, некалькі зборнікаў апавяданняў. Яго кнігі выйшлі агульным накладам больш як 20 мільёнаў асобнікаў, неаднаразова траплялі ў спісы бестселераў, а сам аўтар стаў лаўрэатам мноства прэстыжных літаратурных узнагарод.

Менавіта гэтая акалічнасць дазволіла ўжо знакамітаму пісьменніку ўзняцца на новую прыступку поспеху.

Так, у 2010 годзе фонд Яна Флемінга замовіў Дзіверу чарговы раман пра Джэймса Бонда. А праз год з-пад яго пяра выйшла кніга «Карт-бланш» са знакамітым Агентам 007 у якасці галоўнага героя.

Але вернемся да рамана.

Нехта можа палічыць яго досыць нудным і нецікавым. Напачатку. Шмат спецыяльнай тэрміналогіі, прафесійнай лексікі, што ўжываюць людзі, якія працуюць на электрастанцыі. Не надта зразумелыя дыялогі, недакладна выбудаваны кантэкст.

Але недахопы заканчваюцца старонак праз пяць, і пачынаецца захапляльная гісторыя. Забойства, знаёмства з дэтэктывамі, назіранне за іх працай, пошукі злачынцы, спробы яго злавіць.

І, як гэта бывае ў традыцыйных амерыканскіх «баевіках» і фільмах-катастрофах, дэтэктывы паспяваюць літаральна ў апошнюю хвіліну, калі можа адбыцца чарговае злачынства.

**Юзэфа ВОЎК**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Загадны лад забаронены

Дачакаліся! У нашыя вокны пагрукалася лета, прынёсшы з сабою пах першых клубніц, травы, памытай дажджом, і доўгачаканыя канікулы. Калі прыгадваю свае школьныя гады, то адразу на памяць прыходзяць неабдымныя спісы літаратуры для чытання. Адкрыю вялікую таямніцу, якая вас, верагодна, развесяліць. Я заўсёды думала, што гэта спісы абавязковых для прачытання кніг. І толькі пасля заканчэння школы зразумела, што такія заданні даваліся выключна для пашырэння кругагляду надта сумленных выдатнікаў… Так што давайце крыху паразважаем пра дзіцячае чытанне.

Ужо даўно не навіна, што дзеці чытаюць усё менш. І гэта павінна хваляваць не толькі настаўнікаў літаратуры. Нездарма ж падкрэсліваецца, што літаратура адкрывае людскія сэрцы для суперажывання. Аднак не толькі ў сферы псіхалогіі палягае хваляванне сучаснага грамадства. Амерыканцы забілі трывогу яшчэ ў 1983 годзе. Даследаванне называлася «Нацыя ў небяспецы: неабходнасць рэформы адукацыі». Якія пагрозы грамадству яны звязвалі са зніжэннем цікавасці да чытання сярод падлеткаў? Усё нашмат прасцей, чым мы малюем сабе ў пафасных прамовах пра страту духоўнасці нацыі. Так, гэта, несумненна, мае месца быць. Але страшней тое, што нам пагражае функцыянальная непісьменнасць.

«Хто вінаваты?» — адвечнае пытанне, што суправаджае нас праз стагоддзі. Вінаваты ў многім, на мой погляд, 1968 год, калі па Еўропе прайшла хваля так званых народных мяцяжоў. Заходняй Еўропе замест жаданай незалежнасці ад сацыяльнай архаікі гэта прынесла настолькі вольныя нормы, якія часам мяжуюць з дзікунствам. Усходняя ж Еўропа страціла так званы савецкі таталітарызм, а разам з ім — моцную сістэму адукацыі.

Часы змяніліся. Можна колькі заўгодна казаць, што дзяржава павінна клапаціцца аб прапагандзе чытання. Але... У Германіі ўсе кніжныя мерапрыемствы — гэта ініцыятыва знізу. Надзвычай папулярныя дзіцячыя конкурсы чытальнікаў арганізуюцца выключна сіламі бібліятэкараў і бацькоў. Рэзананс жа ад гэтых падзей выходзіць далёка за межы раёнаў і федэральных зямель. Ды й гвалтам мілы не будзеш: дзеяслоў «чытаць» не прымае загаднага ладу. Таму чым больш з боку бацькоў маралізатарства пра карысць чытання, тым больш дзеці будуць супраціўляцца. Сёння існуе неверагодная колькасць рэкамендацый псіхолагаў пра тое, як правільна прывучаць дзіця да чытання. Апаненты могуць, канечне ж, працытаваць Бялінскага, які казаў, што «страсць да чытання ў дзецях не павінна радаваць нас: яна развівае ў [іх] фантазію наконт іншых здольнасцей духу, а гэта можа зрабіць з дзіцяці бескарыснага летуценніка». Аднак задача ў тым і заключаецца, каб граматна «напаўняць» дзіця кнігамі. Нездарма ж нямецкія выдаўцы, рыхтуючы выданні для дзяцей, нават для маленькіх, выкарыстоўваюць менш ілюстрацый. Кліпавая свядомасць, заснаваная на хуткай змене відэашэрагу, і без таго паўсюль падпільноўвае маладое пакаленне. А трэба вырасціць не летуценніка, але развітую асобу з багатай уласнай фантазіяй.

Пакуль вы не пабачыце, што ваша дзіця не ўяўляе свайго дня хоць без некалькіх старонак, — не пакідайце яго. Ідзіце на якія-кольвек хітрыкі, але выхоўвайце ў яго любоў да слова — амаль на ўзроўні першаснага інстынкту.

# Шчаслівыя горкія моманты

Творчая імпрэза «Першая кніга паэта» адбылася ў літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Мерапрыемства, прысвечанае Дню памяці аўтара «Вянка», прыцягнула ўвагу і сучасных майстроў лірычнага слова. Што адбываецца ў сэрцы пісьменніка, калі ён трымае ў руках уласную дэбютную кнігу? Насамрэч не толькі радасць, а дзівосная завіруха супрацьлеглых пачуццяў!

### АДКУЛЬ ГЭТА ЎСЁ?

Першы зборнік уласных вершаў «Дрэвы растуць з галавы» быў для Кацярыны Глухоўскай нечаканасцю: год таму, калі маладая паэтэса атрымала гатовае выданне, увогуле адчула неверагодную нэць усяго, што адбываецца! Зразумела ж, шчаслівую… Варта адзначыць, што таленавітая дзяўчына падзялілася падчас імпрэзы сваім творчым крэда: літаратура павінна дапамагаць людзям жыць, нараджацца і паміраць, калі прыйшоў час, а не пераўтварацца ў метафарычную экзальтацыю.

### КВАТЭРНАЕ ПЫТАННЕ

А вось Аксане Спрынчан падчас падрыхтоўкі сваёй кнігі «Вершы ад А.» ў 2004 годзе давялося ахвяраваць амаль самым дарагім — хатняй прасторай. «Калі я вырашыла: у кнізе павінна быць прадмова, яе аўтар сказаў, што, каб напісаць нешта добрае, яму трэба ўжыцца ў сітуацыю, а значыць перабрацца ў маю аднапакаёвую кватэру, дзе мы туліліся з мужам». Забаўная сітуацыя доўжылася амаль два тыдні, каб у эсэіста падчас знаходжання ў чужой хаце з'явілася некалькі старонак пад назвай «Кветкі хаваюцца ў вершах». На жаль ці на шчасце, прадмова так і не трапіла ў кнігу.

### ТОЕ, ПРА ШТО НЕ КАЖУЦЬ

Першая кніга Марыі Мартысевіч, паэтэсы, перакладчыцы і журналісткі, падобная да яе: такая ж шматгранная, іранічная, але праўдзівая. Выданне «Цмокі лятуць на нераст», якое з'явілася ў 2008 годзе, не прынесла аўтарцы бязмежнай радасці. Першая думка атрымалася далёка не лірычнай: дзе ўзяць фінансы? Трэба было актыўна працаваць, каб вярнуць грошы, затрачаныя на друкаванне, рэдактарскія, дызайнерскія ды іншыя справы.

«Кнігу я рэкламавала самастойна і даволі актыўна: ладзіла прэзентацыі, нават ездзіла за мяжу Беларусі», — распавяла Марыя Мартысевіч. Кніга «Цмокі лятуць на нераст» — гэта зборнік эсэ ў вершах і прозе, своеасаблівае змяшэнне жанраў, а таксама — уласных поглядаў, кранальных матываў, вострых жаночых тэм. Вокладка аформлена ў найлепшых традыцыях рэкламы і поп-арту.

Аўтарка лічыць, што першая кніга валодае амаль што магічнай сілай, бо ўпарта знаходзіцца ў падсвядомасці творцы ўвесь час, пакуль ён яе не выдасць, а потым адпусціць. Многія людзі баяцца гэтага кроку, адхіляюць яго, думаюць, што яшчэ рана, а пасля шкадуюць.

### ВЕРШЫ ЯК ВЫКЛІК

Аўтар зборніка «Дзень паэзіі смерці дзень», які з'явіўся ў 2012 годзе, паэт і празаік Андрэй Адамовіч прызнаўся, што незалюбіў сваю першую кнігу: выдавалася яна вельмі цяжка, трэба было пабегаць па крамах ды ўладзіць шэраг спрэчных матэрыяльных пытанняў.

«Калі я разважаў над вокладкай, вырашыў зрабіць комікс па матывах добра вядомага анекдота. Чалавек грукае ў дзверы, яму адчыняюць, ён пытае: Андрэй дома? Пачуўшы адказ, што той памёр, зноў звяртаецца да субяседніка: а вершы Андрэй пісаць будзе?» Арыгінальнасць кнігі на гэтым не заканчваецца: у выдання ёсць аўдыёдатак — вершы, запісаныя ў прафесійнай студыі сябрамі пісьменніка, а таксама фармат нестандартнага, павялічанага памеру.

Паэт і выдавец Зміцер Вішнёў, які таксама любіць здзіўляць і правакаваць, наадварот, узгадаў толькі лепшае: яго дэбютная кніга «Штабкавы тамтам», трапіўшы ў крамы яшчэ ў 1998 годзе, разышлася імгненна.

Адна з самых стыльных аўтарак Аксана Данільчык упершыню пабачыла кнігу сваіх твораў пад назвай «Абрыс Скарпіёна» амаль 20 гадоў таму. «Добра памятаю, як змагалася за вокладку, але зрабілі яе ўсё роўна не так, як хацелася мне. Пакрыўджаная, выйшла з выдавецтва на вуліцу і раптам адчула: усё ж такі жыццё змянілася!» — узгадала пісьменніца.

**Марыя ВОЙЦІК**

# На Пісьмянковым лузе…

На працягу двух дзён Касцюковіцкая зямля дыхала музыкай, паэзіяй і песняй. Тут прайшло трэцяе абласное свята паэзіі і аўтарскай песні «Пісьмянкоў луг».

У першы дзень свята для гасцей была арганізавана экскурсійная праграма «Па шляхах вядомых землякоў». Маршрут экскурсіі праходзіў праз Касцюковіцкі краязнаўчы музей, літаратурны музей А. Куляшова ў аграгарадку Новыя Саматэвічы і Студзянецкую святую крыніцу. Апошнім прыпынкам першага святочнага дня стаў гісторыка-культурны аб'ект «Пісьмянкоў луг» на беразе ракі Бесядзь у вёсцы Бялынкавічы, дзе адбыліся Пісьмянкоўскія чытанні. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел ганаровыя госці свята: пісьменнікі-землякі, сваякі вядомых беларускіх творцаў, сталічныя літаратары, а таксама госці з Бранскай вобласці Расіі і Смаленшчыны. На свята ў родны кут завітаў пісьменнік-зямляк, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, ганаровы грамадзянін горада Касцюковічы Леанід Левановіч.

На сцэне — музычнае спаборніцтва паміж удзельнікамі конкурсу аўтарскай песні. Непадалёк — літаратурныя выстаўкі, якія таксама ацэньваліся прафесійным журы. Тут жа, на плошчы, размясцілі свае вырабы ўдзельнікі конкурсу дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У гарадскім скверы працавала дзіцячая пляцоўка. Маладыя выканаўцы дарылі слухачам песні, вершы і інструментальныя кампазіцыі. У канцэртнай праграме «Галасы Прыбяседдзя» сваё майстэрства прадэманстравалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці Крычаўскага, Горацкага, Хоцімскага і Клімавіцкага раёнаў.

Вечарыну паэзіі «На таленты багатая зямля» чакалі з хваляваннем і надзеяй усе ўдзельнікі конкурсаў. Бо пасля тэматычнай часткі пачалася ўрачыстая цырымонія ўзнагароджвання пераможцаў конкурсаў. Нечаканы і вельмі прыемны сюрпрыз для мясцовай паэтэсы Наталлі Азаранка падрыхтаваў старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў, які абвясціў, што яна прынятая ў СПБ. Увечары касцюкаўчан чакаў яшчэ адзін музычны падарунак — паўтарагадзінны канцэрт калектыву «Гуляй, казак» з Мінска.

**Наталля ДРОБЫШАВА,**
**намеснік дырэктара**
**Дзяржаўнай установы культуры**
**«Цэнтралізаваная клубная сістэма**
**Касцюковіцкага раёна»**

# Пераклады з Нойштэрліца

24 мая сышоў з жыцця перакладчык Уладзімір Чапега, які апошнія дзесяцігоддзі жыў у Германіі і разам з жонкай Гундулай займаўся перакладамі з нямецкай і беларускай моў. Уладзімір Пятровіч нарадзіўся 18 чэрвеня 1939-га ў вёсцы Сялец Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў (1961), у 1962 — 1988 гг. служыў у Савецкай Арміі, у ГДР. Жыў у прыгожым горадзе Нойштэрліц, зямля Мекленбург — Пярэдняя Памеранія. У пачатку сямідзясятых звярнуўся да перакладчыцкай дзейнасці: пераствараў па-нямецку раман І. Мележа «Людзі на балоце», аповесці В. Быкава «Абеліск» і «Здрада», нарыс У. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі», асобныя творы беларускіх класікаў для анталогій беларускага апавядання, а таксама беларускія казкі і шэраг іншых кніг. Апошнім перакладам з беларускай мовы стала першая частка паэтычнага цыкла А. Разанава «Гліна. Камень. Жалеза» ў суаўтарстве з Эльке Эрбам. Кніга з паралельным тэкстам на беларускай і нямецкай мовах выйшла ў 2013 годзе.

Другая старонка працы У. Чапегі — пераклады твораў нямецкіх пісьменнікаў на беларускую мову. Першымі ў гэтым шэрагу сталі раманы Г. Ота «Пара ў дарогу, буслы» і «Апасіяната» А. Аменды з галоўным героем Людвігам ван Бетховенам. Раман Л. Франка «Ісусавы вучні» і навелы С. Цвейга, выдадзеныя асобнай кнігай «Пякучая таямніца», былі аздоблены прадмовамі, у якіх У. Чапега ўзнаўляў асноўныя моманты біяграфій пісьменнікаў і вызначаў галоўныя адметнасці іх творчасці.

Як вядома, многія беларускія перакладчыкі карысталіся падрадкоўнікамі і не валодалі на высокім узроўні мовай арыгінала. У. Чапега, натуральна, добра ведаў нямецкую мову, але амаль заўсёды працаваў у суаўтарстве. Побач з яго прозвішчам на вокладках кніг стаяць імёны Н. Рандау, Я. Семяжона і амаль заўсёды — жонкі Гундулы Чапега. Пераклады нямецкіх кніг зроблены з бездакорным майстэрствам: для смешнага, узнёслага, трагічнага перакладчыкі знаходзілі адпаведную інтанацыю, апавядальнікі і іх героі не хварэлі на русізмы. Кожны пісьменнік мае адметную манеру пісьма, уласны сінтаксіс, што павінна выяўляцца пры перакладзе. У кнігах, пераствораных У. Чапегам, разам з гэтым заўсёды адчуваецца сур'ёзнасць у стаўленні да пісьменніцкага слова, адчуванне значнасці мастацкага твора.

Уражваюць наклады перакладаў: ад шасці тысяч асобнікаў («Пякучая таямніца»), да пятнаццаці тысяч («Навелы» Т. Мана і С. Цвейга, выд. 1996 г.). Перакладзеныя У. Чапегам кнігі знайшлі сваё месца на паліцах бібліятэчных стэлажоў, і разам з Л. Франкам хочацца спадзявацца, што яны «хоць крышку памаглі таму, каб чалавек застаўся чалавекам».

«…а ў садзе мы, хлопчыкі, часта стралялі з лука ў мішэнь. Жылі мы на Рэйганса ў пекара, і я не раз стаяў у яго за прылаўкам і прадаваў булачкі. Яшчэ ёсць там цэрквы, у якіх я іграў на арганах, ёсць замак, у якім я быў прыдворным музыкантам. А ты ведаеш, што я, як прыдворны музыкант, насіў пазалочаную шпагу?»

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Чырвоная нітка

**На навюткія крэслы гарадзенскай лялечнай залы маю ўвагу звярнуў калега: чорную фарбу спінкі пры самым версе псавалі заўважныя драпіны. «Гэта дзеці, — патлумачыў дасведчаны рэжысёр. — Зубамі закусваюць, калі моцна перажываюць...» Так відавочна моц перажыванняў уплывала і на ацэнкі дваццаці спектакляў II міжнароднага свята-фэсту «Лялькі над Нёманам» (Гродна, 11 — 15 мая 2014 года), хоць узнагароды не прадугледжвалі падзелу «за дзіцячае» і «за дарослае»...**

«Лялькі над Нёманам» падымаюцца рана — каб іграць для дзяцей. Дзецям звычайна ад пяці да дзесяці гадоў. Іхнія беды, страхі ды жаданні гэтаксама маюць розныя ўзросты. Беластоцкая «Аленка» Каталін Шэгедзі ў рэжысуры Ката Чаты (Венгрыя) прызначалася для гледачоў ад аднаго (!) да сямі гадоў. Для тых, хто яшчэ не размаўляе альбо толькі-толькі паспрабаваў размаўляць: гукавы шэраг спектакля складаўся з музыкі, выклічнікаў ды ўздыхаў таўсцюткай гераіні Аленкі, якую не бралі ў гульню: скакаць яна не спанатрылася, абруч «не ўзлазіў», мяч трапляў у шыбу. Затое Аленка цудоўна малявала. Хлопчыку на самакаце гэта вельмі спадабалася, і яны сталі катацца разам. То бок Аленка знайшла сябра.

Падставай для сцэнічнага афармлення зрабілася… велізарная кардонная каробка — у такіх часцяком захоўваюць цацкі. Месцам дзеяння стаў гарадскі двор, дасціпна асталяваны на яе «крылах», і пакойчык дзяўчынкі, ладную частку якога заняў паласаты фатэль… для артыстаў, вядома. З лялькамі яны абыходзіліся як дзеці — мяняліся, качалі, круцілі ў паветры, падкрэслена папраўлялі ручкі-ножкі: зайздроснае валоданне тэхнікай анімавання дазволіла працаваць і «жывым планам», і бездакорна стылізаваць «гульню ў лялькі», і чысцютка, беспамылкова весці спектакль. Лялькі вабілі глядацкія вочы стылёвай прыналежнасцю да рукатворных кірункаў (так званага *hand-made*), сцэна ды строі лялечнікаў вытрымліваліся ў бэжавых, белых і няяркіх чырвоных адценнях, а чаканні публікі заахвочвала шчыраванне гераіні з алоўкамі: Аленчыны малюнкі дзеці папрасілі на ўспамін — і атрымалі!

…У тэатр для дзяцей лялькі трапілі гадоў сто пяцьдзясят таму, але цягам часоў ранейшых, скрутнейшых ды цямнейшых мелі справу з самімі дарослымі вымогамі ды запатрабаваннямі. На гэтую вельмі шаноўную акалічнасць варта зважаць. Асабліва тым, хто на сцэне аддае перавагу казкам, каштоўным сваёй «негабляванасцю», адрознасцю ад іншаземных з падобным сюжэтам. Казка не можа не быць пэўным урокам, які трэба засвоіць падчас тэатральнае забавы.

«Хочаш быць шчаслівы? Не забывайся на сваю мару», — спявалі казачнікі-вядоўцы Каўнаскага дзяржаўнага тэатра лялек пяцігадовым гледачам падчас спектакля «Каралева-лебедзь». Перш як зрабіцца каралевай, яна плавала ў чароўнай скрыні ценевага тэатра, дапамагла дзеду з бабай, спадабалася каралю, пераехала ў палац, але пазбылася крылаў і мусіла іх аднаўляць-здабываць — каб узляцець і бачыць свет з нябёсаў. Ну і караля да палётаў прыахвоціць.

Аўтар і рэжысёр Ніёле Індрунайтэ паставілася да народнай казкі прафесійна — не змяніла аніводнай падзеі ці сюжэтнай лініі. Абвешчаны рэжысёрскі прыём — аповед і вынаходлівае ілюстраванне. Прыкладам, пёрка, якое прыносіла казку гледачам, займела маленькае асобнае акенца на версе сцэнічнага варштата, злятала адтуль ценем ды апыналася ў руцэ казачніцы сапраўдным. Фіранку, з якой мянялі месцы дзеяння, часам падшморгвалі пад ногі каралеўскага каня — каб не ступіўся... Мастачка Аўшра Паўкштэне падтрымала рэжысёра: сілуэты персанажаў на празрыстай шырме нагадалі літоўскую драўляную скульптуру.

Вытанчаная прастасць літоўскага аповеду кагосьці пераканала не адразу, але толькі не дзіцячае журы, якое аддало яму свой прыз. Спектакль катурхаў уяўленне, выклікаў параўнанні з экраннымі відамі мастацтва, а ў выніку абуджаў цікавасць да казкі друкаванай — у кнізе, вядома.

…Менавіта кнігу нагадала мастакоўскае вырашэнне спектакля Тэатра лялек з Клайпеды «Чароўны час Папялушкі». Дзіцячую каштоўнасць з аб'ёмнымі папяровымі вывамі-высечкамі, — тыя ўздымаюцца і набываюць уяўны аб'ём, калі гартаюць старонкі. Як па сённяшнім разуменні, дык чорны кабінет і стол з папяровай канструкцыяй — якраз 3D-выява… на ўзрост ад пяці да пятнаццаці гадоў. «Хочаш быць шчаслівым? Дзейнічай!» — перавыснавала з вядомай гісторыі аўтарка і рэжысёр Гінтарэ Радзвілавічутэ, бо артыстка Рэната Кутайтэ ў вобразе дзівакаватай пісьменніцы Зоф'і разыграла для гледачоў здарэнне з Папялушкай як з суседкай-сучасніцай. А пакольку Зоф'я — адмысловец у дэтэктывах, аповед ладзіўся адпаведна: модныя строі Папялушка знаходзіла ў валізе на аўтобусным прыпынку, а за каралеўскі баль адрабляў канцэрт музычнага гурта з салістам-Прынцам. Рэната Кутайтэ ўвасобіла не менш як тузін роляў, ад драбнюткай птушачкі да вялікай мачахі-маскі, то бок спрацавала так размаіта ды вынаходліва, што атрымала ўзнагароду за лепшую жаночую ролю.

Так прыгожа супала, што ўкраінскія лялечнікі з Хмяльніцка і Роўна прывезлі на свята па спектаклі ў рэжысуры Сяргея Брыжаня і мастакоўскім вырашэнні Міхала Нікалаева. У абодвух выпадках, як іспыт высокага прафесійнага кшталту, яны абіралі для спектакляў грунты народны матэрыял — казачны і абрадавы.

Спектакль Хмяльніцкага абласнога тэатра лялек «Аленка ды Іванка» грунтаваўся на агульнаеўрапейскім сюжэце пра сястру і брата — той напіўся з-пад капытка жывёлы і ператварыўся ў жывёлу.

Міхал Нікалаеў стварыў свет паганскага Апакаліпсісу, дзе супраць людзей паўстала Чорная сіла, вынішчыла паселішчы ды наваколлі, зрабіла з іх пустэльню, за якую неміласэрна помсціць Ярыла — пячэ тых, хто ацалеў. Пячэ не жартам — здаецца, выпаліла нават строі артыстаў, якія нагадалі старажытныя гарадскія ўбранні.

Шырма на два ўзроўні паўстала сцяной на мяжы пустэльні і абяцанай зямлі, дзе артысты спраўджвалі жорсткі абарончы абрад-аповед. Прыхаваныя сэнсы вядомага сюжэта шасці-дзесяцігадовыя гледачы ўспрымалі праз эстэтыку гэтага стылізаванага абраду: праз лялечак на шпянях, праз колеры — ад глыбокага чорнага да ззяючых сонечных і вохрыстых адценняў, праз музыку, адметна выбраную са спадчыны розных народаў і розных эпох.

Артысты пераносілі, паварочвалі Сонца — і яно, жыццядайнае, ператваралася ў чорнае вока Зла. Паслядоўна з'яўляліся жывёлы, з-пад чых капытоў хацеў напіцца Іванка; так складнікам абарончага абраду рабіліся ахвярныя жывёлы. У ім ахвяра вымагала ахвяры, а Чорная сіла прагнула яшчэ: іншае, інакшае! Яна падманам вабіла Аленку да вады, тапеліца павольна апускалася на дно за празрыстым экранам цэнтральнай шырмы, але ў хуткім часе выратаванне Аленкі ўспрымалася ачышчэннем (аднаўленнем). Чорнай сіле да канца супрацьстаяла вернасць Аленчынага мужа: ён ратаваў сям'ю, куды казляняткам прыняў Іванку. Апакаліпсіс паганства спыняла дабрыня, увасобленая ў выратавальную выяву Маці Божай — са святла і цемры. Яе абрысы прысутнічалі ў спектаклі ад пачатку, але ззяць, то бок дзейнічаць-дапамагаць яна пачала толькі тады, калі людзі канчаткова схіліліся да добрага і самі пачалі дзеяць.

Казкі для тэатра — спадчына каштоўная, але крохкая. Няпэўны рух, няслушны тон — і ад казкі, як абалонка, застаецца хіба шэраг падзей. Заглыбіцца ў казку часам страшна, але гэты страх, як вядома, надае моцы эстэтычнаму перажыванню, што рэжысёр з мастаком давялі бліскуча. Работа Міхала Нікалаева, да ўсяго, прызнаная лепшай мастакоўскай работай свята-фэсту.

Свайго роду зімовую містэрыю пад назвай «Калядная ноч» Сяргей Брыжань увасобіў у Ровенскім абласным тэатры лялек праз традыцыйны вяртэп, нароўні з якім працуюць шырмы і нават шыкоўныя акцёрскія строі. А вось якія ролі можна даверыць казацкай шапцы? Перадусім — зрабіць з яе падабенства святой мітры. За шырмаю, калі на пачатку спектакля чуецца хвалюючы святочны гук уступу — адмысловага ладу і прадчування цуду, шапкі-мітры паўсталі ўзгоркамі кананічнага краявіду. Калі анёл пралятаў над імі, шапкі ўрачыста адблісквалі — як святочныя ёлкі. У інтэрмедыі, дзе гожыя хлопцы ды кабеты выходзілі старцамі (тыя часцяком абыходзілі гледачоў ды збіралі грошы за прагляд спектакля), шапкі ператварыліся ў калядныя… ну, не мяхі, напішу — у мяшкі. Пры гэтым кожны артыст іранічна аспрэчваў «старцоўства» іншага артыста…

Традыцыйны вяртэп (як і нашую батлейку) складаюць дзве часткі: біблейская ды свецкая. Біблейская часам фармалізуецца, і сучасная публіка разам з увагай губляе цікавасць да самога відовішча. У «Каляднае начы» важнасць і важкасць падзей біблейскае даўніны для кожнага выканаўцы была выключнай; таінства — неаспрэчным, а характар дзеянняў ля вяртэпнае скрыні нагадваў службу ля алтара. Паспрабуй тут адцягніся ад дзеяння! Асаблівае захапленне выклікаў гукавы шэраг спектакля, бо кожны спеў — і народны, і ад аўтара-кампазітара — артысты выконвалі без фанаграмных хітрыкаў. Ровенскія лялечнікі склалі лепшы акцёрскі ансамбль свята-фэсту, а пяць колцаў кілбасы, якія гаспадарлівы казак Мамай меўся зрабіць з пераможанага Ірадавага брата (Змея), актуалізавалі свецкую частку вяртэпа — дасціпным вырашэннем экалагічных і палітычных праблем адначасова.

Вядома, лепшыя спектаклі захапілі і дарослых, бо мяжа паміж дзіцячым і дарослым у тэатры не пакладзена. Урок, прыклад, узор традыцыйны тэатр прапануе заўсёды, але карыстацца ім ці не — справа глядацкая і наўпрост залежыць ад дзіцячай абазнанасці й культуры. Амаль усе лепшыя спектаклі «Лялек над Нёманам» грунтаваліся на сюжэтах, добра вядомых з літаратуры. Чым лепей гледачы ведалі, пра што пойдзе гаворка ў спектаклі, тым лепей яны ўспрымалі ды разумелі тэатральную мову, тым дружней адгукаліся на сованне звыклых націскаў (акцэнтаў) ды ўдалыя рэжысёрскія пераасэнсаванні. Амаль усе спектаклі разлічваліся на дзвесце пяцьдзясят — трыста гледачоў і належалі да рэпертуарных (г. зн. адмыслова да фестываляў не рыхтаваліся). Пануючымі і вырашальнымі з'явіліся дзеянні асобных кіраўнікоў на чале тэатраў, то бок дырэктара, рэжысёра альбо крытыка-тэарэтыка ці выкладчыка-аналітыка (напрыклад, у Польшчы), перадусім — узважанае спалучэнне мясцовага попыту, магчымасцей трупы і адметнасцей творцы-пастаноўшчыка, які мог быць запрошаны абы-адкуль.

У пэўным сэнсе ўзорны досвед Брэсцкага тэатра лялек і ягонага дырэктара Міхала Шавеля. Пры гэтым колькі гадоў тэатр перажывае не рамонт — перабудову, пад якую ахвяруюць траха не гарадскім кварталам, але не губляе ні якасці, ні запатрабаванасці. Летась на свяце-фэсце ў Гродне берасцейцаў ганаравалі гран-пры за спектакль «Поўня Сальеры» паводле А. Пушкіна. Сёлета яны атрымалі прыз за лепшую мужчынскую ролю (артыст Уладзімір Тэвасян) у спектаклі «Халстамер» паводле Л.Талстога. Рэжысёр абодвух — Руслан Кудашоў, які ўзначальвае Вялікі тэатр лялек у Санкт-Пецярбургу. Лёсу сёлетняга Гран-пры таксама паспрыяў Р. Кудашоў як рэжысёр спектакля «Мантэкі і Капулецці» Беластоцкага тэатра лялек.

Нягледзячы на ўзроставыя абмежаванні, гэтыя спектаклі можна настойліва раіць падлеткам: яны гартуюць душу.

…Аповед душы каня Халстамера пра зямное існаванне, паводле Льва Мікалаевіча, мусіў пераканаць залу паважаць жыццё… але не чалавечых персанажаў, абыякавых, безаблічных, безгаловых, — настолькі, што сэнс іхняга існавання ўтварала і падтрымлівала абалонка… строй, касцюм. Таму замест іх, гаспадароў жыцця і Халстамера, дзейнічалі іхнія мундзіры. Артысты мацавалі іх да слупоў сцэнічнага варштата гузікамі да гледача, спрытна дэманструючы праз рукавы жэстыкуляванне, пашчыкванне гітары, падкідванне карт (тое, што персанажы лічылі жыццёва вартым), а сам варштат імгненна ператвараўся ў дзясятак месцаў дзеяння (стайню, двор, дарогу, месца для скачак).



Фота Сяргея Ждановіча

*Сцэна са спектакля «Мантэкі і Капулецці».*

Чацвёра артыстаў так спрытна завіхаліся ля касцюмаў ды коней размаітых сістэм (ад планшэтных да ценевых; мастак Андрэй Запарожскі), што не знікала ілюзія шматнаселенасці спектакля, але вусцішна было ўсведамляць, колькі дзеянняў, высілкаў, імпэту адбіраюць безгаловыя «вянцы стварэння» ад жыцця…

Берасцейскі «Халстамер» не меў на мэце даследаваць праявы жорсткасці альбо справядлівасці. Ён нібы ўрываўся ў залу, нёсся па ёй і выбіраўся з яе праз ззяючае выйсце на сцэне, затое — да волі сусвету! Праўда, пад самы фінал гусару, з якім конь зведаў шчасце і дайшоў да калецтва, выпаў шанц… Бо не мундзірам ён з'явіўся на сцэне, а дробным персанажыкам з галоўкаю і вочкамі. Але гусар не пазнаў гаротніка Халстамера.

Прынцыповае пераўвасабленне сцэнічнага строя ў найважны прадмет дзеяння адбылося ў спектаклі «Мантэкі і Капулецці» Беластоцкага тэатра лялек; строі ўздзейнічалі на персанажаў да поўнага і добраахвотнага падначалення…

Ад Уільяма Шэкспіра Руслан Кудашоў узяў толькі фабулу ды імёны, уласна тэкст трагедыі на пачатку спектакля перадалі як бы капітанам дзвюх каманд, двум бацькам. Яны ўчытваліся ў ролі, ператвараючыся ў персанажаў, і кожны наступны рваў ад паперы свой шматок, люцеў, нават не ўбачыўшы саперніка, не сутыкнуўшыся, не дачыніўшыся: гартаваліся Мантэкі і Капулецці.

На кожную групоўку, гурт, асобу прыпадаў кут, куток, кавалак для быцця. Асаблівасці сцэнічнага рыштунку, — рухомыя празрыстыя панэлі, паралельныя тросы, квадраты на падлозе, — перагукаліся з дызайнам электронных гульняў (мастак Андрэй Запарожскі). Варажнеча без дай прычыны, бойкі без правілаў, вайна да пераможнага канца панавалі ў свеце сцэнічнай гульні, увасабляліся ў Смерць, якая паволі інспектавала шэрагі гараджан і сямейнікаў. На тле чорнага сцэнічнага кабінета ўсе персанажы былі апранутыя ў чорнае, але дзіўныя белыя строі-даспехі час-почас мацавалі іхні баявы дух — стылізаваныя кірасы, нагрудныя панцыры, сукенкі ўяўлялі сабою каркасы з умоўнай папяровай… браняй, якая затуляла каркас толькі спераду. Такая не магла абараніць, тым больш прыкрывала яна толькі пярэднюю частку каркаса. Яна прызначалася для іншага. Для страшнага рытуалу апраменьвання нянавісцю. А потым — выпраменьвання гэтай нянавісці. Кожнага — на кожнага. Тым больш неверагодна і відавочна парад гэтага свету парушыла каханне — танюткай чырвонай ніткай (тросам) пралегла між падлеткамі па-над пляцоўкай для баруканняў, і над ім сустрэліся дзве душы, дзве лялечкі… Да канца, да фіналу, у якім палеглыя з авансцэны глядзелі на ўмоўна жывых, а мізансцэна ператваралася ў падабенства скульптурнай групы- помніка…

Гран-пры спектакля «Мантэкі і Капулецці» засведчыў і майстэрства польскіх артыстаў, і бескарысную неабходнасць тэатра… танюткай чырвонай ніткі, за якую яшчэ можна ўчапіцца і затрымацца — над Нёманам у Гродне, над побытам у свеце, над безданню, над якой зеўрае рэчаіснасць. Шэкспір гэта ведаў.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# Там, дзе сустракаюцца музы і паэты

**Яраслава Паўлычка — вядомая ва Украіне паэтэса. Аўтар многіх кніг. Жыве і працуе ў Львове. На працягу творчага жыцця дастаткова актыўна цікавіцца беларускай літаратурай. З Яраславай Паўлычка сустрэўся наш карэспандэнт.**

**— Спадарыня Яраслава, што з «львоўскіх вышыняў» цікавіць вас у сучаснай беларускай літаратуры?**

— Я не вельмі абазнаная ў сучаснай беларускай літаратуры. Маю на ўвазе апошнія дзесяцігоддзі. І ўсё ж мела шчасце пабачыць вашу анталогію паэзіі, выдадзеную гадоў дзесяць таму. Была ўражана высокім мастацкім узроўнем выдання, вычарпальным падборам вершаў. А з таго, што мне добра вядома і што чытала ў арыгінале, сімпатыі скіраваны да творчасці Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча, Сяргея Панізніка, Яўгеніі Янішчыц, Рыгора Барадуліна, Ларысы Геніюш. Гэты літаратурны пласт яшчэ ў маладосці захапіў мяне як перакладчыцу. Агонь зацікаўленасці не згас і па сёння.

**— Каго з беларусаў раней перакладалі на ўкраінскую мову? Каго збіраецеся перакладаць цяпер?**

— Маё захапленне беларускай паэзіяй пачалося дастаткова даўно. Яшчэ ў студэнцкія гады. Найперш — дзякуючы вядомаму паэту і перакладчыку Уладзіміру Лучуку. Ён быў уважлівы да многіх славянскіх літаратур. Спярша ўсё ў маіх памкненнях насіла стыхійны характар. Для прыкладу, Уладзімір Лучук прапанаваў мне перакласці некалькі вершаў беларускіх паэтаў для мясцовай абласной газеты, што і было зроблена. Тады ж, у 1966 годзе, я зрабіла першыя спробы перакладчыцкай справы ўвогуле. І атрымалася так, што пачала з беларускай мовы. Здаецца, гэта былі вершы Васіля Зуёнка, Ларысы Геніюш, Сяргея Панізніка і ці не Рыгора Барадуліна. Пры тым заўважу, што мой старэйшы таварыш меў дзіўную рысу далучаць астатніх да перакладчыцкага цэха. Уладзімір Лучук быў добрым настаўнікам і стараўся ва ўсім дапамагаць. Перачытваў, выпраўляў, калі трэба, умешваўся ў тэкст перакладу. З часам пераклала і якісьці верш Яўгеніі Янішчыц. Пазнаёмілася з ёю бліжэй праз лісты і пачала дасылаць Яўгеніі ўкраінскія вершы, яна мне — беларускія.

Выхад у свет украінскай анталогіі беларускай паэзіі «Калінавыя масты» стаў вялікай і адметнай падзеяй. Выданне рыхтаваў Грыгорый Кочур, які ўважліва, грунтоўна падыходзіў да ўсіх перакладаў, каб прэзентаваць чытачу лепшыя здабыткі сучаснай беларускай паэзіі. Таму перакладзенае даводзілася шліфаваць, дапрацоўваць. Гэта былі вершы Яўгеніі Янішчыц, якія друкаваліся ў першым яе паэтычным зборніку «Вежы» (1970). Так што мая друкаваная творчасць пачыналася з перакладчыцкага хлеба. Досыць рана я зразумела складанасці тэксталагічнай версіфікацыі, таму заўсёды з асцярожнасцю падыходжу да аўтарскага матэрыялу.

Шкадую, што ў поўных абсягах беларуская паэзія мне не знаёмая. Бяру да ўвагі тое, што ведаю. Напрыклад, паэзія вядомага творцы Сяргея Панізніка адпавядае маёй унутранай стыхіі і адначасова бачанню паэтычнага свету. Вельмі люблю паэзію Максіма Багдановіча. Хаця яго ўжо так шмат перакладалі на ўкраінскую (відаць, пераклалі ўсяго), хацелася б зрабіць і сваё перакладчыцкае вымярэнне яго паэтычнага свету.

У свой час перастварыла вершы Еўдакіі Лось, Валянціна Таўлая, Міколы Купрэева, якія былі надрукаваны ў маім першым паэтычным зборніку і пасля — у «Выбраным».

**— З Львовам у розныя гады былі звязаны беларускія творцы Вячаслаў Рагойша, Таццяна Кабржыцкая, Валянціна Коўтун, Сяргей Панізнік... І ўсе яны захавалі цікавасць да ўкраінскага мастацкага слова. Чым, на ваш погляд, выклікана такая заканамернасць?**

— Сапраўды, Львоў мае нейкую містычна-прыцягальную сілу. Яго прыцягальнасць сягае ў глыбіні чалавечай душы, падаючы пэўны знак. Асабліва — творчым людзям. Я мяркую, што ў Львове закладзена энергетыка часу, якая праменіцца ў культурна-мастацкіх пластах. Калі звярнуцца да падзей 100-гадовай даўніны, сляды такой асаблівай энергетыкі можна заўважыць у Галіччыне, асабліва ў Львове. У свой час тут была Алаіза Пашкевіч — ваша слаўная Цётка. Для многіх прадстаўнікоў беларускай творчай эліты горад стаў родным і блізкім. Прычым, адбывалася цікавая з'ява: любуючыся харастом Львова, скарыстоўваючы яго энергетыку, беларусы падсілкоўваліся і любоўю да свайго, роднага. З даўніх гістарычных сведчанняў вядома, што Галіцкі грэка-каталіцкі мітрапаліт Андрэй Шапціцкі і епіскап Бацян мелі асабліва цесныя стасункі з Беларуссю, а яшчэ — першы дырэктар Нацыянальнага музея ў Львове Іларыён Свянціцкі, які арганізаваў у музеі аддзел беларускага мастацтва... Закуплены ў лютым 1908 года беларускі збор Татура праз яго памочніка, знанага беларускага палітычнага дзеяча Івана Луцкевіча, істотна ўзбагаціў калекцыю. У яе ўваходзілі і слуцкія паясы, і рэдкія ўзоры графічнага мастацтва, дый шмат чаго іншага.

Новая хваля беларускасці ў Львове ўзнялася ў 1960-я: Сяргей Панізнік, Валянціна Коўтун... Бясспрэчна, сваю ролю адыгралі ўкраінскія пісьменнікі з Львова і мастацкае атачэнне, якое насіла патрыятычны характар. У тыя складаныя часіны знешне не кожны сябе выяўляў, але ў душах і сэрцах жыла прага да нацыянальнага, роднага. Сыходзіліся людзі, якія разумелі праблемы нацыянальнага жыцця і адчувалі паднявольнасць сваіх народаў.

Многіх украінскіх пісьменнікаў прыцягвала беларуская мова. Сваёй пявучасцю, непаўторнасцю. А беларусаў дзякуючы асаблівай гісторыі Львова і навакольных зямель вабіла ўкраінства. Рамантычны дух віраваў у нашых сэрцах. Памятаю, як мы ва ўяўленнях і фантазіях будавалі Вольную Беларускую дзяржаву. Гэта нас захапляла, брала ў прыемны палон. Не сумняюся, што такі настрой перадаваўся знаёмым беларусам, якія стала жылі ў Львове альбо вучыліся ў нашым горадзе. І ўсё гэта было невыпадковым. Бачылася абгрунтаваная заканамернасць. Адсюль і прамыя шляхі ў многіх львоўскіх беларусаў да ўкраінскага мастацкага слова.

**— Што вы параілі б беларускім перакладчыкам з сучаснай львоўскай паэзіі?**

— Сучасная львоўская паэзія надзвычай разнародная. Ёсць і старэйшая генерацыя, і новае пакаленне, якое пачало актыўна выцясняць класічны ўкраінскі верш. Уражанне такое, што ўся моладзь (а часам і далёка не моладзь) пакутуе на «хваробу», што прымушае пераходзіць на мадэрн, хутчэй нават постмадэрн. Пры гэтым губляюцца знакі пунктуацыі, мелодыка ўкраінскай паэзіі. Такая новая творчасць дужа загерметызавана. Тэматыка звужана. Складваецца ўражанне, што ўсе вершы напісаны адным чалавекам.

Канечне, ёсць і творы, якія стылістычна адрозніваюцца, але іх вельмі мала. Старэйшая генерацыя творцаў бліжэй да класічнай формы верша. Тэматычная палітра зробленага імі досыць шырокая. Для іх характэрная і высокая культура верша, асацыятыўнасць, вобразнасць.

Я б параіла беларускім перакладчыкам звярнуць увагу на паэзію Вольгі Кіс. Яна — паэтэса вельмі глыбокага і вобразнага светаадчування. Паэзія Багдана Чапурко патрабуе асаблівага навуковага доследу. Паэтычны свет Любы Процька ўражвае мудрасцю і прастасцю адначасна, за яе вершамі — вялікі талент. Багдан Смаляк — віртуоз класічнай формы верша, паэтычная кансістэнцыя якога з'яўляецца прамым працягам украінскай стылістычнай неакласікі. Марта Пачынайка — творца, якая мае кароткі, лаканічны спосаб выкладання паэтычных адкрыццяў. Шырокая гама пачуццяў у суровай з першага погляду паэзіі Любы Долік і Аксаны Лазавой — дзвюх найболей цікавых прадстаўніц сучаснай жаночай лірыкі. У кожнай з іх — свой, яскрава акрэслены, індывідуальны паэтычны тэмперамент. Абавязкова раю звярнуць увагу на Рамана Лубкіўскага, Міколу Пятрэнку, Любаміра Сеніка, Ігара Трача, Марыю Людкевіч, Святлану Антанішыну.

**— Напружанне апошніх месяцаў ва Украіне зацьміла высокі юбілей Тараса Шаўчэнкі. Якім чынам ён быў адзначаны ў Львове?**

— Нягледзячы на ўсю складанасць сітуацыі, адзначэнне 200-гадовага юбілею Тараса Шаўчэнкі ў Львове адбылося. Хаця не так, як хацелася б, дужа сціпла ўсё прайшло. У горадзе, на плошчы, ладзіліся масавыя паэтычныя чытанні. Чытанні, прысвечаныя Кабзару, адбываліся і ва ўсіх школах Львова. У Львоўскім оперным тэатры імя Івана Франка правялі выстаўку-канцэрт «Уклін тобі Тарасе». Да даты якраз выйшаў трэці нумар часопіса «Дзвін» Львоўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Украіны, дзе я мела гонар выступіць з артыкулам пра розныя выданні спадчыны Тараса і інтэрпрэтацыю яго твораў у мастацкай прасторы.

Нацыянальны музей у Львове імя Мітрапаліта да 200-годдзя нашага класіка арганізаваў выстаўку графічных і мастацкіх работ, выданняў твораў Шаўчэнкі ранейшых часін, эміграцыйных кніг і перыёдыкі.

А яшчэ быў наладжаны жывы «Ланцуг Кабзара». Праведзены чытанні «Запавета» на 16 мовах.

**— Вядома, што існуе каля 150 перакладаў гэтага верша на розныя мовы…**

— Мяркую, што ў наступны юбілей і моў будзе гучаць болей, і гасцей запросім з усяго свету… Адным з ключавых мерапрыемстваў сталася Юбілейная Урачыстая Акадэмія, прысвечаная 200-годдзю Тараса Шаўчэнкі. У кінатэатрах і тэатрах рабіліся юбілейныя выстаўкі, дэманстраваліся фільмы пра Шаўчэнку.

З найважнейшых падзей — змена назвы праспекта Тараса Шаўчэнкі, альбо, як яго раней называлі, «Акадэмічнай» — на праспект Акадэміка Тараса Шаўчэнкі. Істотная карэкціроўка! Усе захады, звязаныя з юбілеем, зразумела, даволі сціплыя. І прычына таго — цяперашняя палітычная сітуацыя ва Украіне.

**— Дзякуй, спадарыня Яраслава, за насычаны расповед. Плёну ў працы! Нязменнай увагі да беларускага мастацкага слова! Цішыні і спакою вашай роднай старонцы!**

**Гутарыў Ігнат ШЫЧКО,**
*Львоў — Мінск*



**Нарадзілася 5.XI.1948 года ў Львоўскай вобласці. Вывучала ўкраінскую філалогію ў Львоўскім Нацыянальным універсітэце імя І. Франка. Паэтэса, перакладчыца, гісторык мастацтва. Асобныя яе вершы перакладзены на нямецкую, румынскую, венгерскую, славацкую, французскую мовы. Сябра Нацыянальнага Саюза Пісьменнікаў Украіны. Лаўрэат чатырох міжнародных і абласных літаратурных прэмій. Працуе старшым навуковым супрацоўнікам Нацыянальнага музея імя мітрапаліта А. Шапціцкага ў Львове.**

***

*І расхінулася Ніжняя Брама*
*Выявілася БОЖАЕ СЛОВА*
*Пра што й веставала дарога,*
*Скамечаная*
*рыпам колаў…*
*Яры*
*выпружваліся*
*хімерна —*
*змеі*
*часоў Пенелопы*
*высунуліся на дарогу —*
*церліся наўсутыч…*
*залатарунная смуга*
*вытканая*
*з плынёй меласу*
*свойскай мовы*
*шэпту*
*нябачных дужасцей*
*Бацькаўшчына мая ў патаёме*
*з позіркам эдэльвейса*
*ў запаветраных строфах*
*хуткаплынных сцэняў*
*вечнаісная*
*ЕСІ**

**Есі з царкоўнаславянскай мовы — ёсць.*

## Сузор'е Ганчакоў

*Забудзем песню пра дзівосны край.*
*Канваліі цвітуць атласным сумам.*
*А ты мне: «Пачакай жа! Пачакай!» —*
*я не ў Парыж цябе вязу, а ў Умань.*
*Працягам — гукі: спадзяваннем дань.*
*Усю патэльню спэцкалі каштаны.*
*Набытак у жыцці з табой нятанны —*
*маленькі сподак — возера Тай Вань.*
*У промніках старэнькай арабіны*
*мячэць падумак — вышыні пазоў.*
*Зірні! Сузор'е Ганчакоў*
*насычана вінам каліны…*

## Трэцяе вока

*Адраджаецца дзень*
*у абдымачках бэзу.*
*Дзень сустрэну —*
*на промні лезу.*
*Паходняй махну*
*туды-сюды:*
*Дабравесце!*
*Не ўпусці нуды!*
*Восень уяўная*
*за вакном трапеча —*
*прыгадка ўспыхне —*
*душа бы ў печы.*
*Ой коню кары, мая прыгода,*
*паволі спяшы.*
*Я ўсе надзеі замкну —*
*выйшлі з глушы.*
*Пратапталі дарогу*
*ў сутарэнькі —*
*мне пакінулі*
*дзэнькі-брэнькі**.*
*…Засталася вуздэчка —*
*птах над бокам —*
*мігацінь, інтрыгуючы*
*трэцім вокам.*

**Лексему *дзэнькі-брэнькі* можна разумець як *абы-што, стукат-грукат, тое-сёе…* Заўвага перакладчыка.

## Ноччу ў Карпатах

*На сутонях
завісае
палатно дарогі
на лабячок гары
высунуўся маладзік
зручна яму
і суцешна
зіхацець
хвосцікам
зачапіўшыся
за Вялікі Воз*

***

*Вытнкаў лес
мярэжку
неба
прывабнага
прынадай якога
падперазалася лісіца
разбэрсаны
клубок сусвету
зачапіўся за вішню
павіс
свет
у ваконца
змясцюрыўся —
як жа яго адтуль
выслабаніць?*

## I будзе суверэннай

*I будзе незалежнай,
магутнай,
спаконвечнай
твая і мая,
наша Украіна.
Штандар жоўта-блакітны
схіліць чало
на Ратушы львоўскай.
Зноў малітву
ажывім.
Да Бога малітву.
За род жыццядайны.
Цярновым вянком
засвецяцца нашы чолы
на ўсіх кантынентах
свету.*

***

*I зусім не Гальфстрым
а плынь
ліка твайго
праменіцца
ў вырвінах карпатакраю
у святцах
зрухі
нябесных свяцілаў
прамаўляюць
зарой
палыноваю
я
пад саменькае горла
кастрычніка
прысела
торгаю
за нітачку
лістападаўскую
з пражылкамі
прыцемкаў
хацінку
сваёй ілюзіі
абярэгам
сутны час
далучаецца
да Таемнай вячэры
Хрыста*

## Святая, боская мая

*Святая,
боская мая,
Мая ты мова
вечнай долі,
Якому родная ты болю
Без досвітку і салаўя?*

*Як згасне ў цемрыве Дняпро
I ціха памяць нас пакіне, —
Бары самкнуць сваё нутро
I галавы
ніхто не ўскіне*

*Перад сумоўем спаконвечным,
Перад напеўнасцю народа…
Ніхто не выкліча на веча,
Не пашукае роду брода.*

*I толькі вецер —
вецер зводны
Пазнаку на скрыжаль чыркне.
…Анёл Марыі Багароднай
Крылом збалелым узмахне.*

**Пераклад з украінскай
Сяргея ПАНІЗНІКА**

# «З народа вырас…»



**Уладзімір ЛУЧУК (27.8.1934 — 24.9.1992) — украінскі паэт, перакладчык. Скончыў Львоўскі ўніверсітэт імя І. Франка (1958), аспірантуру пры кафедры славянскай філалогіі. Працаваў у часопісе «Жовтень», у Таварыстве аховы помнікаў культуры і гісторыі, загадваў аддзелам рукапісаў Львоўскай навуковай бібліятэкі імя В. Стэфаніка АН УССР.**

**Член Саюза пісьменнікаў з 1960 года. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Лесі Украінкі. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў, кніг для дзяцей, укладальнік паэтычных анталогій. У перакладчыцкай дзейнасці асаблівую любоў праявіў да Беларусі. Вершы У. Лучука змешчаны ў анталогіі «Украінская савецкая паэзія» (1975) у перакладах У. Караткевіча і Р. Барадуліна. Яго «вясёлыя вершы» ў перакладах Р. Барадуліна і В. Зуёнка склалі зборнік «Возера-Бульдозера» (1978). У кнізе У. Караткевіча «Галасы маіх сяброў» (1993) — 17 перакладаў вершаў У. Лучука.**

**Яго творы перакладалі таксама Н. Гілевіч, М. Рудкоўскі, С. Панізнік. Пра «светлы след» львоўскага сябра пісалі А. Гардзіцкі («Маладосць» № 10, 1972), С. Панізнік («Братэрства», 1984), В. Рагойша («Літаратура і мастацтва», 2.10.1992).**

## Пачатак Якуба Коласа

*З народа вырас — гэтак паўстае
з палеткаў урадлівых чуйны колас.
I Слова, чары выдаўшы свае,
пацалавала і сказала ўголас:
— Адданае табе да скону я —
ты мне, паэт, не здрадзь у ачмурэнні,
у душы праўду сей — зямля твая
яшчэ ўзгадуе новыя карэнні!
Карэнні ўвойдуць у глыбокі грунт,
каб мелі кроны і камлі патолю!
Не прымірэнне я, а вечны бунт,
і сілаю перамагу нядолю;
абранец мой, слуга, мой валадар,
не станавіся ля зласліўца побач:
ты не адзін — з табою твар у твар,
плячо ў плячо —
Купала, Багдановіч.
Паўстаньце грамадой, каб горкі сон
збудзіць, як той Кабзар на Украіне!
Каб цвіў на Беларусі родны лён,
трубіў бы зубр,
плыў Нёман стужкай сіняй,
кацiў у вечнасць хвалі, і не знёс
пявучы колас водарнага поля…
Услухайся ў гармонію нябёс,
з якіх расце для ўсіх народаў в о л я.*

## Дыпціх спекулянтам

### Галодны год

*Той цяжкі год здымаў кашулю з цела,
выменьваў ён кашулю на картоплю.
Картоплю прадавалі спекулянты,
накручваючы цэны на базары.
Хто з голаду апух,
а хтосьці
хаваў манеты ў шэрую панчоху.
Народа раны нехта лекаваў,
а хтосьці з ранаў тых рабіў кар'еру
у год пакутны.
Праміну́ў той год…
I пад нягоднікамі гарыць зямля!*

### Сон

*Мне сон прысніўся: да мяне зайшлі
два чорных тыпы.
Першы так сказаў:
— Здымі кашулю, і з панчохі выньмі
манеты ўсе, — я добра заплачу!
Другі сказаў:
— А ты мне перадай
праўдзівы верш пра той галодны год —
каб стаў ён песняю маёй кар'еры…
Я так схапіў за гарлякі абодвух,
што пальцы ўжо ніхто не развядзе!*

## Відма Марыйкі Крушэльніцкай*

*У Баянскай царкве стаю.
Мой пагляд —
на мадонны пальцы.
I прыгадваю маці сваю:
На палеткі спяшыць у куфайцы.
Рукі маці — як на паказ:
Быў жа корань зямелькі пругкі.
I я веру, што той багамаз
Ідэал свой уклаў у рукі…
Сам, спазнаўшы бяду і тлум,
Мо хацеў нам не вобраз хісткі
Перадаць у мігценні дум, —
А
мелодыі піяністкі?
Хто нам знойдзе цяпер адказ?
Багамаз,
твае чуюцца найгрышы!
Крушэльніцкай Марыйкі —
ў наказ
пальцы ціха кладуцца
на клавішы.*

* Відма — прывід, сцень, міраж.

**Пераклад з украінскай
Сяргея ПАНІЗНІКА**

# Пачатак быў у Львове

**По сённяшнім часе, калі гэтулькі грамадскіх, сацыяльных, палітычных змен адбываецца літаральна на вачах, шмат што з памятак літаратурнага жыцця проста бясследна знікае. А між тым кожны фрагмент памяці носіць важны характар, дапамагае напоўніцу ўявіць мазаіку мастацкіх з'яў.**

Жывучы гэтым перакананнем, я хацеў бы звярнуць увагу на адну частку шматаблічнай, багатай на фактаграфію прасторы зносін Беларусі са Львовам. Вядомымі праявамі ў беларуска-ўкраінскіх літаратурных стасунках з'яўляюцца повязі са Львовам Алаізы Пашкевіч (Цёткі), Максіма Танка, Вячаслава Рагойшы, Таццяны Кабржыцкай, Сяргея Панізніка, Валянціны Коўтун… А мне хацелася б згадаць яшчэ шэраг імёнаў. Тых пісьменнікаў Беларусі, хто звязаны са Львовам праз аддзяленне журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Дарэчы, і паэт Сяргей Панізнік закончыў менавіта гэтую навучальную ўстанову.

Выпускніком Львоўскага ВВПВ з'яўляецца і драматург, публіцыст Васіль Ткачоў (ён вучыўся тут у 1969 — 1973 гг.). Пасля Львова служыў у Туркестане. Цяпер жыве і працуе ў Гомелі. Крыху пазнейшы выпускнік аддзялення журналістыкі — празаік і публіцыст Аляксандр Валковіч. Цяпер ён працуе ў Брэсце. Рэдагуе альманах «Астрамечаўскі рукапіс». На Піншчыне жыў і працаваў празаік Мікалай Еляняўскі (памёр у 2012 годзе). Аўтар рамана «Час Пастыра», шэрагу твораў пра жыццё Узброеных сіл. Да гэтага пераліку варта дадаць празаіка, публіцыста Анатоля Смалянку. Ён вучыўся ў Львове ў 1960-я гады. У 1980-я быў галоўным рэдактарам газеты Сібірскай ваеннай акругі. На радзіму ў Беларусь прыехаў крыху болей як чвэрць стагоддзя таму.

З Гомельшчыны родам празаік, драматург Аркадзь Пінчук. У Львоўскім вучылішчы займаўся экстэрнам, ужо маючы за плячыма некалькі гадоў афіцэрскай службы. Працаваў карэспандэнтам усесаюзнай газеты «Красная звезда» па Прыкарпацкай ваеннай акрузе. У Львове ў адным з тэатраў ішлі спектаклі па п'есах Аркадзя Пінчука. Пра львоўскае жыццё — і некаторыя старонкі яго аўтабіяграфічнага рамана «Белы бусел ляціць…» (выдадзены ў Санкт-Пецярбургу, дзе Аркадзь Фёдаравіч жыў апошнія дзесяцігоддзі). З пакалення «львавян» 1960-х — і беларускі публіцыст, празаік Андрэй Захаранка. Адметным эпізодам у яго «львоўскай» біяграфіі сталася знаёмства з вялікім рускім паэтам Андрэем Вазнясенскім. Дарэчы, пасля сустрэчы і знаёмства на афіцэрскіх зборах з А. Захаранкам рускі паэт напісаў верш «Лейтэнант Андрэй Загорскі». Як першаштуршок да нараджэння твора — супадзенні пры знаёмстве: імя і імя па бацьку ў паэта і вайскоўца — Андрэй Андрэевіч, такі самы памер вопраткі і абутку…

Аддзяленне журналістыкі ЛВВПВ закончылі і сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі Рыгор Сакалоўскі, Рыгор Саланец. Абодва — украінцы, з Палтаўшчыны. Выдалі цэлы шэраг кніг. Рыгор Васільевіч Сакалоўскі болей як пяць гадоў узначальваў Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Дарэчы, вершы пачынаў пісаць па-ўкраінску. Многія яго тэксты сталі песнямі, музыку да якіх напісалі вядомыя Ігар Лучанок, Эдуард Ханок, Эдуард Зарыцкі.

У Мінску жыве і працуе кінадраматург, паэт, празаік Алег Буркін, які закончыў Львоўскае ВВПВ у 1984 годзе. Яшчэ ў вучылішчы ён актыўна займаўся літаратурнай працай. Тады ў кузні ваенных журналістаў плённа працавала літаратурнае аб'яднанне. Шмат сіл, намаганняў для арганізацыі яго работы прыклалі літаратурны крытык, кандыдат філалагічных навук Раман Цывін і паэт, выкладчык кафедры журналістыкі Аркадзь Філёў. Дарэчы, апошні афіцэрскую службу пачынаў у Беларусі, у Полацку, закончыў завочна факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Вучыўся разам з паэтам Навумам Гальпяровічам, пра што Навум Якаўлевіч згадвае і сёння. А Алег Буркін, успамінаючы Львоў, прыгадвае і сустрэчы са студэнтамі Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, агульныя паэтычныя імпрэзы і святы.

Літаратурная атмасфера ў Львоўскім ВВПВ у многім развівалася дзякуючы штотыднёвай газеце «Политработник» і штогадоваму альманаху «Атака». Назва газеты хаця і вызначалася выразнай ідэалагічнай скіраванасцю, ніколькі не перашкаджала развіццю літаратурных, мастацкіх памкненняў выкладчыкаў. Час ад часу на яе старонках можна было знайсці і беларускі матэрыял — у прыватнасці, рэцэнзіі на кнігі паэзіі Рыгора Барадуліна, Сяргея Новіка-Пеюна, іншыя публікацыі, што злучалі Беларусь і Украіну, Мінск і Львоў. А мяне асабіста ў тыя, 1980-я (таксама аддаў ЛВВПВ чатыры гады вучобы і службы), злучалі з Беларуссю лісты, паштоўкі ад беларускіх пісьменнікаў Сяргея Новіка-Пеюна, Аркадзя Кандрусевіча, Сяргея Панізніка, Алеся Разанава, Уладзіміра Ліпскага… I ў гэтым таксама была пэўная атмасфера беларускай літаратурнай прысутнасці ў Львове.

У нядаўняй гутарцы з журналістам Сяргей Панізнік сказаў пра тое, што яго «зрабіў Львоў». Відаць, Львоў шмат для каго з пісьменнікаў аказаўся зусім не выпадковым горадам-адкрыццём, горадам-сустрэчай…

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Першыя сустрэчы

**Добрая традыцыя склалася ў Свята-Елісавецінскім манастыры Мінска. У афішы місіянерскага жыцця з'явіўся фестываль маладзёжных тэатраў праваслаўных прыходаў «Велікодныя сустрэчы». Ён дадаўся да спіса фэстаў праваслаўнай культуры «Кладзезь», «Адзіная вера — адзіная Русь Святая», «Дзяржаўны глас».**



Сцэна з мюзікла «Велікодны цуд». Дзіцячая група «Іверон».

Тэатральны форум арганізавалі выкладчыкі нядзельнай школы Сцяпан Варапай, Аляксандр і Людміла Ждановічы. У форуме ўзялі ўдзел чатыры калектывы: старэйшая група нядзельнай школы мінскага храма ў гонар Уваскрэсення Хрыстова паказала казку пра дапытлівага павучка; дзіцячы праваслаўны тэатр «Дар» мінскага храма ў гонар іконы Божай Маці «Неўпіваемая Чаша» падзяліўся рэцэптам шчасця з трох кавуновых семак; дзіцячая група «Іверон» са Свята-Іверскага храма Бабруйска прывезла мюзікл «Велікодны цуд»; а пад заслону праваслаўны тэатр з мінскага храма ў гонар Богаяўлення паказаў «Снежную каралеву».

## ПАЧЫНАЕМ

Адкрываючы праграму, кіраўнік фестывалю, акцёр тэатра імя Максіма Горкага, вядучы тэлепраграмы «Калыханка» Аляксандр Ждановіч адзначыў, што Богам нам дадзена вялікая раскоша: сябраваць, размаўляць, разам ладзіць розныя святы — мы павінны гэта цаніць. Дарэчы, Аляксандр вучыць і юных наведвальнікаў тэатральнай студыі «Радасць», якая створана пры манастыры; малых акцёраў дзіцячага тэатра «Пчолка», што існуе пры дзіцячым псіханеўралагічным доме-інтэрнаце ў Навінках.

— Таленты, якімі адарыў нас Бог, мы проста абавязаны развіваць, а значыць — радаваць тых, хто побач, — лічыць А. Ждановіч. — «Велікодныя сустрэчы» якраз і прыдуманы для таго, каб знаёміцца, вучыцца, набірацца радасці адзін ад аднаго. Не думайце, што веруючы чалавек — асоба панурая і замкнутая. Праваслаўная моладзь павінна быць актыўнай і дзяліцца сваёй верай з усімі.

— Гэта першая падобная акцыя ў нашым манастыры, і зразумела, што ёсць тэхнічныя накладкі, — адзначыў паслушнік з фільма «Прытчы», член журы, акцёр Міхаіл Есьман. — Але мы не бяром гэта ў разлік, тым больш на дзіцячым фестывалі. Пазіраеш на сцэну — і пераконваешся: дзяцей перайграць немагчыма, што б яны ні рабілі — выклікае замілаванне.

— Неверагодна, што такі фестываль з'явіўся, — гаворыць заслужаны артыст Беларусі Андрэй Душачкін. — Гэта патрэбная справа. Мяне цешаць дзіцячая шчырасць і чысціня. Не трэба рабіць акцэнт на нейкіх прафесійных рэчах, бо тут гэта не мае значэння. Важна, што юныя артысты гавораць пра сэнс жыцця, пра духоўнасць і робяць гэта шчыра: іх творчасць не сапсавана тэатральнасцю. Мне падаецца, што не трэба параўноўваць гэты фестываль з іншымі. Ён павінен захаваць дух нядзельных школ. Яго трэба развіваць.

Прафесійнае журы (Міхаіл Есьман, Андрэй Душачкін, Ірына Нарбекава, Дзіна Тыцюк, Віталь Рэдзько) на фестываль было запрошана не для таго, каб выбіраць лепшых і горшых, а для таго, каб параіць дзіцячым калектывам, у якім кірунку развівацца.

## ПАКАЗВАЕМ

— Прадстаўляю творчую групу храма ў гонар Уваскрэсення Хрыстова, — сказаў перад першым спектаклем протадыякан Алег Тарасевіч, ён жа рэжысёр пастаноўкі «Казка пра маленькага павучка». — У нашым спектаклі вы ўбачыце, як, пазнаючы навакольны свет, што часам называюць «няпісанай Бібліяй», можна наблізіцца да адчування Бога, Які глядзіць на нас і радуецца нашым поспехам, смуткуе ад нашых няўдач.

— Спектакль зразумелы для дзяцей, — адзначыла дацэнт кафедры сцэнічнай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры Дзіна Тыцюк. — У ім усё проста. Пастаноўка атрымалася цэльнай. Цудоўны павучок.



Члены журы фестывалю, акцёры Аляксандр Ждановіч і Віталь Рэдзько.

Другім спектаклем у фестывальнай праграме была філасофская пастаноўка для дзяцей і дарослых «Тры кавуновыя семкі». Прадставіла спектакль кіраўнік тэатра — матушка Марына Пясецкая:

— Я злавіла сябе на думцы, што ўвесь першы спектакль сядзела з усмешкай, узгадваючы Евангельскае «Будзьце як дзеці». Гэтыя словы Хрыста адрасаваны ўсім. І мы хацелі зрабіць спектакль для ўсіх, без узроставых абмежаванняў. «Тры кавуновыя семкі» — назва для дзяцей. Назва для дарослых — «Тры рэцэпты шчасця».

Дзейства праляцела на адным дыханні. Спектакль прымусіў задумацца, недзе заплакаць, а недзе засмяяцца і пераканацца, што толькі той, хто дорыць любоў бліжняму, па-сапраўднаму шчаслівы.

— У другім спектаклі мне спадабалася фінальная песня, — гаворыць Андрэй Душачкін. — Яна кранула сэрца шчырасцю. Цудоўныя дзеці, і прытчы распавядаюць цудоўна.

— Лічу, што лепш быць добрым аматарам, чым кепскім прафесіяналам, — адзначыла актрыса тэатра і кіно Ірына Нарбекава. — Артыстычныя і музыкальныя выхаванцы тэатра «Дар» цудоўна прадумалі касцюмы. Відаць, што надта стараліся.

Трэцім нумарам у фестывальнай праграме была пазначана дзіцячая група «Іверон» з Бабруйска. Прывёз хлопчыкаў і дзяўчынак у Мінск дырэктар нядзельнай школы іерэй Павел Лукін.

— Наш калектыў вельмі вялікі і малады, — пачаў прывітальнае слова святар. — Збіраючыся на фестываль, мы хацелі аб'яднаць у адным дзействе ўсе ўзросты нядзельнай школы. Мы не ўпішамся ў чыста драматычны фармат, бо прывезлі велікодны мюзікл, які змяшчае драматургію, і харэаграфію, і песні з вершамі. Проста хацелася данесці да людскіх сэрцаў тую пасхальную радасць, якую дараваў нам Бог.

Юныя акцёры, задзейнічаныя ў мюзікле «Велікодны цуд», падарылі гледачам вялікую радасць. Усе з захапленнем пляскалі ў далоні і крычалі «Брава!», асабліва калі гучала песня «Хрыстос уваскрос!» у выкананні Сафіі Хурсан.

— У кожным спектаклі ёсць сваё харство. Слёзы можна выклікаць і адным, і другім, — гаворыць Дзіна Тыцюк. — Аднак я не лічу, што сляза з'яўляецца мэтай спектакля, хаця гэта таксама добра, таму што мы развучыліся плакаць. Але важней роздум, радасць ад таго, што ты спасцігаеш ісціну, адкрываеш для сябе нешта новае.

Закончыўся першы фестываль паказам спектакля «Снежная Каралева. Другая частка». Рэжысёр пастаноўкі і кіраўнік тэатра Богаяўленскага храма Яўген Пімянаў развеяў сумненні наконт таго, што «Снежная Каралева» і Вялікдзень несумяшчальныя. Казка заканчваецца вясной і перамогай дабра над злом. І чым гэта не Уваскрэсенне?

— Тэатр у нас не мэта — сродак размовы, — сказаў спадар Яўген. — Гэта магчымасць абудзіць у дзецях жаданне чытаць, думаць, тварыць. Для нас перамога ў тым, што падлеткі пачынаюць расці духоўна.

## ПАДСУМОЎВАЕМ

Спектаклі скончыліся. Члены журы і кіраўнікі тэатраў узгадвалі самыя яркія моманты, звярталі ўвагу на плюсы і мінусы, прыгадвалі прыклады-паралелі са свайго акцёрскага жыцця.



Сцэна са спектакля «Тры кавуновыя семкі». Дзіцячы праваслаўны тэатр «Дар».

— Я сёння глядзеў на дзяцей і па-добраму зайздросціў. Як гэта важна — так рана прыйсці да Бога. Якая перспектыва! Колькі часу для развіцця! — адзначыў Віталь Рэдзько. — У спектаклях мяне кранула ўсё. Я сядзеў і плакаў, калі саліравала дзяўчынка з Бабруйска. Яна пела шчыра. Я ўдзячны Богу за тое, што трапіў на фестываль.

— У нашым манастыры, у нашай нядзельнай школе, у нашым тэатры сёння адбылася прэм'ера. Усе вы без выключэння малайцы. Журы атрымала задавальненне ад вашых работ. Мы вас нечаму вучым, але і вы, скажу па сакрэце, нас таксама вучыце. Заставайцеся такімі ж жывымі і шчырымі, не губляйце любоў, — адзначыў у сваёй прамове да артыстаў Аляксандр Ждановіч. — Тут не спаборніцтва, не Алімпійскія гульні. Мы ніякіх месцаў не займаем — проста прыходзім дзяліцца сваімі талентамі. Спадзяюся, што вам спадабалася і мы будзем сустракацца надалей.

**Зміцер АРЦЮХ,**
**фота з сайта *obitel-minsk.by***

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2490.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 05.06.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2392.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686